ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

12 СТУДЗЕНЯ 1996 г. № 2 (3826) Кошт 2 500 руб.





*Сярод бялеючых снягоў,*
*На скрыжаванні ста вятроў,*
*Куды прыходзіць, грэшным, нам,*
*Стаіць, як свечка, белы Храм.*

*Нам Храма боскае святло,*
*Што ёсць, што будзе, што было,*
*Вачамі і душою піць*
*І белы свет, і белы снег любіць.*

Фота А. МАЦЮША

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Некалі "ЛіМ", прынамсі, у калонцы "Кола дзён", быў паслядоўным прыхільнікам ідэі захавання на Беларусі парламенцкай рэспублікі і лічыў, што ўвядзенне ў нашай краіне прэзідэнцтва, як неабмежаванай улады аднаго чалавека, нам пакуль супрацьпаказана. Па простай прычыне: неабмежаваная ўлада можа "сапсаваць" любога чалавека, парламент жа, дзе збіраецца разам 260 ці 350 чалавек, ніколі не "секане з пляча" і любое ягонае рашэнне будзе папярэдне ўсебакова абмеркавана, узважана. Вядома, і тут можа мець месца папулізм, палітычная амбіцыйнасць ды іншае, але не ў такой жа ступені... Падзеі апошніх гадоў, і асабліва апошніх месяцаў, калі народ застаўся без парламента, сам-насам са сваім усенародным абраннікам, які пачаў кіраваць дзяржавай з дапамогай указаў, многія з якіх, паводле рашэнняў Канстытуцыйнага суда, не адпавядалі Канстытуцыі краіны, — на жаль, пацвердзілі гэта. Упершыню мы з палёгкай уздыхнулі, калі на пачатку зімы, нарэшце, быў абраны новы парламент. Пазаўчора стала дыхаць яшчэ лягчэй: без доўгіх родавых пакутаў парламент займеў свайго кіраўніка. Мяркуючы па шматлікіх перадвыбарных інтэрв'ю (у тым ліку і ў "ЛіМе"), старшыня Аграрнай партыі, а цяпер і Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі стаіць на дэмакратычных пазіцыях. Яшчэ да яго абрання, аналізуючы палітычную і эканамічную сітуацыю ў краіне і склад парламента, большасць сацыёлагаў схілялася да таго, што канфрантацыя паміж выканаўчай уладай і парламентам непазбежная. Як будзе паводзіць сябе ў гэтай сітуацыі С. Шарэцкі, ці хопіць у яго сілы і мужнасці паслядоўна адстойваць ідэі дэмакратыі? Час пакажа...***

## *НЕДАЎМЕННЕ ТЫДНЯ*

На пачатку года ў Беларусі з'явілася дзіўнае стварэнне: аргкамітэт Камітэта грамадскай падтрымкі першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Хоць з заявы аргкамітэта вынікае якраз адваротнае: такому "народнаму палітыку", "народнаму прэзідэнту", які летась захаваў на Беларусі "спакой на вуліцах і адносны дастатак у дамах" — падобныя камітэты падтрымкі не трэба, бо і без таго "сёння большасць беларускіх грамадзян аддалі б свае галасы за А. Р. Лукашэнку, калі б зноў адбыліся прэзідэнцкія выбары". Падобныя заявы ў друку ніяк не дадаюць аўтарытэту сп. прэзідэнту, а, наадварот, наводзяць на думку, што калі ветэраны Узброеных Сіл і пенсіянеры вырашылі бараніць ад кагосьці свайго прэзідэнта, то — няўжо яму і праўда што-небудзь пагражае?

## *УГАНАРАВАННЕ ТЫДНЯ*

У Дзяржаўным акадэмічным тэатры оперы і балета 7 студзеня адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння прэмій года. Каму? "Людзям творчай працы, чыя духоўная дзейнасць у мінулым годзе стала адметнай з'явай для культуры Беларусі". Цалкам заканамерным, у такім выпадку, здаецца з'яўленне сярод лаўрэатаў такіх асоб, як мастак Уладзімір Савіч, рэжысёр Барыс Герлаван, спявак Анатоль Ярмоленка, гімнаст Віталь Шчэрба, балетмайстар Валянцін Елізар'еў і нават — Ліліяна Анцуг у намінацыі "Духоўнае адраджэнне", хоць, шчыра прызнацца, гэтае імя абсалютна невядомае на Беларусі, і пэўна, большасць чытачоў "ЛіМа" пачула яго ўпершыню. Сярод "творчых" намінацый сёлета дадаткова, па просьбе "многіх грамадскіх арганізацый" з'явілася намінацыя "палітыка". Палітыкам года стаў прэзідэнт краіны А. Лукашэнка. Літаратуру ж арганізатары конкурсу па-ранейшаму ігнаруюць, не заўважаюць: няма сярод намінацый ні паэзіі, ні прозы. Прэмію ў галіне журналістыкі вырашана ўручыць у Дзень друку. Таксама зразумела чаму: "свае" журналісты выглядаюць смешна, а апазіцыйных называць — гусей дражніць... На цырымоніі выступіў прэзідэнт, аб'явіўшы, што Дзяржаўны акадэмічны тэатр оперы і балета становіцца цяпер "прэзідэнцкім," і паабяцаўшы творчым саюзам выдзеліць 150 кватэр...

## *НАПАМІН ТЫДНЯ*

Калі, нарэшце, на Беларусі з'явіцца лідэр, які зможа "расплюшчыць" вочы народу, які распавядзе, колькі шкоды нанеслі нашай незалежнай краіне гульні ў розныя саюзы, зоны, прасторы ды заглядванне ў рот суседцы? У сваім інтэрв'ю "Інтэрфаксу" былы міністр замежных спраў Беларусі, народны дэпутат П. Краўчанка прывёў толькі адзін прыклад з гісторыі падзелу СССР на незалежныя дзяржавы — ядзернае раззбраенне. Аказваецца, толькі выплата кампенсацый за уран, які здабываецца з выводзімых у Расію ракет тактычнага і стратэгічнага прызначэння, "дала" б нашай краіне 1—1,5 мільярда долараў ЗША. Дарэчы, у адрозненне ад іншых грошай, якія былі "падораны" нашай суседцы ўгодлівымі кіраўнікамі, запатрабаваць гэтыя і цалкам законна, і яшчэ не позна. Толькі хто гэта зробіць?

## *ВАКАЦЫІ ТЫДНЯ*

Усё-такі сёе-тое з капіталістычных традыцый на Беларусі апошнім часам прыжываецца. Вось, скажам, калядныя канікулы. Прыйшлі яны і да нас. Найперш на вытворчасць. Для нешматлікіх кіраўнікоў прадпрыемстваў Беларусі сталі яны, калядныя канікулы, добрай і своечасовай знаходкай: і завод не працуе, і апраўданне ёсць. Толькі вось многія прадпрыемствы, такі монстр, як МТЗ, напрыклад, дагэтуль ніяк не выйдуць цалкам з каляднага "загулу", на большасці ж з тых, што пачалі працаваць, паведамляе, "Белорусская газета", тэмпература ў цэхах усяго на 5-7 градусаў вышэй нуля і рабочыя вымушаны грэцца ля "буржуек". Страйкі — таксама з'ява не сацыялістычная, а капіталістычная. І яны пачалі ў нас прыжывацца. Спыніць іх сёлета зможа толькі "генерал Мароз"...

## *ФАКТ ТЫДНЯ*

Падзея гэтая адбылася ў суседняй дзяржаве, але ўскалыхнула ўвесь свет. Чачэнскія баевікі ледзь не паўтарылі "Будзёнаўск" у Расіі. Яны захапілі бальніцу ў дагестанскім горадзе Кізляр. Як бы ні закончыліся падзеі там, гэты факт гаворыць пра многае. Колькі б ні стараліся расійскія сродкі масавай інфармацыі ператварыць барацьбу чачэнскага народа ў фарс — там адбываецца трагедыя. Прычым з абодвух бакоў. Чачня — пракляцце Расіі і, магчыма, пачатак развалу імперыі — Расійскай Федэрацыі, якая змагла захавацца пасля СССР. А нам трэба быць удзячнымі Богу за тое, што паслаў нам незалежнасць, і трэба берагчы яе і ўсяляк умацоўваць. Гэта толькі дзякуючы незалежнасці нашы хлопцы не праліваюць кроў за інтарэсы чужой дзяржавы далёка-далёка ад роднага дому.

# ПАРЛАМЕНЦКІ КАРАБЕЛЬ НАБЫЎ КАПІТАНА

Гэтыя мае нататкі прысвечаны адкрыццю першай сесіі новага Вярхоўнага Савета, але пачну я іх з падзеі, якая, на першы погляд, не мае да яе прамых адносін. Як цяпер стала вядома, у самы пярэдадзень Новага года кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч ад імя свайго патрона прапанаваў пайсці ў адстаўку старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Валерыю Ціхіню. У выпадку адмовы прэзідэнт пагражаў зняць яго з пасады сваім спецыяльным указам.

Разборкі кіраўніка дзяржавы з Канстытуцыйным судом, які апошнім часам зафіксаваў каля дзесятка парушэнняў прэзідэнтам Канстытуцыі, даўно сталі сакрэтам Палішынеля. І, тым не менш, гэты апошні афронт сп. Лукашэнкі, на мой погляд, быў прадыктаваны не столькі жаданнем пазбавіцца непаслухмянага суддзі, колькі імкненне пабачыць, як на гэта зрэагуе новы парламент. Гэткая, карыстаючыся ваеннай тэрміналогіяй, "разведка боем", мэта якой — вызначыць ступень лаяльнасці дэпутатаў да прэзідэнта.

Калі ў Аляксандра Рыгоравіча раней і мелася нейкая няўпэўненасць на гэты конт, дык цяпер усякім ілюзіям, думаецца, пакладзены канец. Я маю на ўвазе апублікаваную ў "Народнай газеце" за 5 студзеня заяву 132 дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання, дзе згаданы крок прэзідэнта быў расцэнены як, цытую: "Факт незаконнага ўціску на Канстытуцыйны суд, які сведчыць пра тое, што пэўныя сілы ў акружэнні кіраўніка дзяржавы штурхаюць яго на новы вiток канфрантацыі з іншымі галінамі ўлады... Дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання выказваюць глыбокую заклапочанасць чарговым парушэннем з боку Адміністрацыі прэзідэнта закладзенага ў Канстытуцыі прынцыпу раздзялення ўлад. Абвастрэнне выклікае тым большае неўразуменне, што нагнятаецца ў пярэдадзень першага пасяджэння Вярхоўнага Савета новага склікання".

Цяжка сказаць, ці зрабіла гэтая заява ўражанне на сп. прэзідэнта і, мабыць, не адзін я задаваў сабе пытанне, як ён сябе павядзе ў час сустрэчы з усім дэпутацкім корпусам 9 студзеня на першым пасяджэнні новага Вярхоўнага Савета. Цяпер можна з упэўненасцю сказаць, што, нягледзячы на пэўныя авансы і кампліменты на адрас новага парламента, што прагучалі ў "троннай" прамове прэзідэнта, нягледзячы на яго абяцанне жыць і працаваць у згодзе з іншымі галінамі ўлады, сп. Лукашэнка недвухсэнсоўна даў зразумець, што асноўнай сваёй задачай лічыць далейшае ўмацаванне прэзідэнцкай улады, і ні ў кога не павінна быць сумненняў на гэты конт.

Неўзабаве парламентарыі пераканаліся ў тым. Варта было створанай рэдакцыйнай камісіі выкласці свае прапановы па асвятленні ў сродках масавай інфармацыі працы першай сесіі новага парламента, у якіх прадугледжвалася адказнасць за гэтую справу і дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, як у Авальнай зале прагучала папярэджанне сп. Лукашэнкі, што тэлерадыёкампанія, паводле прэзідэнцкага ўказа, уваходзіць у структуру выканаўчай улады, і толькі з дазволу яго, прэзідэнта, можна распараджацца яе дзейнасцю.

Манапалізацыю прэзідэнцкай уладай рэспубліканскага тэле- і радыёэфіру многія дэпутаты адчулі на сабе ў час выбарчай кампаніі, якая праводзілася ў абстаноўцы сапраўднай інфармацыйнай блакады. Мо таму праект пастановы рэдакцыйнай камісіі выклікаў досыць ажыўленую дыскусію, у выніку якой праект вырашаны было адправіць на дапрацоўку з улікам прапаноў, выказаных дэпутатамі і прэзідэнтам. Каб больш не вяртацца да гэтай тэмы, адразу скажу, што і новы праект пастановы, выкладзены на наступны дзень старшынёй рэдакцыйнай камісіі Л. Юнчыкам, не задаволіў дэпутатаў, а некаторых проста абурыў сваім згодніцтвам, бояззю выклікаць незадавальненне прэзідэнта. Калі сп. Юнчык, які трымаўся на трыбуне крайне няўпэўнена, пачаў распавядаць, як ён утрасаў праект пастановы з кіраўніком дзяржтэлерадыёкампаніі сп. Кісялём, чаша цярпення ў некаторых дэпутатаў перапоўнілася. "Не кіраўнік тэлерадыёкампаніі павінен дыктаваць нейкія ўмовы Вярхоўнаму Савету, а ўсё павінна быць наадварот", — выказаў сваё абурэнне С. Шушкевіч. Яго падтрымалі В. Ганчар, Г. Карпенка, С. Багданкевіч, іншыя парламентарыі, якія заклікалі Вярхоўны Савет узяць пад кантроль выкананне Закона аб друку, які пастаянна парушаецца прэзідэнцкай уладай. Большасцю галасоў было вырашана праект пастановы вярнуць рэдакцыйнай камісіі на новую дапрацоўку.

Але, відаць, каб ні ў кога не заставалася сумненняў адносна таго, каму належыць канкрэтная ўлада, тэлетрансляцыя з Авальнай залы, дзе праходзіла першае пасяджэнне новага парламента, была спынена а палове дванаццатай 9 студзеня. На наступны дзень дэпутаты не ўбачылі ў зале ніводнай тэлекамеры.

І яшчэ адзін штрых, што характарызуе стаўленне ідэалагічнай службы прэзідэнта да прадстаўнікоў мас-медыя, асабліва — незалежнай прэсы. Журналісты, якія раніцой 10 студзеня прыйшлі ў прэс-цэнтр Вярхоўнага Савета, каб адсюль сачыць за працай сесіі, былі пазбаўлены гэтай магчымасці, бо устаноўленыя тут маніторы былі тым жа ведамствам сп. Кісяля адключаны, і журналісты, якія не мелі прапускоў у Авальную залу, засталіся без усякай інфармацыі.

Цяпер — пра самае галоўнае: выбары Старшыні Вярхоўнага Савета. Вакол гэтай, несумненна важнай, падзеі ў некаторых газетах яшчэ задоўга да пачатку сесіі быў створаны пэўны ажыятаж. А паважаная "Народная газета", да прыкладу, з гэтай нагоды нават арганізавала своеасаблівы таталізатар, заклікаўшы сваіх чытачоў угадаць прозвішча будучага спікера.

...Калі старшыня Цэнтрвыбіркама А. Абрамовіч, які адкрываў і вёў першае пасяджэнне новага парламента, прапанаваў дэпутатам прыступіць да вылучэння кандыдатур на крэсла Старшыні Вярхоўнага Савета, першым пасля доўгай паўзы, якая раптам запанавала ў Авальнай зале, узяў слова старшыня фракцыі камуністаў праламента В. Новікаў. Ён прапанаваў на пасаду спікера першага сакратара ЦК партыі камуністаў дэпутата С. Калякіна. Для мяне асабіста прапанова гэтая падалася досыць нечаканай, бо лічылася яшчэ да сесіі, і гэта было пацверджана досыць аўтарытэтнымі крыніцамі, што фракцыі камуністаў і аграрыяў будуць выступаць у парламенце адзіным блокам і вылучаць агульную кандыдатуру на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета. Не рабілася тайны з таго, што гэта хутчэй за ўсё будзе кандыдатура старшыні самай вялікай у парламенце фракцыі аграрыяў С. Шарэцкага. Зрэшты, не адмаўляў гэтага і сам Сымон Георгіевіч падчас нашых з ім сустрэч. І вось, калі ласка...

Ужо пасля вылучэння, у перапынку, я пацікавіўся ў аднаго з членаў палітсавета Аграрнай партыі, чаму ж так, і пачуў у адказ, што камуністы ў самы апошні момант здрадзілі дасягнутым дамоўленасцям, матывуючы гэта тым, што калі яны не вылучаць сваю кандыдатуру — камуніста, іх не зразумеюць радавыя члены ПКБ. Ад сябе дадамо, што, мабыць, у палоне эйфарыі ад адноснага поспеху на апошніх выбарах камуністы так і не зразумелі, што з'яўленне на палітычнай арэне рэспублікі спікера-камуніста, а гэта значыць другой па значэнні пасля прэзідэнта фігуры, садзейнічала б міжнароднай ізаляцыі Беларусі, перакрыла б і без гэтага нямногія шляхі замежных інвестыцый у эканоміку краіны.

Сярод вылучаных кандыдатаў на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета былі: ад аграрыяў — С. Шарэцкі, ад "Грамадзянскага дзеяння" — С. Багданкевіч, сацыял-дэмакратаў — П. Краўчанка, асобнымі дэпутатамі кандыдатамі на крэсла спікера былі названы былы прэм'ер-міністр В. Кебіч і былы Старшыня Вярхоўнага Савета М. Грыб.

Усе згаданыя прэтэндэнты выступілі з праграмнымі заявамі, адказалі на пытанні дэпутатаў. Калі гаварыць пра асабістае ўражанне ад гэтых выступленняў, дык я назваў бы два прозвішчы: С. Калякіна і С. Багданкевіча. Першы ўразіў сваім надзвычай бляклым, невыразным выступленнем (падумалася нават — гэта зараз такія правадыры ў камуністаў?), другі, С. Багданкевіч, надоўга запомніцца сваёй паўгадзіннай страснай, мэтанакіраванай, пераканальнай прамовай, якая трымала ў напружанні ўсю залу, хоць, маючы на ўвазе палітычныя погляды часткі дэпутатаў, не ўсім маглі прыйсці даспадобы словы прамоўцы аб краху камуністычнага эксперыменту ў свеце, аб адзіным для Беларусі выйсці з крызісу — стварэнні рынкавай эканомікі. Аказаўся на належнай вышыні Станіслаў Антонавіч і тады, калі адказваў на пытанні, якія градам абрынуліся на яго. Пытанні ў большасці сваёй, адзначым, з падкавыркай, "на засыпку". Не застаўся тут убаку і сам прэзідэнт, не кажучы ўжо пра яго памочніка дэпутата В. Кучынскага. Можна было толькі падзівіцца, як умее былы галоўны банкір краіны "трымаць удар", як адразу пасля яго адказаў у апанентаў знікала жаданне працягваць дыскусію.

Былі ў час прэзентацыі прэтэндэнцкіх праграм і іншыя сюрпрызы. Ужо ўзышоўшы на трыбуну, раптам аб'явіў пра свой самаадвод В. Кебіч. Тое самае на наступны дзень зрабіў П. Краўчанка, вытлумачыўшы такі крок рашэннем сваёй сацыял-дэмакратычнай фракцыі. Паводле яго слоў, сацыял-дэмакраты вырашылі ахвяраваць сваім кандыдатам на карысць лідэра аграрыяў С. Шарэцкага, многія палітычныя погляды якога блізкія ім.

Такім чынам, у бюлетэнь для тайнага галасавання былі ўнесены чатыры прозвішчы: С. Багданкевіч, М. Грыб, С. Калякін і С. Шарэцкі. Як паказалі вынікі выбараў (яны праводзіліся праз кабіны), у другі тур прайшлі С. Шарэцкі — 51 голас і С. Калякін — 50 галасоў.

Відаць, усведамленне С. Калякіным таго, што ўвесь яго электарат у парламенце вычарпаны, прымусіла яго перад другім турам заявіць аб тым, што ён знімае з галасавання сваю кандыдатуру і заклікае сваіх прыхільнікаў аддаць галасы за С. Шарэцкага. Да гэтага ж заклікалі сваіх аднадумцаў С. Багданкевіч і М. Грыб.

Такім чынам, Старшынёй Вярхоўнага Савета 13-га склікання быў абраны Сымон Георгіевіч Шарэцкі. Як ён павядзе парламенцкі карабель, ці ўдасца яму вытрымаць курс, пракладзены на "карце" Канстытуцыі, пакажа будучае. Самае блізкае будучае.

**Міхась ЗАМСКІ**

З нагоды

# ЯДНАЕ НЕ ЦАР, А БОГ

У Маскве адраджаецца храм Хрыста-Збаўцы. Прычым такімі тэмпамі, нібыта гэта ўсесаюзная ўдарная камсамольская будоўля. Пасля таго, як знішчэнне храма было афіцыйна прызнана праявай бальшавіцкага варварства, у Расіі шырока разгарнулася дыскусія на тэму "адбудоўваць ці не; і калі адбудоўваць, то як?" Храм-помнік героям і ахвярам Айчыннай вайны 1812 года, але адраджацца ён павінен у новай якасці: як помнік усім загінуўшым за Расію за апошнія два стагоддзі — гаварылі адны. Не, — не згаджаліся другія, — храм павінен быць такім, якім быў на момант знішчэння. Да апошняй драбніцы. І абавязкова з помнікам імператару Аляксандру III, які разам з храмам уяўляў адзіны манументальны комплекс.

Гаварылася і пра тое, што адроджаны ў тых жа формах храм Хрыста-Збаўцы ўсё роўна будзе толькі копіяй, муляжом. А іншыя спасылаліся на адбудаваныя, лічы, ад падмуркаў знішчаны гітлераўцамі гістарычны цэнтр Варшавы і палацы прыгарадаў Пецярбурга. Была нават ідэя стварыць, так бы мовіць, прасторавы чарцёж храма. "Намаляваць" яго на фоне неба металічнымі канструкцыямі. Калі б гэтая ідэя была прынята, з'явіўся б храм-здань, храм-прывід...

Нарэшце рыса была падведзена валявым рашэннем кіраўніцтва Расіі. І вось ужо паўсталі муры і вежы храма, ужо адліты званы, у хуткім часе заззяюць пазалотаю купалы.

На Каляды ў храме, які адраджаецца, прайшла першая літургія. На ўрачыстасцях прысутнічаў прэзідэнт РФ Барыс Ельцын.

Сённяшнюю Расію ёсць шмат за што дакараць. За чачэнскую вайну, за разгул шавінізму, за імперыялізм у знешняй палітыцы. І ўсё ж Расія адбудоўвае храм... Гэта вельмі разумна. У той момант, як у дзяржаве ўзмацняюцца цэнтрабежныя працэсы, асобныя рэгіёны патрабуюць сабе статуса, накшталт таго, што мелі ў СССР саюзныя рэспублікі, адмаўляюцца плаціць падаткі ў федэральны бюджэт і пастаўляць у войска рэкрутаў, Расіі неабходна аб'ядняльная ідэя. Цяжка сказаць, наколькі пры канцы прагматычнага XX стагоддзя містычная рэлігійная ідэя зможа аб'яднаць шматнацыянальнае насельніцтва Расійскай Федэрацыі. Малаверагодна, што Расія, якую не сабрала чырвоная зорка, збярэцца пад праваслаўным крыжам. Цягнік, як кажуць, пайшоў. І ўсё ж храм — гэта шанц. Ужо ва ўсведамленні, што для аб'яднання краіны патрэбна не асоба, а ідэя — відавочны прагрэс расійскай грамадскай думкі. Каб аб'яднаць людзей, патрэбны не цар, а Бог.

Беларусь, здаецца, толькі ідзе да гэтага ўсведамлення. Пакуль што нашы сродкі масавай інфармацыі даводзяць народу, што "галіны і галінкі" павінны аб'яднацца вакол "ствала", а "ствол" у наяўнасці ўжо ёсць. Быццам іншых варыянтаў нацыянальнай еднасці, згоды няма.

Прэзідэнт РБ, як і прэзідэнт РФ, таксама на Каляды наведаў праваслаўны храм. Але ў адрозненне ад Ельцына, ён выступіў у храме амаль што з палітычнай прамовай, нібы няма розніцы паміж авальнай залай Вярхоўнага Савета і храмам Божым...

Я не вялікі прыхільнік Расіі, а тым больш небяспечнага збліжэння з ёю. Але сёння варта было б павучыцца ў расійцаў. Трэба будаваць храм. Яднае не цар, а Бог. Наш Бог — Беларусь.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Святы

# КРЫТЫЧНЫ ЎЗРОСТ, ВАРТЫ СПАДЗЯВАННЯ

29 снежня, якраз напрыканцы года мінулага, Альтэрнатыўны тэатр зазнаў адно з рэдкіх святаў — свята сотага спектакля. Возьмем пад увагу маёмасны стан Альтэрнатыўнага, ягонае недзяржаўнае паходжанне ды існаванне (а гэта значыць — без унёскаў ды ўкладанняў з боку зацікаўленай дзяржавы), каб зразумець важкасць падзеі. Сотая — "Камедыя..." У. Рудава паводле К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча, спектакль, які сярод самых важкіх сваіх прызоў на фестывалях мае галоўны неаспрэчны — глядацкае захапленне. З ім, захапленнем, ужо пасля спектакля правОдзілі невялікі аўкцыён на карысць удзельнікаў спектакля. Распрадавалі... рэквізіт "Камедыі...": яйка Давіда, напрыклад, пайшло за сто доляраў. Як сапраўдны твор мастацтва. Праўда, перш чым дайсці да аўкцыёна, яно пабыло ў руках Людмілы Шчамялёвай ды Ігара Рымашэўскага, знаных мастакоў...



Вядома, распродаж рэквізіту спектакля быў жартам. Вядома, можна будзе глядзець "Камедыю..." і сто першы раз, і, дасць Бог, двухсоты. Акцёры атрымалі невялікую грашовую ўзнагароду за тое, што давялі-такі спектакль да сотага паказу. Дарэчы, у зале сядзелі ды па калідорах, чакаючы, шпацыравалі ўсе-усе, хто гэтую "Камедыю..." хоць калі іграў, а яна, як вядома, трапіла ў Альтэрнатыўны з акцёрскага курса былога Тэатральна-мастацкага інстытута, а кіраваў ім тады рэжысёр-педагог Андрэй Андросік. Усе купленыя прадметы вярнулі ў музей тэатра. Яго, праўда, яшчэ няма. Але ж экспанаты вымагаюць... Самым здавольным удзельнікам святкавання сотага спектакля, здаецца была Людміла Русак, менеджэр тэатра. Яна ж — галоўны фундатар вечарыны. "Альтэрнатыўны — гэта сіла. І дбайная гаспадарская рука прыдалася як ніколі", — сведчылі ўдзельнікі, госці, гульцы ды калегі. Падзелім іх рацыю. Альтэрнатыўнаму — сёмы год. Як для тэатра, дык узрост крытычны. Балазе, пазначаны ён сотым паказам "Камедыі...", а гэта спадзяванне варта...

**Ж. Л.**

Віншуем!

# НАШЫ ЛАЎРЭАТЫ

## РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА "ЛіМа" НАЗВАЛА АЎТАРАЎ ЛЕПШЫХ ПУБЛІКАЦЫЙ ТЫДНЁВІКА Ў МІНУЛЫМ ГОДЗЕ — ЛАЎРЭАТАЎ ПРЭМІІ "ЛіМа" І "ДАЙНОВЫ".

Дзякуючы падтрымцы фірмы "Дайнова" ўручэнне штогадовых прэмій за лепшыя публікацыі ў "ЛіМе" стала ўжо добрай традыцыяй. Сярод лаўрэатаў мінулых гадоў — вядомыя на Беларусі дзеячы культуры, літаратуры, мастацтва.

Не проста было вызначыць лепшых з лепшых і сёлета. Праўда, самакрытычна аглядаючы кожны новы нумар, мы рэдка бываем задаволены ім. Але, перагортваючы гадавую падшыўку, бачым, што адметных, запамінальных публікацый магло б набрацца на добры альманах, што прэтэндэнтаў на прэміі "ЛіМа" і "Дайновы" і на гэты раз нямала. У рэшце рэшт рада "ЛіМа" прыняла рашэнне — аўтарамі лепшых публікацый 1995 года прызнаць:



Па публіцыстыцы — **Анатоля Вярцінскага,** за артыкул "Дык ці адбыўся рэферэндум?" (N 38, 22 верасня).



**Віктара Каваленку,** за артыкул "Заклік да маршу ў нікуды" (N 14, 7 красавіка).



Па прозе — **Юрыя Станкевіча,** за сатырычную аповесць "Парыж — Лабідудава" (N 37, 15 верасня) і апавяданне "Гульня бронзавак у святле поўні" (NN 23—24, 23 чэрвеня).



Па паэзіі — **Эдуарда Акуліна,** за нізкі вершаў "І я душой заўжды святлею" (N 10, 10 сакавіка) і "Водсветы лісцёвай пазалоты" (N 40, 6 кастрычніка).



Па крытыцы — **Надзею Бунцэвіч,** за артыкулы "Пабазарылі — і годзе! Да сустрэч у наступным годзе?" (N 35, 1 верасня) і "Першы снег" (N 14, 7 красавіка).

Адгалоскі

# ЯШЧЭ АДНО "ДЗІЦЯ ХЛУСНІ"

## ПРА "ВЫСОТЫ" І "БЛЕСК" АДНОЙ ПУБЛІКАЦЫІ

У ранейшыя часы "ЗЮ" здзіўляла мяне тым, што па яе змесце цяжка было здагадацца, дзе выходзіць газета — у сталіцы Беларусі ці ў Курскай, скажам, вобласці. Цяпер становішча мяняецца: усё часцей мільгаюць на старонках мясцовыя прозвішчы, рэаліі, праблемы. Праўда, у ракурсе своеасаблівым. Як ставіцца газета да пытанняў культуры, палітыкі, дзяржаўнага станаўлення, грамадскага супроцьстаяння розных сіл і накірункаў, добра відна на артыкуле Сяргея Голубева "Духовное местничество, или Синдром первого парня на деревне" (9 снежня 1995 г.).

Унікальны ў нейкім сэнсе матэрыял! Нават не "адлуп", бо "адлуп" мае ў аснове нейкі выпад, якуюсь крытычную зачэпку. Такі прыём у прастамоўі называецца "мордай аб гразь", і тут ён паспяхова скарыстаны. Ну што зробіш: светапогляд у аўтара такі, выхаванне савецкае. Ну, гідзіцца ён усяго таго, што так або інакш тычыцца нацыянальнай праблематыкі, і цяперашняя ўнутрыпалітычная сітуацыя дазваляе яму выказацца публічна — прылюдна разадраць кашулю на грудзях. Справа ў тым, што "первым парнем на деревне" здаўна прывык адчуваць сябе ён сам — як прадстаўнік рускамоўнай большасці. Але сёння, аказваецца, сістэма каштоўнасцей мяняецца, і для высокай самаацэнкі яму не хапае нейкай дробязі — **мовы.** Вось ён, бедны, і тузаецца, і пырскае слінай, і тыя пырскі разлятаюцца па тэксце шматлікімі красамоўнымі двукоссямі: "тутэйшая эліта", "родная мова", "адраджэнцы", "мовазнаўцы"... Без двукоссяў ужываюцца наступныя каларытныя спалучэнні і назоўнікі: **мелкотравчатая козявочность, пигмеи духа, убожество, эрзац-элита** і да т. п. Папахвае паталогіяй. Псіхааналітык, мабыць, сказаў бы, што такім чынам знаходзіць выйсце падсвядомая агрэсія аўтара.

Што ж канкрэтна выводзіць яго з раўнавагі, прымушае так не памужчынску захліпацца і махаць кулачкамі?

Па-першае, наяўнасць разумных беларусаў, якія і пасля рэферэндуму жывуць і працуюць, не схільныя бачыць у спецыфічнай — хай сабе і паспяховай для некага — акцыі канец свету.

Па-другое, артыкул В. Дашука ў "Народнай газеце" (карыстаючыся выпадкам, выкажу аўтару сваю найвялікшую пашану за праўду і асабістую мужнасць).

Па-трэцяе, гэта "Настаўніцкая газета", якая намерылася ні многа, ні мала — "запретить русский язык". Указ рыхтуе адпаведны, ці што?

Больш чым каму дасталося Нілу Гілевічу. Нездарма кажуць, што маланкі ў высокае дрэва трапляюць... Аўтару "ЗЮ" малюецца апакаліптычная карціна: у нашых школах раптам адмянілі вывучэнне Пушкіна, Ясеніна, Ахматавай, і ўсю праграму па літаратуры заняў сабой выключна Ніл Сымонавіч. (Пра Купалу, Куляшова, Караткевіча С. Голубеў, напэўна, не чуў).

Па ўсёй бачнасці, вядомы наш паэт, публіцыст і палітык усур'ёз "правініўся" перад антыбеларускімі сіламі Беларусі, што "спадобіўся" такой увагі і асобнага абзаца ў пасквілі. (Вось і вызначэнне жанравае знайшлося!) Усе астатнія — Пазняк, Шушкевіч, Багданкевіч, Ганчар і Булахаў — ідуць чамусьці сціплым пералікам. Так вам і трэба! Не заслужылі.

Страшэнна раздражняе С. Голубева і сам факт перакладу рускіх класікаў на беларускую "няродную" мову. Трэба разумець, на іншыя мовы іх перакладаць не асмельваюцца.

К фіналу сутнасць праблемы і ўвогуле утрыруецца, зводзіцца ў чыста утылітарнае рэчышча: кормяцца нашы літаратары з беларускага слова, вось і даводзіцца ім хочаш — не хочаш змагацца за яго існаванне. Каб з голаду не памерці. Хаця, разважыўшы, куды працей было б на другі дзень пасля майскага апытання ўзяць ды перайсці на "великий и могучий". Заадно і капейку большую атрымалі б, і тыражы інакшыя, і начальства прыхільней глядзела б — як на Яроменку, скажам, або Скобелева... Пра адраджэнцаў аўтар артыкула піша як пра нейкіх дрымучых невукаў ці неандэртальцаў, што адгарадзіліся ад рускай культуры, "от высот ее духовности и блеска ее абразцов" і нават маюць намер "затмить ее блеск" сваімі нікчэмнымі творамі.

Дзіўныя рэчы на свеце дзеюцца! Чаму ж гэтыя "высоты" і гэты "блеск" не навучылі іх адэпта ні разуменню сутнасці з'яў і праблем, ні элементарным этычным нормам? Чаму маладзёжная газета, таксама выхаваная на гэтых "образцах", так мала дбае пра свой аўтарытэт? Можа, спадзяваліся, што вывезе рубрыка — "НебесСПОРные заметки"...

Адно не падлягае сумненню: аўтар не проста аслеплены злосцю — ён палітычна заангажаваны, і размаўляць з ім можна толькі так, як Статкевіч з Азаронкам. Што ж да эліты, якую топча нагамі яшчэ адно "дзіця хлусні", то яна ў нас сапраўды ёсць. І яна нідзе і ніколі не палемізавала са сваімі апанентамі на такім маргінальным, "шарыкаўскім" узроўні.

**ЛІМАВЕЦ**

# Іван ЧЫГРЫНАЎ



Цяжкую страту панесла беларуская літаратура — 5 студзеня 1996 года пасля працяглай хваробы памёр народны пісьменнік Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, член калегіі Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, старшыня праўлення Беларускага фонду культуры Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў.

Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў нарадзіўся 21 снежня 1934 года ў вёсцы Вялікі Бор Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыўшы ў 1952 годзе Саматэвіцкую сярэднюю школу, паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Пасля заканчэння універсітэта працаваў рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі літаратуры і мастацтва ў выдавецтве Акадэміі навук Беларусі. У 1965—1975 гг. — рэдактар аддзела публіцыстыкі і нарыса ў часопісе "Полымя". З 1975 года ён працуе намеснікам старшыні, а з 1976 па 1986 год — сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1987 годзе Іван Чыгрынаў быў абраны старшынёй праўлення Беларускага фонду культуры, адначасова працаваў галоўным рэдактарам часопіса "Спадчына". Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР (1986—1990), узначальваў пастаянную Камісію Вярхоўнага Савета БССР па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах.

Першым празаічным творам Іван Чыгрынаў дэбютаваў у рэспубліканскім друку ў 1958 годзе. Таленавітыя кнігі празаіка адразу звярнулі ўвагу надзённасцю ўзнятых праблем і праўдзівасцю паказу жыцця. Ён аўтар кніг апавяданняў і аповесцей "Птушкі ляцяць на волю" (1965), "Самы шчаслівы чалавек" (1967), "Ішоў на вайну чалавек" (1973), раманаў "Плач перапёлкі" (1972), "Апраўданне крыві" (1977), "Свае і чужыя" (1984), "Вяртанне да віны" (1991).

Значны ўклад Івана Чыгрынава ў нацыянальную драматургію. Яго пяру належаць п'есы "Дзівак з Ганчарнай вуліцы" (1986), "Следчая справа Вашчылы" (1988), "Чалавек з мядзведжым тварам" (1988), "Звон — не малітва" (1988), "Толькі мёртвыя не вяртаюцца" (1989), "Ігракі" (1989) і іншыя.

Найвышэйшым дасягненнем у творчасці пісьменніка з'явіліся творы, прысвечаныя тэме вайны. У яго раманах грунтоўна адлюстравана атмасфера ваеннага часу, паказаны вытокі гераізму і мужнасці беларускага народа. Гэтыя творы набылі шырокую папулярнасць у нашага чытача.

Іван Чыгрынаў — адзін з аўтараў сцэнарыя шматсерыйнага фільма "Руіны страляюць..."

Творы Івана Чыгрынава атрымалі вядомасць і далёка за межамі нашай краіны. Яны перакладзены на многія мовы свету.

Адметны майстар мастацкага слова, Іван Чыгрынаў працаваў над сваімі творамі натхнёна, старанна і самаадданa. Нягледзячы на цяжкую хваробу, ён да апошняга часу не выпускаў з рук пісьменніцкае пяро. Выдатны і арыгінальны празаік, мастак са сваёй тэмай, адгукаўся на самыя балючыя, надзённыя пытанні нашага жыцця, быў здольны зазірнуць у самыя патаемныя куточкі чалавечай душы. Ён любіў сваю Бацькаўшчыну, рабіў усё для нацыянальнага Адраджэння Беларусі.

Праца пісьменніка, яго грамадская дзейнасць былі годна ўшанаваны ўрадам. Ён быў узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, медалямі.

Пайшоў з жыцця таленавіты пісьменнік, добры, зычлівы сябра, чалавек высокай маралі, высакародных памкненняў, якім ганарыцца Радзіма. Светлая памяць аб Іване Чыгрынаве назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Лукашэнка А.Р., Мясніковіч М.У., Чыгір М.М., Шэйман В.У., Ціцянкоў І.І., Русакевіч У.В., Замяталін У.П., Бутэвіч А.І., Стражаў В.І., Сянько У.Л., Ганчарык У.І., Кулічкоў А.М., Ярмошын У.В., Матусевіч М.В., Барадулін Р.І., Брыль І.А., Быкаў В.У., Гілевіч Н.С., Навуменка І.Я., Шамякін І.П., Адамчык В.У., Андраюк С.А., Аўрамчык М.Я., Агееў А.М., Багданава А.Я., Болтач В.У., Бугаёў Зм.Я., Бураўкін Г.М., Васіль Вітка, Вярцінскі А.І., Гарэцкі Р.Г., Гіль М.С., Гніламёдаў У.В., Грахоўскі С.І., Жалязоўскі А.П., Далідовіч Г.В., Дудараў А.А., Законнікаў С.І., Зуёнак В.В., Каваленка В.А., Казько В.А., Максім Лужанін, Кудравец А.П., Ліпскі У. С., Лукша В.А., Макаль П.М., Масарэнка А.Г., Някляеў У.П., Паўлаў У.А., Пашкевіч Н.Е., Пісьмянкоў А.У., Пташнікаў І.М., Сіпакоў І.Д., Супрунчук В.П., Шабалін А.А., Юрэвіч У.М., Яроменка М.М.**

## ШТО СКАЗАЦЬ?..

**Як сказаць перапёлцы**
**Вестку горкую гэту?**
**Што сказаць перапёлцы,**
**Калі двору прыеду?**

**Што сказаць мне, зямляча,**
**Соснам нашага боку?**
**Яны стогнуць без плачу,**
**Пачуўшы пра гора.**

**Што сказаць мне сялібам**
**Па-над Бесяддзю мілай,**
**Дзе хадзіў Ты з Зазыбам,**
**Дзе Ты думаў з Вашчылам...**

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

## ЯГО ТВОРАМ ЖЫЦЬ ВЕЧНА

Балюча ўсведамляць, што скончыўся жыццёвы шлях Івана Чыгрынава. Я ведаў яго больш як сорак гадоў. Неяк улетку сядзеў на беразе Бесядзі з кніжкаю. Падыходзіць высокі, цыбаты хлопец у акулярах. "Ну, здароў! Што чытаеш?" Я паказаў кнігу. "Дзе вучышся?" — "У Магілёўскім культасветвучылішчы". — "У газеты пішаш? Давай у раёнку. Я там на практыцы. Чыгрынаў Іван", — падаў руку.

Так мы пазнаёміліся. Ад маёй вёскі Клеявічы да яго Вялікага Бору — тры вярсты.

З таго часу я чытаў усё, што выходзіла з-пад пяра Чыгрынава. Праз шмат гадоў лёс звёў нас у часопісе "Полымя". Праўда, ненадоўга — праз нейкі час ён перайшоў на працу ў Саюз пісьменнікаў.

Вядома, мы часта сустракаліся і ў Доме літаратара, і на радзіме — таксама. Помню ўсхваляванага Чыгрынава, калі яму ўручалі шырозную чырвоную стужку ганаровага грамадзяніна г. Касцюковічы...

Зусім нядаўна, у сярэдзіне лістапада мінулага года, у рэдакцыю прозы выдавецтва "Мастацкая літаратура" завітаў незнаёмы чалавек: "Мне трэба Лявонаў". Я здзівіўся, бо даўно адвык ад свайго "дзявочага" прозвішча. "Я ад Чыгрынава. Прынёс яго рукапіс".

Гэта быў супрацоўнік Беларускага фонду культуры. Я пагартаў рукапіс і ўзрадаваўся: тут быў новы раман і апавяданні. А вясною Чыгрынаў прыносіў нам заяўку на кніжку апавяданняў. Пра новы раман не ўспамінаў.

У той жа дзень я пазваніў Чыгрынаву дамоў, павіншаваў з новым раманам. "Дзякуй, зямляк. Стаміў мяне гэты раман. А цяпер машыністкі мучаюць. У Збор твораў — трэба экземпляр, у часопіс "Полымя"... І вам у выдавецтва... Але, здаецца, усё зрабіў..."

Голас Чыгрынава быў стомлены, глухаваты, старэчы. Тады я не мог падумаць, што гэта апошняя наша размова...

Іван Чыгрынаў зрабіў шмат. Пяць раманаў, звязаных адны́мі героямі, месцам дзеяння — з'ява унікальная і, мабыць, не толькі для беларускай літаратуры. А яго выдатныя апавяданні, больш дзесятка п'ес, у якіх уся гісторыя Беларусі?!

Бывай, дарагі зямляк, нястомны ратай беларускай літаратурнай нівы. Твае творы будуць жыць вечна.

**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**

## ГРУНТОЎНАСЦЬ

Іван Чыгрынаў неяк адразу, памінуўшы пару пасталення, заявіў сябе ў прозе як самастойны талент, якога не трэба было вадзіць за руку. Часам няўрымслівыя крытыкі (і я ў тым ліку) кідалі яму не заўсёды ўзважаныя дакоры ў незахаванні "прапорцый" станоўчых і станоўчага ў тым ці іншым завостраным павароце сюжэта ў апавяданні, ды і ў раманах. А ён, глыбока перакананы ў справядлівасці сваіх падыходаў да кожнага вобраза, "стаяў на сваім" і перамагаў. Гэтай апантанасці можна было толькі вучыцца ў яго, бо менавіта сваё, сто разоў перадуманае і ўзважанае на вагах сваіх, выверaных вопытам сваім і "чужым", неяк рана заяўленым мастакоўскім прафесіяналізмам абыходжання са словам, І. Чыгрынаў стаяў побач з тымі, хто ўжо ішоў у прозе сваёй сцежкай — самабытнай, ясна бачнай, грунтоўнай.

І што характэрна, набытае ў гады універсітэцкай вучобы, моцна прасякнутае модным па тым часе ідэалагічным падыходам рана дало магчымасць пісьменніку зразумець, што ніякага "метаду сацыялістычнага рэалізму" не існуе, усё гэта было і застаецца надуманым "тэарэтыкамі" літаратурнай творчасці. Гэткія высновы мы, сустракаючыся з Іванам Гаўрылавічам, увесь час не пакідалі ў спакоі, асабліва ў апошнія гады, якія былі для пісьменніка выключна драматычнымі. Непрыкметна неяк наваліўшыся, хвароба мэтанакіравана падступалася да мастака слова, апантанага безліччу задум ды няскончанай працай над мастацкім увасабленнем гістарычнага шляху беларускага народа, яго ўзыходжанню па балацянай дрыгве да вышынь сацыялізму, які насуперак партыйнай прапагандзе так і застаецца пакуль што марай, а ява сучаснага жыцця стала настолькі драматычнай, што пісьменніку заставалася адно — пісаць, толькі пісаць, прасвятляць той цьмяны агеньчык "светлай будучыні" ў тунелі жыцця беларускага народа, які ледзьве бачны ў мроях і "за які трэба ящчэ змагацца і змагацца".

Пісьменнік не спыняў працы нават у моманты цяжкіх прыступаў хваробы, браў рукапіс новага рамана з сабой у бальніцу, у гадзіны абуджэння сіл пісаў... Адкладаў раман, браўся за п'есу, спыняў працу над ёй, пісаў апавяданні, каб, карыстаючыся гэтымі даволі эканомнымі жанрамі, заявіць чытачу пра тое, як цяжка таму чалавеку ў жыцці, які, рана зняверыўшыся ў сваёй будучыні, шукае паратунку ў цяперашняй збянтэжанасці часу...

Раман "Мы ўсе не згінем" дапісаў, здаў у рэдакцыю, але выхаду яго з-за неўладкаванасці часу ў нашым грамадстве не дачакаўся... Знясілены лекамі арганізм саступіў дарогу лятальнаму зыходу. Памёр Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў стойка, як і шмат хто з герояў яго твораў. Памёр з пяром у руцэ, не дапісаўшы новыя старонкі, новыя задумы. А іх было ў яго шмат...

Спі, дарагі Іване, вечным сном. Недапісанае дапішуць у сваіх творах тыя, хто следам за табой. Прадоўжаць мастакоўскае даследаванне гісторыі і рэчаіснасці роднага народа роднай Беларусі.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ**

## СМУТКУЕ, ГАЛОСІЦЬ ПЕРАПЁЛКА

Зімовая зязюля перастала лічыць гады Івану Гаўрылавічу Чыгрынаву.

Загаласіла перапёлка...

Я пазіраю ў снежную ноч. Спіць сталіца. У маўклівай тузе стаяць дрэвы. Там, за паркам, Дом літаратара. У ім два шчаслівыя гады я працаваў разам з Іванам Гаўрылавічам. Начная ціша абуджае памяць, чую голас майго сябра і настаўніка:

— Стары, скажы мне, хто ў большай ступені перажыў вайну — дарослыя ці малыя?.. Дарослыя, якія стралялі адзін у аднаго, ці дзеці-падлеткі, на вачах і над вушамі якіх яны стралялі адзін у аднога, а то і ў тых падлеткаў?

Задаў пытанне Чыгрынаў і сам адказаў на яго:

— Таму, Валодзя, нічога дзіўнага няма ў тым, што мы, былыя падлеткі, пішам пра вайну цяпер...

Іван Чыгрынаў убачыў вайну са сваёй Бесядзі. Паказаў яе ў пяці сваіх раманах. А назапашана, відаць, было яшчэ на столькі ж кніжак. Бо ведаю, як рупліва і старанна збіраў пісьменнік факты з архіваў, даведнікаў, жыцця.

Шкада, задумы І. Чыгрынава не здзейсняцца. З імі ён адышоў у вечнасць. Крыўдна, што такія таленты пакідаюць нашу Айчыну. Калі і дзе, у якой вёсцы ці горадзе падымецца і вырасце роўны Чыгрынаву летапісец, асветнік, патрыёт?

Застаюцца з намі, жывымі, і будуць перадавацца ў спадчыну наступнікам яго кнігі, п'есы, фільмы. Яны жывуць у народзе. Таму і быў Іван Гаўрылавіч народным пісьменнікам.

А быў яшчэ мудрым чалавекам. Гэты талент не ад кніжных ведаў. Ён — ад продкаў, ад касцюковіцкай вёскі Вялікі Бор, ад сялян, якія потам і расой здабываюць хлеб, якія самім жыццём спасцігаюць вышэйшую філасофію быцця.

...У вакно стукаецца зімовы досвітак. Загудзелі на вуліцы машыны. Прачынаецца гарадскі мурашнік. А я збіраюся на апошняе спатканне з Іванам Гаўрылавічам Чыгрынавым. Занясу кветкі. Пакладу ў ногі. І ніколі-ніколі не паверу, што ён — памёр. Ён — у маім сэрцы, жывы і натхнёны жыццём. І мне ёсць каму перадаць жывую памяць аб ім: сыну і дачцэ, а яшчэ — двум унукам.

Бывай, дружа, і даруй, што апошнім часам мы так рэдка бачыліся. Але ў кіпучым віры жыцця я заўсёды помніў, паважаў і любіў цябе, дарагі Іван Гаўрылавіч. І чытаў усё, што выходзіла з-пад твайго пяра.

Хай беражэ цябе Бог у сваім царстве!

**Уладзімір ЛІПСКІ**

## КАЖУЧЫ АПОШНЯЕ "БЫВАЙ!"

Не стала Івана Гаўрылавіча Чыгрынава...

Заўчасна пайшоў з жыцця пісьменнік яркага, шматграннага таленту, які па праву насіў званне народнага.

Ці не таму гэткім болем адгукнулася гэтая журботная вестка ў сэрцах тысяч і тысяч людзей — блізкіх і родных Івана Гаўрылавіча, тых, хто з ім сябраваў ці меў магчымасць неаднойчы сустракацца і, вядома ж, чытачоў, якім даўно палюбіліся шматлікія апавяданні пісьменніка, яго славуты "верамейкаўскі цыкл", ягоная драматургія. Добра вядома і публіцыстычная, крытычная дзейнасць І. Чыгрынава. Многія падзялялі ягоную бескампрамісную пазіцыю, ягоную рашучасць выказваць уласны пункт гледжання, хоць ён часам і не супадаў з меркаваннямі іншых...

Перапоўнена зала Дома літаратара, сцены якога добра памятаюць шматлікія выступленні Івана Гаўрылавіча ў час пісьменніцкіх з'ездаў, на пленумах, пасяджэннях творчых секцый... Прыйшлі прыхільнікі таленту І. Чыгрынава, каб сказаць яму апошняе "Бывай!"

На сцэне сярод жывых кветак — труна з целам нябожчыка. Паабапал яе — родныя і блізкія Івана Гаўрылавіча. Кожныя пяць хвілін мяняецца ўрачыстая варта. Гучыць журботная музыка, якая яшчэ і яшчэ раз нагадвае: ніхто і нішто не вечна на гэтай зямлі. Але чалавек, калі ён жыў па-сапраўднаму, годна і сумленна, усё ж пакідае пасля сябе след: сваімі справамі, памяццю ў сэрцах людзей.

У ганаровую варту становіцца Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка, прадстаўнікі заканадаўчай і выканаўчай улады дзяржавы, члены камісіі па пахаванні І. Чыгрынава.

Грамадзянскую паніхіду адкрывае намеснік старшыні Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь У. Русакевіч. "Краіна, народ наш глыбока смуткуюць, — гаворыць ён. — Цяжка паверыць у тое, што здарылася. Не стала Івана Гаўрылавіча Чыгрынава — таленавітага пісьменніка, грамадскага дзеяча". У. Русакевіч падкрэслівае, што адышоў з жыцця выдатны майстра мастацкага слова. Але ён застанецца назаўсёды ў памяці народа, бо такія людзі, такія таленты жывуць вечна.

Развітальнае слова пра Івана Гаўрылавіча гавораць старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Зуёнак, міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь А. Бутэвіч, першы намеснік старшыні праўлення Беларускага фонду культуры А. Багданава, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" С. Законнікаў.

*(Працяг на стар. 15)*

Васіль АЎРАМЕНКА

# ПРА НЯРУСКІХ РАСІЯН, БЕЛАРУСАЎ І СЛАВЯН

АМАЛЬ ІДЭАЛАГАІЧНЫЯ НАТАТКІ

*"Панславізм! Хай крыху дзіка, а як, халера, лашчыць слых!"*
*Р. А. Колб, "Фікс-ы".*

*"Расію цяжка зразумець... А ці лягчэй Расіі верыць?"*
*Чаў-Фэ-Цю, "З недадуманых думак".*

Мы кажам "Расія", а разумеем "Імперыя", мы кажам "Імперыя", а чуем "Расійская". Так мог бы сказаць вялікі пралетарскі паэт, калі б нейкім цудам апынуўся ў нашым часе. Гісторыя мяняе апранахі і назвы, ды пакідае нязменнай сутнасць. "Прывід ходзіць панславянскі — прывід праваслаўны..." Авохці, знаёмыя ўсё твары, хіба толькі чырвані паменела і прастора не еўрапейская, а "эсэндэўская". Зрэшты, гэта не важна, галоўнае, што прывід зноў швэндаецца і можа ўрэшце набрыняць крывёю і стаць рэальным пудзілам-монстрам, як бывала ўжо не раз.

Згадаем тыя далёкія часы, калі Масква, атрымаўшы татарскую геапалітычную і дзяржаўна-метадалагічную спадчыну і падхапіўшы рэлігійны сцяг Візантыі, пачала "месіянскі" паход на Захад і Усход. І калі на Усходзе вялікіх праблем не было, то на Захадзе давялося цяжэй. Тут паўварварскае царства сутыкнулася з больш высокай культурай і арганізацыяй ВКЛ, Прыбалтыкі, Польшчы. Таму вельмі лагічным на мяжы XVII—XVIII стст. быў крок да еўрапеізацыі і новых тэндэнцый расійскага развіцця. Тая прымусова-цэнтралізаваная мадэрнізацыя ставіла мэтай замену некаторых форм палітычнай арганізацыі дзеля захавання старой сутнасці — умацавання імперыі.

Але, нягледзячы на новую палітычную моду, сцягі "ўсеславянскага патранату" і "праваслаўнага адзінства" засталіся ў арсенале расійскай ідэалогіі. Асаблівасцю стала тое, што еўрапейскі ўплыў ішоў пераважна ў выглядзе "германізацыі", што ўрэшце адбілася на далейшым лёсе дзяржавы. "Каланізацыя" немцамі расійскага грамадства мела і ўнутрыгерманскія прычыны: дзяржаўная раздробленасць, абмежаванасць матэрыяльных і прыродных рэсурсаў, адсутнасць умоў для рэалізацыі маштабных праектаў. У гэтым сэнсе Расія мела вялікія перспектывы і вабіла многіх прадпрымальных людзей. А пры адлаведнай пратэкцыяніскай палітыцы дома Раманавых былі перыяды, калі немцы, бадай, гаспадарылі ў вышэйшых эшалонах арміі, бюракратычнага апарату навуковых установах, асобных сферах рамесніцтва. Толькі ў сярэдзіне XIX ст., калі ўзнялася германская імперыя, пранямецкая арыентацыя стала саступаць месца "чыста рускім" тэндэнцыям. Але амаль двухсотгадовы германа-расійскі дынастычны і палітычны звяз не прайшоў бясследна. Наступны перыяд гісторыі расійскага грамадства таксама надышоў не без дапамогі сыноў нямецкай зямлі. Менавіта Энгельса і Маркса можна лічыць духоўнымі папярэднікамі "чырвонай імперыі", менавіта ў нямецкім філасофскім грунце зарадзілася семя камунізму, і невыпадкова якраз у Расіі яно буйна прарасло.

Асаблівасці чарговага перыяду расійскага імперыялізму (ці яго бальшавіцкай версіі) сёння добра вядомыя: еўразійскае ваенна-палітычнае панаванне, прэтэнзіі на сусветнае духоўнае месіянства, гістарычнае верхавенства і сацыяльны універсалізм. Менш асэнсаваны сам працэс усталявання і развіцця камуністычнай дзяржаўнасці. У гэтай сувязі хацелася б звярнуць увагу толькі на адзін момант — ролю так званага "габрэйскага фактару". Калі не ўлічваць асобных юдафобскіх сентэнцый "ісцінна-рускіх" аўтараў, гэтую тэму можна было б лічыць закрытай для абмеркавання. І ўсё ж, нягледзячы на далікатнасць пытання, цікава зразумець, што ж было на самой справе?

Пакінем убаку тэорыю "сусветнай змовы" і "прошукаў сіёнскіх мудрацоў", а звернемся да рэчаў больш рэальных. Што ўяўляў сабой габрэйскі этнас у тагачаснай Расіі? Даволі шматлікая, інтэлектуальна падрыхтаваная і сацыяльна актыўная нацыя, якая, аднак, была адлучана ад грамадскага жыцця дзяржавы і штучна стрымлівалася на заходніх ускраінах імперыі. Яе патэнцыі значна пераўзыходзілі яе статус, і вось упершыню за шматвяковую гісторыю выгнання з'явілася магчымасць далучыцца да палітычнай улады, прычым да самых галоўных яе рычагоў. І многія з поспехам выкарысталі такую магчымасць, шчыра аддаўшы ўсе свае здольнасці новай сістэме і ў вялікай ступені стварыўшы яе.

Два першыя дзесяцігоддзі савецкай улады прайшлі пад моцным уплывам габрэяў, што склалі львіную долю палітычнай эліты, навукова-тэхнічнай і гуманітарнай інтэлігенцыі. Гаворка ідзе не пра засілле ці мэтанакіраваную этнічную палітыку, а хутчэй пра дамінацыю ў асобных сферах грамадскага жыцця. Прыкладам можа паслужыць ідэя інтэрнацыяналізму ў сваёй пачатковай, "рэвалюцыйна-рамантычнай" трактоўцы. Гэта нешто іншае, як пераніцаваная мара народа, які доўга жыў "паміж нацый", аб ідэальным, бесканфліктным існаванні "ваўкоў і авечак", "усіх з усімі". Такі утапічны "касмапалітызм", зрэшты, аказаўся нежыццяздольным і даволі хутка ператварыўся ў звычайную русіфікацыю і вялікадзяржаўны шавінізм. Інтэрнацыяналізм 40—50 гадоў стаў проста шырмай для знішчэння нерасійскіх нацыянальных культур і перамогі імперскага менталітэту. Відаць, нездарма 30—40 гады сталі пачаткам адыходу габрэяў ад палітычнага, а затым і духоўна-інтэлектуальнага жыцця краіны Саветаў. Сярод іншых прычын не апошняя і тая, што ў іх з'явілася новая гістарычная дамінанта — надзея займець уласную дзяржаву ў Палесціне. Мо гэта і супадзенне, аднак росквіт Ізраіля супаў з дэградацыяй СССР.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што і ў дэструкцыю камуністычнай імперыі габрэямі ўнесена не менш, чым у яе пабудову. Вось чаму іх так не любяць і манархісты, і неабальшавікі, і расійскія правыя радыкалы, і



ўсе, хто лье слёзы па загубленай імперскай велічы.

Так, льюцца слёзы, грымяць праклёны і гарматныя стрэлы, падаюць бомбы, рушыцца тое, што не магло ўжо стаяць. І з гэтага вэрхалу, бруду, развалу мусіць стварыцца нешта новае, лепшае ці, прынамсі, больш ўстойлівае. Дык што ж яно такое — народжанае ў нетрах старога, але не выяўленае пакуль свету ясна і выразна? Мо гэта панславізм ці "праваслаўны камунізм", якія апошнім часам спрабуюць атабарыцца ў высокапастаўленых галовах на Беларусі? Калі злучка праваслаўя з камунізмам яшчэ можа прэтэндаваць на навізну, то за панславянствам, пад якім традыцыйна разумеецца ўлада Масквы над славянамі і неславянамі Еўразіі, цягнецца хвост у некалькі стагоддзяў. Ягоныя харугвы настолькі струхнелі, што наўрад ці вытрымаюць якую-небудзь рэстаўрацыю. Гэтак жа, як і сцягі панмангалізму, пангерманізму, панарабізму і г. д. Эпоха імперскіх а-панаванняў адышла ў нябыт. Жорсткія звышцэнтралізаваныя сістэмы-монстры даказалі сваю нежыццяздольнасць, а таму "дыназаўраў лёс" заканамерна напаткаў найвялікшую з імперый новага часу. Свет прыйшоў да новай структуры — дынамічнай, дэцэнтралізаванай, плюралістычнай. Гэта азначае, што нацыянальныя дзяржавы як раўнапраўныя суб'екты бяруць удзел у рэгіянальных ці міжнародных асацыяцыях, захоўваючы свой палітычны суверэнітэт і сацыяльна-культурную адметнасць, каардынуючы ў першую чаргу эканамічныя дачыненні. Прыняцце рашэнняў (у тым ліку і палітычных) носіць адкрыты і дэмакратычны характар і не мае нічога агульнага з самаўпраўствам і дыктатам імперскага цэнтра. Прычым любая дзяржава-суб'ект можа і не падпарадкавацца агульнаму рашэнню і выйсці з арганізацыі. Вядома, што ў выпадку з "імперскім загадам" такое ніяк немагчыма. Падобныя ж структурныя змены характэрны не толькі для палітычнай, але і сацыяльна-духоўнай сферы сучаснай цывілізацыі.

Такім чынам, гістарычнае развіццё ідзе ў кірунку, прама супрацьлеглым сённяшнім тэндэнцыям беларускага начальства, якое імкнецца то глядзець у свет праз маскоўскае "вочка", то наогул адгарадзіцца ад усяго свету аўтарытарнымі забабонамі. Гэтай мэце служыць і "славяна-праваслаўе" з "рынкавым сацыялізмам", і ажыўшыя камуністычныя фантомы, і навязліва-"любоўныя" прыставанні да "старэйшага брата", а апошнім часам яшчэ і "станоўчы вопыт" германскага фашызму.

Тое ж тычыцца і шматлікіх расійскіх рэаніматараў імперыі, у тым ліку і "чыста-славянскіх", "ісцінна-рускіх". Па вялікім рахунку гэта пошукі таго, чаго ніколі не было і тым больш не будзе. Бо "рускі" — не столькі этнічнае, колькі дзяржаўна-палітычнае вызначэнне, якое сведчыць аб прыналежнасці да імперскай традыцыі. "Іншародцы" Леў Троцкі, Іосіф Сталін ці Кацярына II былі больш "рускімі", чым самыя чыстакроўныя вялікаросы. Таму лагічным выглядае ўсё шырэйшае выкарыстанне слова "расійскі", якое больш набліжана да этнічных каранёў і межаў, хаця і тут не ўсё проста, бо "расіяне" — гэта яшчэ і дзесяткі неславянскіх народаў, лёс якіх застаецца цьмяным.

Калі ж дзе і шукаць рэшткі сапраўднага аўтэнтычнага славянства, то хіба на Беларусі, але гэта такое непрывабнае для велікарускага дзяржаўніка відовішча, што наўрад ці ён затрымае на ім сваю ўвагу. У пэўным сэнсе гэта ягоны антыпод: памяркоўны, асцярожны, схільны да пасіўнага індывідуалізму і раўнадушны да ўсялякай сабornасці, месіянства ці юродствуючага самаўхвалення. Беларусу ў адрозненне ад расійца або ўкраінца не трэба ні звышдзяржавы, ні богаабранасці, ні звышмэты, ён чалавек сціплы, зямны і адначасова больш глыбокі, духоўны, скіраваны не вонкі, а ў сябе, не на агрэсію, а на самаразвіццё і самазахаванне.

А калі казаць пра тое, што ў Расіі завецца "велікарускім духам", то яго можна азначыць як азіяцкі парастак славянскага дрэва, дэфармаваны татарскімі "прышчэпкамі" і падтрыманы нямецкімі, габрэйскімі і камуністычнымі падпоркамі. Але дэфармацыя стала лёсам, парастак — вялікім ствалом, а падпоркі хоць і струхлелі, але ўраслі ў ягоную сярэдзіну. Добра тое ці дрэнна — так было Расіі наканавана, а шукаць у гэтым хітраспляценні "ісцінна славянскі дух" — марная справа. Яго там няма і ніколі не было. Славянства — вельмі стракаты, шматаблічны свет, і зводзіць усе ягоныя праблемы толькі да Масквы ці Бялграда, значыць, паграшыць супраць ісціны, схавацца ад рэчаіснасці за старымі ідэалагічнымі шырмамі. Імкненне славянскіх народаў Еўропы да самастойнасці ёсць заканамерны гістарычны працэс, "столбовая дорога" славянскага развіцця, з чым мусіць прымірыцца і "самы ўсходні наш брат". Магчыма, толькі тады і пераможа сапраўдны славянскі дух, калі кожны з народаў "вялікай сям'і" рэалізуе сваё натуральнае права на самавызначэнне і свабоднае развіццё.

Зрэшты, гэта праблема не столькі этнічная, колькі універсальная — праблема постімперскага існавання і пошуку свайго месца ў свеце.

Ці ёсць там месца для нашай краіны? А ці ёсць месца беларусу ў Беларусі? Думаю, што гэта не два, а адно пытанне, і адказ на яго можа быць толькі адзін.

*г. Магілёў*

*Мал. А.КАРПОВІЧА*

# У ПЕРШЫНЮ Ў ГІСТОРЫІ

5 снежня 1995 года адбылося чарговае пасяджэнне прэзідыума Вышэйшага атэстацыйнага камітэта Рэспублікі Беларусь.

Адкрываючы пасяджэнне прэзідыума, старшыня ВАКа Беларусі акадэмік АН Беларусі Анатоль Паўлавіч Дастанка паведаміў, што ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 лістапада 1995 г. за нумарам 471 Вышэйшая атэстацыйная камісія пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь ператворана ў Вышэйшы атэстацыйны камітэт Рэспублікі Беларусь (ВАК Беларусі). Гэта з'яўляецца сведчаннем вялікай увагі кіраўніцтва рэспублікі да праблем, якія стаяць перад навукай і адукацыяй у нашай дзяржаве. Адзначыў вялікую ролю ў падрыхтоўцы і атэстацыі навуковых і навукова-педагагічных кадраў вышэйшай кваліфікацыі Акадэміі навук Беларусі і асабіста прэзідэнта АН Беларусі акадэміка АН Беларусі Леаніда Міхайлавіча Сушчэні. Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь і асабіста міністра Васіля Іванавіча Стражава. Акадэмік АН Беларусі А. Дастанка выказаў упэўненасць і ў далейшым плённым супрацоўніцтве з вучонымі рэспублікі ў галіне падрыхтоўкі кадраў вышэйшай навуковай і навукова-педагагічнай кваліфікацыі.

Па першым пытанні — Аб наменклатуры спецыяльнасцяў навуковых работнікаў Рэспублікі Беларусь — выступіў намеснік старшыні — галоўны вучоны сакратар ВАКа Беларусі член-карэспандэнт АН Беларусі Леанід Ільіч Гурскі. Як старшыня камісіі па распрацоўцы новай наменклатуры спецыяльнасцяў навуковых работнікаў, Л. Гурскі нагадаў, што на пасяджэнні камісіі, якое адбылося 16 лістапада 1995 г. і ў рабоце якога прынялі ўдзел старшыні 25 экспертных саветаў, начальнікі аддзелаў ВАКа Беларусі і іншыя супрацоўнікі апарату ВАКа Беларусі, праект наменклатуры атрымаў станоўчую ацэнку і быў рэкамендаваны прэзідыуму ВАКа для зацвярджэння.

У аснову праекта была пакладзена наменклатура спецыяльнасцяў навуковых работнікаў, распрацаваная ў выкананне даручэнняў Міжнароднай асацыяцыі вышэйшых атэстацыйных органаў краін СНД (МАДАТ). МАДАТ рэкамендавала вышэйшым атэстацыйным органам краін СНД увесці ў якасці базавай і ў мэтах захавання адзінай навуковай прасторы дадзеную наменклатуру, што замацавана подпісамі кіраўнікоў вышэйшых атэстацыйных органаў Азербайджанскай Рэспублікі, Рэспублікі Арменія, Рэспублікі Беларусь, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі, Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Узбекістан, Украіны.

У новай наменклатуры болей за 500 назваў навуковых спецыяльнасцяў па 20 галінах прыродазнаўчых, тэхнічных і гуманітарных навук.

Упершыню ў гісторыі нашай дзяржавы ў наменклатуру ўключаны навуковыя спецыяльнасці: 10.01.01 — Беларуская літаратура і 10.02.01 — Беларуская мова.

У параўнанні з былой наменклатурай, якая дзейнічала з 1988 г., змяненні спазналі болей за 100 навуковых спецыяльнасцяў.

Прэзідыум ВАКа Беларусі зацвердзіў новую наменклатуру спецыяльнасцяў навуковых работнікаў аднагалосна.

На пасяджэнні прэзідыума ВАКа Беларусі былі разгледжаны пытанні па прысуджэнні вучоных ступеняў доктара навук і зацвярджэнні рашэнняў саветаў па абароне дысертацый па прысуджэнні вучоных ступеняў кандыдата навук і іншыя пытанні.

Закрываючы пасяджэнне прэзідыума ВАКа Беларусі, акадэмік АН Беларусі Анатоль Дастанка адзначыў, што з пачатку сваёй работы ВАК Беларусі прысудзіў вучоныя ступені 357 асобам. На разглядзе знаходзяцца яшчэ каля 300 дысертацый. Зараз у рэспубліцы працуюць 172 саветы па абароне дысертацый, створаныя ў 79 установах розных міністэрстваў ва ўсіх абласцях рэспублікі. Наперадзе ў ВАКа Беларусі вялікая работа па перарэгістрацыі саветаў у сувязі з уводам у дзеянне новай наменклатуры спецыяльнасцяў навуковых работнікаў і ўдасканаленнем нацыянальнай сістэмы атэстацыі навуковых і навукова-педагагічных кадраў вышэйшай кваліфікацыі.

**ВАК Беларусі**

## ЛАЎРЭАТЫ “КРЫНІЦЫ”

**Напрыканцы мінулага года рэдкалегія часопіса “Крыніца” вызначыла лепшыя публікацыі за 1995 год. Лаўрэатамі прэміі часопіса “Крыніца” сталі: у галіне прозы — Мікола Купрэеў (за аповесць “Дзіцячыя гульні пасля вайны”), у галіне філасофіі і культуралогіі — Валянцін Акудовіч (за эсэ “Хто я...”), у галіне перакладу — Васіль Сёмуха (за пераклад рамана Зюськінда “Парфума”) і Уладзімір Скарынкін (за пераклад “Пекла” з “Боскай камедыі” Дантэ Алігʼеры).**

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ПРЭЗЕНТАЦЫІ РОЗНІЦА

**Тым не менш, яна ці не заўсёды абяцае сустрэчу з нечым цікавым. Так адбылося і гэтым разам. Ды не дзе-небудзь ва ўтульным памяшканні, а проста ў Мінску, на праспекце Францішка Скарыны, непадалёк ад станцыі метро “Усход”.**

**Менавіта тут напярэдадні Новага года ўстаноўлены новы газетны кіёск. Скажаце: ну і навіна! Аднак уся рэчы у тым, што гэта не звычайны кіёск з шэрагу безаблічных, якіх так шмат на вялікіх і малых вуліцах горада, а самы што ні ёсць сучасны. Гэта першынец, за якім у хуткім часе зʼявяцца і наступныя.**

**Стала гэта магчымым дзякуючы паразуменню паміж Мінскім гарадскім прадпрыемствам “Белсаюздрук” і інстытутам “Мінскграмадзянпраект”, якія вырашылі прыняць захады, каб у Мінску зʼявіліся новыя, па-сучаснаму аформленыя кіёскі. За праектаванне іх узяліся архітэктары на чале з І. Герасіменка. А каб справу давесці да ладу, на дапамогу прыйшла фірма “Магдас”, якая не толькі своечасова выканала заказ, а і зрабіла яго на высокім узроўні. Да ўсяго — бясплатна.**

**А яшчэ гэтая прэзентацыя незвычайная тым, што ў канцы яе была разбіта бутэлька шампанскага. Кажуць, падобная традыцыя існуе ў маракоў. Што ж, у дадзеным выпадку яна да месца. Вобразна кажучы, гэты сучасны кіёск (як і наступныя за ім) — свайго роду “караблі”, што дапамагаюць людзям арыентавацца ў вялікім і абʼёмным свеце інфармацыі і ведаў.**

## ТАКОГА ВЫДАННЯ ЯШЧЭ НЕ БЫЛО


"LA ESPADAÑA"

№ 1

A NUESTROS LECTORES EN ESPAÑA Y OTROS PAÍSES

**Маецца на ўвазе інфармацыйны бюлетэнь Таварыства “Беларусь-Іспанія” “LA ESPADAÑA”, заснавальнікам якога зʼяўляюцца само таварыства, калектыў гэтага бюлетэня і калектыў рэдакцыі газеты “Чырвоная змена”. А адметнасць выдання ў тым, што яно будзе выходзіць на дзвюх мовах — беларускай і іспанскай, прытым, матэрыялы не стануць паўтарацца, хіба што да асноўных публікацый зʼявіцца рэзюме на іншай мове.**

**Як сказана ў звароце “Да нашага беларускага чытача”, змешчанага ў першым нумары, “нашая газета — накшталт грэблі, якую мы пачынаем будаваць адразу з двух бакоў: беларускага ды іспанскага. Любое каліўца інфармацыі, прыдатнае для таго, каб нарасціць гэты “мост” яшчэ на колькі крокаў, будзе рупліва намі збірацца. Мы прапануем абʼяднацца ўсім, хто хацеў бы мець шчыльнейшыя стасункі з Іспаніяй, роўна як і з усім іспанамоўным светам...”**

**“Мы зноў вяртаемся ў Еўропу” — гаворыць у сваім выступленні старшыня Таварыства “Беларусь-Іспанія”, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання А. Трусаў. У карэспандэнцыі “Што такое “ТБІ”?” расказваецца пра Таварыства “Беларусь-Іспанія”.**

**Змешчаны верш Ф. Г. Лоркі “Дарога” ў арыгінале і ў перакладзе Р. Барадуліна.**

**Чытач мае магчымасць пазнаёміцца з развагамі міністра знешніх эканамічных сувязей Рэспублікі Беларусь М. Марыніча “Беларусь-Іспанія: ёсць пачатак эканамічнага супрацоўніцтва”. “Культурны абмен — клопат прыватны?” — роздум Н. Шаранговіч.**

**Застаецца сказаць бюлетэню традыцыйнае: “У добры час!”**

Віншуем!

# “ЧЫСЦІНЁЙ СВЯТЛІЦЦА СЛОВА”

## 15 СТУДЗЕНЯ ЛАЎРЭАТУ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БЕЛАРУСІ ЯНКУ СІПАКОВУ СПАЎНЯЕЦЦА 60 ГАДОЎ

Пад Новы год і пасля Новага года думаецца пра перадНавагоднЯе і навагоднЯе. І душа, як ніколі раней, прагне здаровай чысціні і хараства, таго дзіўнага абнаўлення, якое прыходзіць тады, калі адначасова знаходзішся быццам у двух часавых вымярэннях — у дні ўчарашнім, які, пакінуўшы пасля сябе след, паволі адыходзіць у нябыт, і ў дні сённяшнім, што нараджаецца на сумежжы ўчарашняга і будучага.

Пра ўсё гэта непаўторна, па-свойму адметна і запамінальна прамовіў Янка Сіпакоў у кнізе “У поўдзень, да вады”, што выйшла дваццаць гадоў назад, у 1976-ым:

**Чысцінёй святліцца слова...**
**Новы год. Бялюткі снег.**
**Звонкі ранак, нібы смех, —**
**Пачынай усё нанова.**

**Першы дзень. І ты не жыў**
**На зямлі — ўяві! — ніколі,**
**Не араў, не жаў у полі**
**І па снезе не тужыў.**

**Першы ўздых. Глыток — да звону.**
**Гэткі пругкі дар жыцця**
**Ці да самазабыцця —**
**Не спатоліш жад да скону.**

**Быў ты кепскі. Быў няшчыры.**
**Не аднеквайся — быў, быў!**
**І не светла часам жыў —**
**Пачынай жа новы вырай.**

“Новы вырай”, калі разважыць, даводзілася неаднойчы пачынаць і самому Івану Данілавічу. Аднак не ў тым сэнсе, што ён дагэтуль быў “кепскім”, няшчырым. Новым выраем успрымалася і кожная яго чарговая кніга. Безумоўна, не толькі паэтычная. Бадай, няшмат знойдзеш у нашай літаратуры творцаў, якім бы, гэтаксама як яму, былі падуладны самыя розныя жанры. Я. Сіпакоў аднолькава ўпэўнена адчувае сябе і ў паэзіі, і ў прозе, і ў нарысістыцы, і ў эсэістыцы. А перадусім...

Перадусім, як мне здаецца, Іван Данілавіч — ПАЭТ. І не толькі як творца, а паэт па складзе душы, па светаўспрыманні. Але паэт, які ніколі не забывае, што ў жыцці прысутнічае не адна паэзія. А ўрэшце таму яна і жыве, што здатна прабіцца скрозь ману, фальш, абыякавасць, скрозь тыя самыя будні, якія чалавека і загартоўваюць, і выпрабоўваюць, а разам з тым і ўратоўваюць ад той жа маны, фальшу, абыякавасці.

Хоць, не дай Божа, перажыць яшчэ каму-небудзь тое, што зведаў у маленстве Я. Сіпакоў. А пра гэта надзіва кранальна Іван Данілавіч расказаў у аўтабіяграфіі “Замаразкі на першацвет”. Немцы спачатку загубілі яго бацьку, а праз некаторы час і маці. На шчасце, поруч аказаліся добрыя людзі. А найперш цётка Саша — старэйшая бацькава сястра...

Ды хіба хто-небудзь можа замяніць самага дарагога чалавека? Яшчэ ў канцы пяцідзесятых гадоў Я. Сіпакоў напісаў верш “Недасланы ліст да маці”, які і сёння нельга чытаць спакойна:

**Пішуць хлопцы лісты дадому —**
**Радасць светлая ля іх карагодзіць!**
**Я таксама пішу,**
**Хоць і знаю:**
**Пісьмы, мама, мае не даходзяць,**
**Пісьмы, мама, дарог не знаходзяць**
**Туды, да цябе...**

Паэзія Я. Сіпакова і нараджалася з уласна перажытага. І не толькі з прывязанасці да канкрэтных рэалій біяграфіі. Вершы ўзнікалі і як вынік тых душэўных зрухаў, калі многае абдумвалася, асэнсоўвалася і пераасэнсоўвалася. І на дабро адгукалася дабром, а на зло... Не, таксама дабром. Гэтай дабратой да свету і людзей прасякнуты і першы паэтычны зборнік Я. Сіпакова “Сонечны дождж” (1960). Адкрываўся ён вершам, які можна паставіць эпіграфам да ўсёй творчасці Івана Данілавіча:

**Адгукніся**
**На стук у акно асцярожны;**
**Дай вады,**
**Калі просіць яе падарожны;**
**Абагрэй,**
**Калі той скарчанеў на марозе;**
**Накармі,**
**Калі доўга не еў у дарозе...**

Адкрытасць пачуццяў, шчырасць думак і перажыванняў лірычнага героя поўнілі і наступныя кнігі Я. Сіпакова-паэта — “Лірычны вырай” (1965), “Дзень” (1968), “З вясны ў лета” (1972)... Тым не менш, вядомасць яму прынесла ўсё ж “Веча славянскіх балад” (1973). Праз тры гады за гэтую кнігу аўтар быў удастоены Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Праз некаторы час ім былі напісаны новыя творы і “Веча...” у 1988 годзе выйшла ў другім, дапоўненым выданні.

Нікому да Я. Сіпакова (і не толькі ў беларускай, а і ў сусветнай літаратуры) не ўдалося гэтак праўдзіва, глыбока, пераканаўча, па-мастацку дасканала асэнсаваць асноўныя, вызначальныя моманты з жыцця славянства на працягу стагоддзяў і тысячагоддзяў.

Ужо “Веча славянскіх балад” дастаткова, каб гаварыць пра Я. Сіпакова як пра... Не, не пра кандыдата ў народныя, хоць адно “Веча...” вартае таго, каб яго аўтару было нададзена гэтае высокае званне, а як пра аднаго з самых вядомых сучасных пісьменнікаў. Гэтую вядомасць цудоўна ўзмацняе Я. Сіпакоў-празаік, нарысіст, эсэіст. Першыя нарысы ён напісаў яшчэ падчас працы ў рэдакцыі раённай газеты (з першага заходу ва універсітэт не паступіў), а потым — калі абараняў дыплом. Наконт гэтага Іван Данілавіч успамінае: “...прасіў дазволу абараніць творчы дыплом — серыю нарысаў пра сучаснікаў... Папрасіў партыйнае бюро памагчы мне ўладкавацца вучнем праходчыка (у Салігорску — **А. М.**) і, як кажуць, з натхненнем працаваў у ствале побач з героямі маіх нарысаў. Потым паехаў у Наваполацк, які таксама тады якраз будаваўся, і працаваў там падсобным рабочым у брыгадзе муляраў”.

Прыкметнай зʼявай у тагачаснай беларускай дакументалістыцы стала напісаная Я. Сіпаковым сумесна з Анатолем Клышкам “Паэма дарог”. І ўсё ж па-сапраўднаму яго талент у галіне нарыса раскрыўся ў кнізе “Па зялёную маланку” (1971), што стала адначасова і вяртаннем аўтара ў родныя яму мясціны (на Аршаншчыну), і своеасаблівай творчай справаздачай з далёкіх дарог, якія прывялі Я. Сіпакова ў Сібір і на Далёкі Усход.

І “Акно, расчыненае ў зіму”, і іншыя творы (“Там, дзе Сібір...”, “Ціхая Акіянія”, і, вядома ж, “Па зялёную маланку”) былі не проста нарысы ў іх традыцыйным разуменні. І дзякуючы таму, што гэта пісаў паэт, здатны быць і цікавым празаікам. Калі што і скоўвала яго магчымасці, дык прывязанасць да дакументальнай асновы. Верылася, што з цягам часу Я. Сіпакоў пазбавіцца гэтага і тады яго талент

Так і атрымалася ў аповесці “Крыло цішыні”, якая хораша пераклікаецца сваёй тэматыкай з нарысам “Акно, расчыненае ў зіму”. Аўтар таксама прайшоў дарогамі маленства, глянуў гэтым разам на яго вачыма ўражлівага, з паэтычнай душой падлетка Яські.

А яшчэ была аповесць “Усе мы з хат”, у якой пісьменніку ўдалося надзіва дакладна перадаць адчуванні, бадай, кажнага сённяшняга гараджаніна ў першым пакаленні, так званага вясковага гараджаніна: “Усе мы, сябры, з хат. І такое бяды, што нашы вёскі называліся па-рознаму — Зялёны Бор альбо Дабрэвічы, Светлае альбо Жыцькава! У кожнай з іх яшчэ і сёння стаіць хата, якая цярпліва выгадавала нас, паставіла на крыло, велікадушна і без нараканняў расчыніла нам дзверы — нібы шырока раскрыла рукі, дзе на далонях стоена сцішыліся мятлушкі: ляціце!

Ляціце, куды хочаце, ад свае хаты — на поўдзень ці на поўнач, на захад ці на ўсход”.

Не сказаць, каб усе творы Я. Сіпакова-празаіка ўспрымаліся адназначна. Прынамсі, вострыя спрэчкі ў свой час выклікала аповесць “Жыві, як хочацца”. З-за таго, што аўтар сваімі сапраўднымі паняццямі назваў мужчынскую і жаночую нявернасць. Супраць аповесці ваяўніча выступілі асобныя ...жанчыны-пісьменніцы. Ці не лепей прыслухацца ўсё ж да меркавання Серафіма Андраюка: “Прыватная гісторыя” нашага сучаснага жыцця, асэнсаваная і даследаваная мастаком, набыла агульназначнае значэнне. Паставіўшы назвай твора пытанне “Ці так жывеш?” Я. Сіпакоў логікай разгортвання падзей, логікай унутранага разгортвання характараў, усім пафасам твора рашуча адмаўляе жорсткі прынцып: “Жыві, як хочацца”, сцвярджае такія адносіны да жыцця, да чалавека, сутнасць якіх можна выказаць наступным чынам: жыві не так, як хочацца, а так, як трэба жыць сярод людзей”.

На аналагічную тэму Я. Сіпакоў напісаў і шэраг апавяданняў, якія поруч з іншымі творамі ўвайшлі ў кнігі “Жанчына сярод мужчын” (1980) і “Спадзяванне на радасць” (1983). І ўвогуле, што да прозы Я. Сіпакова, дык, па-мойму, яна патрабуе з боку крытыкі куды больш глыбокага асэнсавання, чым рабілася дагэтуль. Для прыкладу, возьмем аповесць “Пыл пад нагамі”. У ёй узняты такія пласты ваеннай рэчаіснасці, якія пакуль слаба даследаваны беларускай літаратурай. Галоўны герой капітан Верасоўскі, цяжкапаранены, у час, калі родная зямля вызваляецца ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, узначальвае атрад, які павінен даставіць сваім ходам у Беларусь 800 кароў і коней, нарабаваных у свой час гітлераўцамі. Лёгка сказаць — атрад: каля сямідзесяці немоглых мужчын, жанчын, дзяўчат, дзяцей.



А аповесць “Кулак”? (Гэта ўжо з кнігі “Журба ў стылі рэтра” (1990))... Вяртанне ў зіму 1929 года, вяртанне ў час, калі праводзілася калектывізацыя і так званых кулакоў высылалі за межы Беларусі. Гэткі лёс напаткаў і сямʼю Ворашняў. Наколькі глыбока ўдалося Я. Сіпакову пранікнуць у характар сумленных працавітых беларусаў, адданых роднай зямлі, улюбёных у яе! І як па-майстэрску гэта робіцца! Асабліва, калі пісьменнік на тагачасныя падзеі глядзіць вачыма самога гаспадара Ціта, які з непрыхаванай пагардай ставіцца да ўсіх “актывістаў”, бо бачыць у іх (і тут ён нікольки не памыляецца) толькі тых, хто гатовы прымаць розныя рашэнні, а працаваць не хоча ды і не ўмее. Вельмі ўражвальныя заключныя старонкі твора, а гэта ўжо вясна 1986-га. Ці трэба казаць, якога кшталту падзеі адбываюцца? Зноў прымусовае высяленне, сваім крылом чарнобыльская бяда накрыла сямʼю бабы Любы, старэйшай дачкі Ціта...

На багаты роздум наводзіць і нядаўняя кніга прозы Я. Сіпакова “Тыя, што ідуць” (1994). Ды як жа інакш, калі пад адной вокладкай аўтар абʼяднаў шмат прытчаў, напісаных у розныя гады. А гэта ж вялікая магчымасць (яна і выкарыстана Іванам Данілавічам належным чынам) паразважаць над самымі надзённымі праблемамі нашага жыцця, супастаўляючы сапраўднае і прывіднае, рэальнае і нерэальнае...

У выдавецтве ж “Юнацтва” на падыходзе да чытача аповесць Я. Сіпакова “Падары нам дрэва”, што выходзіць у папулярнай серыі “Бібліятэка прыгод і фантастыкі”. Першапачатковая назва твора (часопіс “Маладосць”, 1994, NN 7—8) — “Блуканні па іншасвеце”. І на самай справе гэта блуканні — у прасторы і ў часе. А яшчэ і вяртанне ў...будучыню.

Прайшоўшы праз “блуканні па іншасвеце”, галоўны герой аповесці Радзім нарэшце адчуў сябе зусім іншым, непадобным на колішняга: “Ён быў вольны для нейкай вялікай ідэі, якую пакуль яшчэ не разумеў, але якая ўжо міжволі непакоіла яго і турбавала. Нібы нехта знарок правёў яго праз Дурбудзію, Жалезныя Хаосы і іншыя жахі, каб паказаць, што не трэба рабіць дома”. Разам з тым ён яшчэ канчаткова не ўпэўнены, з чаго і як пачынаць: “Але ж як сказаць свайму народу, што ён вольны і моцны, добры і мудры? Як абараніць яго ад зламыснікаў, якія пераконваюць усіх, што ён забіты і слабы?”

Сама час згадаць набыткі Я. Сіпакова-перакладчыка. Тут ён далучыўся да творчасці не аднаго дзесятка аўтараў. Найбольш жа відавочныя набыткі меў, калі пераўвасабляў па-беларуску кнігі паэзіі “Лісце травы” У. Уітмена (1978), “Турэмны дзённік” Хо Шы Міна (1985), “Санеты бяды” Ф. Прэшарна (1987). А яшчэ хочацца згадаць зборнік гумарэсак “Лысы юбілей” (1965), “Плюс на мінус” (1973), “Ланцугі для мух” (1980), “Пятніца ў суботу” (1988)...

Ненарокам і на пералік збіўся. Хоць ці трэба яго ўжо гэтак баяцца, калі выпадае магчымасць сказаць добрае слова пра пісьменніка? Апошнім жа часам не такія і ахвочыя перыядычныя выданні (асабліва газеты) пісаць пра літаратуру, на гэтым тыражу, як кажуць, не зробіш... А тут жа юбілей пісьменніка, творы якога хочацца чытаць і перачытваць.

Ды і як жа інакш, калі ў іх “чысцінёй святліцца слова...” А яшчэ прысутнічае ўсё тое, што было сказана вышэй...

З днём нараджэння, дарагі Іван Данілавіч! З 60-годдзем Вас, якое б, хацелася, каб з цягам часу пераходзіла ў многія іншыя “годдзі”!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# БУДЗЕ ЖЫЦЬ ДЗІЦЯЧАЯ КНІГА — БУДЗЕ ЖЫЦЬ НАЦЫЯ

## ВЫДАВЕЦТВУ "ЮНАЦТВА" — 15 ГАДОЎ

***Як быццам сёння і не да юбілеяў. Тым больш, калі яны не адносяцца да шэрагу так званых "круглых". І ўсё ж гэты юбілей нельга не ўспомніць, выдавецтву "Юнацтва" споўнілася 15 гадоў. Галоўнае ж — іншае. У гэты нялёгкі час выдавецтва пастаянна, паслядоўна, мэтанакіравана выпускае кнігу за кнігай, адрасаваныя найперш дзецям і юнацтву, тым самым спрыяючы добрай справе нацыянальнага Адраджэння беларускасці.***

***Немалая заслуга ў паспяховай рабоце "Юнацтва" належыць нязменнаму яго дырэктару, пісьменніку, лаўрэату Літаратурнай прэміі імя Петруся Броўкі Валянціну Лукшу, які, дарэчы, Амерыканскім біяграфічным інстытутам названы "Чалавек года — 95".***

**— Валянцін Антонавіч, кажуць, што статыстыка, асабліва ў галіне літаратуры, культуры, а ў дадзеным выпадку кнігавыдання — рэч сумная. І не заўсёды яна можа адлюстраваць сапраўдны стан рэчаў. І ўсё ж — з якімі набыткамі сустракае "Юнацтва" сваё 15-годдзе?**

— Што ж, возьмемся, як кажуць, за лічбы. З маркай "Юнацтва" за гэты час выйшла 1800 назваў кніг, агульны тыраж якіх набліжаецца да 150 мільёнаў экземпляраў. Сюды ўваходзяць і 163 кнігі на 16 мовах народаў свету тыражом 8 мільёнаў экземпляраў. А яны, дарэчы, экспартаваны ў 110 краін Еўропы, Азіі, Афрыкі, Амерыкі і Аўстраліі. Ва ўсім свеце чытачы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з творчасцю найбольш вядомых нашых нацыянальных пісьменнікаў. А вы кажаце, што лічбы — рэч сумная...

**— Я ў тым сэнсе, Валянцін Антонавіч, што за лічбамі немагчыма ўбачыць канкрэтных аўтараў, канкрэтныя кнігі...**

— Разумееце, калі пачаць пералік, дык атрымаецца вялізны спіс, бо наўрад ці знойдзецца больш-менш вядомы наш пісьменнік, чые б творы хоць аднойчы не прайшлі праз выдавецтва "Юнацтва". Таму ў якасці прыкладу выкарыстаю выданні, што сталі для "Юнацтва", скажам так, этапнымі. Вы, мабыць, чулі пра "Бібліятэку дзіцячай літаратуры народаў СССР", у дачыненні да сённяшняга дня — народаў былога СССР?

**— Не толькі чуў, а і сам з задавальненнем прыдбаў для сваіх дзяцей гэтыя тамы.**

— Дык вось: выйшла 15 тамоў у шаснаццаці кнігах, таму што творам пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі адведзена два тамы. Сапраўды, цэлая бібліятэка на беларускай мове. Сотні аўтараў, сотні твораў, а да ўсяго багата прадстаўлены нацыянальны фальклор. І ў кожным томе — каляровыя ілюстрацыі, выкананыя мастакамі саміх рэспублік. Да афармлення прыцягнуты вопытныя беларускія пісьменнікі.

Цяпер распачалі выданне "Бібліятэкі беларускай дзіцячай літаратуры". Усяго будзе дзесяць тамоў, пабачылі свет першыя два — "Свяці, свяці, сонейка" і "Музыка-чарадзей", змест якіх склалі фальклорныя творы. А гэта загадкі, легенды, паданні, жарты, гульні, казкі. Выйшлі таксама дзве кнігі трыццацітомнай "Бібліятэкі замежнай дзіцячай літаратуры". Нашы дзеці могуць пазнаёміцца на роднай мове з такімі вядомымі кнігамі, як "Маўглі" Р. Кіплінга і "Рабінзон Круза" Д. Дэфо. Падобнае выданне ажыццяўляецца ўпершыню ў гісторыі нацыянальнага кнігавыдання. Няцяжка падлічыць, што гэтыя тры "Бібліятэкі..." будуць налічваць 56 кніг! А яшчэ ж мы выдаём "Бібліятэку прыгод і фантастыкі", "Школьную бібліятэку", серыйныя выданні "Залаты ключык", "Мая першая кніжка", "Зрабі сам" і іншыя.

**— Зроблена выдавецтвам, безумоўна, шмат, але...**

— Прабачце, што перабіваю вас. Здагадваюся, пра што пачнеце гаварыць. Маўляў, многія поспехі засталіся, як кажуць, у дні ўчарашнім. На жаль, гэта так. Дазвольце зноў прывесці колькі лічбаў. Калі раней у нас выходзіла кожны год звыш 150 назваў кніг і брашур агульным тыражом да 15 мільёнаў экземпляраў, то цяпер толькі 55-85 назваў тыражом каля 5 мільёнаў. Розніца, як бачым, вельмі істотная. А што тычыцца экспарту літаратуры, дык яго сёння зусім няма. Раней гэтым, як вядома, займалася ўсесаюзная арганізацыя "Международная книга", а ў нашай дзяржаве аналагічная, ці падобная на яе, структура адсутнічае, не створана. У выніку беларуская кніга — і не толькі літаратура для дзяцей і юнацтва — не ідзе за мяжу.

**— І ўсё ж пад ляжачы камень, як кажуць, вада не цячэ. Няўжо нашы нацыянальныя выдавецтвы нічога не робяць, каб неяк скаардынаваць свае намаганні па выпуску, прапагандзе, распаўсюджванні кнігі? Дарэчы, вы з'яўляецеся віцэ-прэзідэнтам Беларускай асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў...**

— Гэтая Асацыяцыя — яна ў нас адзіная, больш ні ў адной з рэспублік былога Савецкага Саюза і іх няма, — і створана, каб каардынаваць дзеянні выдаўцоў, паліграфістаў і кнігараспаўсюджвальнікаў. У нас тры віцэ-прэзідэнты, кожны з якіх прадстаўляе адну галіну дзейнасці. Я, напрыклад, — выдавецкую дзейнасць, генеральны дырэктар Мінскага вытворча-паліграфічнага аб'яднання імя Якуба Коласа — паліграфію, а генеральны дырэктар фірмы "Белкніга" — кніжны гандаль. Сам жа я мару, што ў рэшце рэшт у Рэспубліцы Беларусь з'явіцца канцэрн "Беларуская кніга", альбо ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Камітэт па друку, а ў яго ўвойдуць, дзяржаўныя выдавецтвы, паліграфічныя прадпрыемствы краіны і кніжны гандаль. А Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў — прататып падобнай структуры, першы крок да яе стварэння.

**— Тым не менш, хоць многае і робіцца, спад выпуску літаратуры ніхто не адмаўляе. У чым, на вашу думку, прычына такога незайздроснага становішча, якое склалася?**

— На жаль, прычына не адна, а іх некалькі, прытым яны ў многім узаемазвязаны. Безумоўна, сказваецца недастатковае фінансаванне сацыяльна-значных выданняў, а не сакрэт, што сюды ці не ў першую чаргу адносіцца літаратура для дзяцей і юнацтва. Мастацкую літаратуру датуе Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, кнігі серыі "Школьная бібліятэка" павінна аплачваць Міністэрства адукацыі і навукі. А гэтыя сродкі павінны быць перадаплатай. Растлумачу гэта працэй тым, хто не ведае, што такое перадаплата. Каб рукапіс падрыхтаваць да выдання, трэба спярша набыць паперу, іншыя матэрыялы, напрыклад, кардон, прыпрасаваную плёнку. Акрамя таго, загадзя аплачваюцца наборныя працэсы, часткова — мастацкае афармленне і аўтарскі ганарар. Як жа можна своечасова пачынаць выданне кнігі, калі гэтыя грошы не пераведзены? І яшчэ адна прычына, што выклікае цяжкасці. Няма цэнтралізаванага забеспячэння паперай пад выпуск кнігі, асабліва кнігі дзіцячай. А яшчэ ж не трэба забываць, і аб тым, што кошт кнігі павялічваецца, а пакупніцкія магчымасці людзей зніжаюцца.

**— Няўжо тут не бачыцца выйсця? Няўжо ў канцы выдавецкага тунеля так і не запаліцца жаданае святло?**

— Чаму ж! Як бы цяжка ні даводзілася, а выйсце, пры жаданні, заўсёды можна знайсці. Я пераканаdebris, што даўно наспела патрэба прыняцця агульнанацыянальнай праграмы па выпуску дзіцячай літаратуры. Калі яна будзе створана, дык усе дзесяць дзяржаўных выдавецтваў змогуць скаардынаваць сваю работу ў гэтым кірунку і хутка наталіць кніжны голад. Ды, бадай, добраму не лішне павучыцца і ў нашых суседзяў. Неабходна, як гэта зроблена ў Расіі, прыняць Закон "Аб дзяржаўнай падтрымцы сродкаў масавай інфармацыі і кнігавыдання".

**— Каб спадзявацца на нешта лепшае, трэба быць упэўненым, што важнасць своечасовага вырашэння ўсіх гэтых праблем разумеюць на самым высокім дзяржаўным узроўні...**

— Напрыканцы мінулага года мне выпаў гонар удзельнічаць у рабочай сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі з групай выдатных дзеячаў культуры нашай дзяржавы. На агульную думку, гаворка ў габеленавай зале рэзідэнцыі кіраўніка рэспублікі ўдалася. Было знойдзена паразуменне па многіх аспектах развіцця нацыянальнага мастацтва. Шырока закраналіся ў час сустрэчы і пытанні стану літаратуры і кнігавыдання. Гаворку на гэтую тэму пачаў народны пісьменнік Беларусі Іван Чыгрынаў, працягнулі Васіль Зуёнак і я. Падзякаваўшы Прэзідэнту за высокую ацэнку унікальнай кнігі "Казкі дзяцей Беларусі", выпушчанай выдавецтвам "Юнацтва", я завастрыў увагу на неабходнасці захавання дзяржаўнай падтрымкі выпуску сацыяльна-значнай літаратуры, змякчэння падаткавага прэсінгу для выдаўцоў, паліграфістаў і кнігараспаўсюджвальнікаў, абарону аптовага звяна кнігагандлю і, нарэшце, матэрыяльнага заахвочвання пісьменнікаў і мастакоў. Па маіх звестках, некаторыя з пастаўленых пытанняў альбо ўжо вырашаны, альбо знаходзяцца ў стане разгляду.

**— Значыць, беларуская дзіцячая кніга будзе жыць?**

— Верыцца, што яна не толькі будзе, як вы кажаце, жыць, а і адчуваць сябе годна і ўпэўнена. А паколькі гэта кніга менавіта для дзяцей, дык яна зможа выходзіць у належным афармленні і паліграфічным выкананні. Дарэчы, мы заўсёды ўдзялялі вялікае значэнне гэтаму пытанню. З "Юнацтвам" супрацоўнічаюць вядучыя майстры кніжнай графікі, у багажы выдавецтва больш за 100 дыпломаў міжнародных, усесаюзных і рэспубліканскіх конкурсаў "Мастацтва кнігі". Як ні цяжка, але кожны год мы па-ранейшаму штогод плануем 7-10 кніг палепшанай якасці.

**— Дык поспехаў Вам, Валянцін Антонавіч!**

— Дзякуй!

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# "Я БАЮСЯ ЧАЛАВЕКА Ў ХАТУ, КАЛІ ГЭТА САВЕЦКІ ЧАЛАВЕК"

## ВЫЙШЛА ФАКСІМІЛЬНАЕ ВЫДАННЕ КНІГІ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ "АД РОДНЫХ НІЎ"

Шараговы ўкраінскі нацыяналіст заўсёды меў неаспрэчную перавагу над сваім беларускім калегам: масяжовы Багдан Хмяльніцкі, што аглядае Кіеў з узнятага на дыбкі каня, гетманскай булавой сваёй, аказваецца, у бок Масквы паказвае. І не проста паказвае, а пагрозліва размахвае: геть додому, маўляў, москалі, бісові души! І што тут запярэчыш.

Беларусы доўга думалі, як пераплюнуць сваіх паўднёвых суседзяў. І прыдумалі: пад надзейным прыкрыццём святкавання 50-годдзя перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў прапітаным яшчэ з застойных часоў нацыянальным духам мястэчку Зэльва на п'едэстал быў урачыста ўсцягнуты танк. І скіраваў гэты танк пагрозлівы хобат гарматы праменька на ўсход. Не чапай, маўляў, старэйшы брат, нашай незалежнасці, а то стрэлю. Праваруч ад танка месціцца райваенкамат, які заўсёды гатовы абвясціць татальную мабілізацыю.

Тут сярэднестатыстычны беларус скептычна пасміхнецца: які там нацыянальны дух у Зэльве? Яго ў сталіцы днём з агнём не знайсці. А вось і няпраўда. Адно тое, што ў Зэльве з 1956 па 1983 год (да самай смерці) жыла Ларыса Геніюш, прымушае ўсіх скептыкаў ставіцца з павагай да невялікага мястэчка.

Аб звышпільнай увазе савецкіх уладаў да асобы паэткі сведчыць той факт, што яшчэ ў 1948 годзе, пасля паспяховага выкрадання сям'і Геніюшаў з чэшскай Прагі, у Мінску яе дапытваў сам Цанава, ці, як яго за вочы й за справы называлі, — Лаўрэнцій II. Пасля адбыцця васьмігадовага тэрміну (засуджвалі на 25!) і датэрміновага вызвалення ўвага гэтая не меншала — Геніюш і на волі знаходзілася пад каўпаком КДБ. Кажуць, дзеля гэтага ў заштатным мястэчку стварылі нават спецыяльны аддзел тае паважнае ўстановы.

У хаце Геніюшаў сёння жывуць чужыя людзі, якія менш за ўсё думаюць пра магчымую ў будучыні мемарыяльнасць іхняе гасподы. Шмат чаго перабудавана, прыбудавана, знішчана. Вуліца Савецкая, 5... Па іроніі лёсу менавіта на такой вуліцы вымушана была жыць паэтка, якая адмовілася ад прыняцця савецкага грамадзянства (факт па тым часе нечуваны). Відаць, не зусім утульна адчувала сабе Ларыса Геніюш на роднай зямлі, калі ў дзённік пісаліся скрушныя радкі: "Як адыходзіць усё святое ўбок, калі людзям паабяцаюць грошы, як танна яны прадаюць і сяброўства, і мову сваю, і мінуласць, і зямлю, і дзяцей сваіх, і саміх сябе... Я ўжо не думаю, каго можна купіць, я горка думаю, каго ж нельга купіць з беларусаў? Я гляджу вакол, бачу найстрашнейшых суседзяў сваіх, якія падслухоўваюць кожнае наша слова, падглядаюць кожны мой крок і даносяць ужо яўна, а да мяне прыходзяць пазычыць ім што ці памагчы. Я баюся чалавека ў хату, калі гэта савецкі чалавек... Я баюся, калі нам нехта нясе падарак, пасля такіх цукеркаў выратавалі мяне толькі кефір і лекі, а муж зжаўцеў, збялеў і ледзь выжыў з такога..."

**І нараджаліся адчайныя вершы:**

**Далі табе нямала чарак**
**на твой нацыянальны сон,**
**народ свінарак і даярак,**
**народ разяваў і варон...**

Неяк раней, калі яшчэ зэльвенскі Ленін махаў кулаком цераз плошчу на бел-чырвона-белы сцяг над райвыканкамам, у галовах мясцовых кіраўнікоў блудзіла думка пра музей. Сёння пра яго ўжо ніхто й не заікаецца — а як жа, вунь зноў у "Советской Белоруссии" напісалі, што Геніюш фашыстоўка...

Праўда, у апошнія гады на дзень народзінаў паэткі ўманулася прыязджаць з Мінска інтэлігенцыя. Прыедзе поўны аўтобус, самі перад сабою выступяць і назад... Кнігі Ларысы Геніюш у Зэльву чамусьці не трапляюць (хаця прыстойную кнігарню перапрафіляваць на продаж снікерсаў і калготак пакуль што не даўмеліся). У свой час мне давялося прыйсці на дапамогу айчыннаму кнігагандлю — прывёз на чарговыя ўгодкі й раздаў паўсумкі "Споведзяў" (дзённік паэткі, выдадзены ў 1993 годзе), якімі былі завалены ўсе мінскія кнігарні.

І вось нядаўна слонімская друкарня вырашыла дапамагчы сталічным выдавецтвам і супольна з гарадзенскай фірмай "Альгерд" выпусціла ў свет факсімільным спосабам кнігу Л. Геніюш "Ад родных ніў" (упершыню выйшла ў Празе ў 1942 годзе). Будзем спадзявацца, што хоць на гэты раз голас слыннай землячкі будзе пачуты ў Зэльве ды яе ваколіцах. А ўсім астатнім, хто пажадае набыць гэтае каштоўнае выданне, раю наведаць мінскую "Кнігарню пісьменніка" (вул. Казлова, 2), альбо патэлефанаваць: 23-35-17, 23-07-40.

**Міхась СКОБЛА**




*На здымку: магіла Л. Геніюш і яе мужа Янкі ў Зэльве.*

## ПРА СКАРЫНУ ГАВОРКА

Новы год ужо сустрэў калектыў выдавецтва "Полымя". Прынамсі, вядомая кніга Анатоля Клышкі "Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга" значыцца ў тэматычным плане на 1996 год, прытым павінна была выйсці толькі ў другім квартале, а днямі яна ўжо прыйшла да чытача. Але яшчэ важней тое, што апошнім часам выдавецтва "Полымя" звярнула ўвагу на выпуск твораў для дзяцей і юнацтва (выйшлі ўжо кнігі Яраслава Пархуты і Уладзіміра Ягоўдзіка). Кніга "Францыск Скарына..." А. Клышкі — з тых, якія спатрэбяцца школьнікам. Аўтар не толькі шырока расказвае пра знакамітага першадрукара, а і прыводзіць цікавыя звесткі, што ўвогуле тычацца пісьменства. Гаворыцца пра тое, на чым пісалі нашы продкі, як ствараліся кнігі ў далёкія часы, як было вынайдзена кнігадрукаванне.

## А Ў "МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ" — НОВАЯ СЕРЫЯ

І не абы-якая, а "З вякоў мінулых", што ставіць за мэту знаёміць чытача з лепшымі творамі, у якіх адлюстравана багатая нацыянальная гісторыя, праўдзіва паказана, як у розныя часы наш народ змагаўся за сваё нацыянальнае і сацыяльнае разняволенне, імкнуўся да годнага жыцця, да таго, каб "людзьмі звацца". У асэнсаванні гэтага шляху, як вядома, шмат зрабіў Уладзімір Караткевіч. Яму і выпаў гонар адкрыць згаданую серыю. У аднатомнік "Дзікае паляванне караля Стаха", акрамя аднайменнай аповесці, ўвайшлі такія вядомыя творы, як "Сівая легенда", "Цыганскі кароль" і іншыя.

## ДОБРА, КАЛІ ЁСЦЬ АЛЬТЭРНАТЫВА

14 снежня ў Наваполацку адбылася прэзентацыя новага нумара часопіса Таварыства вольных літаратараў "Калоссе" (NN 2—3). На вечарыне, акрамя тэвээлаўскіх выданняў, можна было набыць свежы нумар "Нашай Нівы", кнігі з серыі "Адкрытае грамадства", заснаванай Беларускім Фондам Сораса. Сярод удзельнікаў прэзентацыі былі вядомыя аўтары беларускага альтэрнатыўнага літаратурнага руху Алена Шаціла, Іра Ульстэровіч, Вінцэсь Мудроў, Алесь Аркуш. На імпрэзе выступіў намеснік старшыні наваполацкай Рады БНФ Уладзя Кунцэвіч, які паведаміў, што ў Наваполацку ў бліжэйшы час пачне дзейнічаць альтэрнатыўная сістэма распаўсюджвання дэмакратычных выданняў, такіх, як газеты "БДГ", "Имя", "Свабода", "Народная воля" ды іншыя. Альтэрнатыўныя распаўсюджвальнікі паабяцалі, што возьмуць пад сваю апеку і часопіс "Калоссе".

А. К.

## ТЭВЭЭЛАЎЦЫ НАЗВАЛІ СВАЙГО ЛАЎРЭАТА ГОДА

Традыцыйна ў снежні Таварыства вольных літаратараў вызначае лаўрэата сваёй літаратурнай прэміі за лепшую кнігу года "Гліняны Вялес". Сёлета прэмія прысуджана Алесю Разанаву за зборнік "Паляванне ў райскай даліне". Гліняная стодка старажытнага Вялеса-95 будзе выканана па эскізах полацкага мастака Сяргея Цімохава.

А. А.

## НОВЫ ГОД — НОВЫМ ГОДАМ...

А падарункам заўсёды рады. Найперш — дзеці. І асабліва — абдзеленыя бацькоўскай увагай і ласкай. Апошнім сёння даводзіцца разлічваць на тое, што знойдуцца добрыя дзядзькі і цёткі.

А яны і знайшліся. І прыехалі да выхаванцаў Старадарожскага дзіцячага дома. Гэта прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду, галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка" Уладзімір Ліпскі, старшыня Мінскага аблана Аляксандр Новік, сакратар праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пісьмянкоў і Уладзімір Ягоўдзік, які, як вядома, апошнім часам вельмі шмат піша для дзяцей. І не з пустымі рукамі госці наведаліся да хлопчыкаў і дзяўчынак. Выхаванцам была падорана бібліятэка кніг з аўтографамі аўтараў, падарунак ад дзіцячага фонду, а яшчэ — самыя найлепшыя пажаданні, без якіх у наш нялёгкі час таксама не абысціся.

Паэзія

Алесь ЧОБАТ



# КРЭСЫ НАШАГА ЛЁСУ

*МАЛЕНЬКАЯ КНІГА*

## ЧАЛАВЕК

Чалавек пачынаецца не па волі сябе самога.
Не па волі бацькоў. Нават не з ласкі Бога.
Чалавек пачынаецца невядома адкуль.
І гэтаксама знікае — ад голаду ці ад куль.

Гэта не мае сэнсу.
Што канец, што пачатак.
Чалавек прыходзіць і адыходзіць —
і гэта ўсё.
Застаюцца толькі паперкі
з мноствам пячатак,
за якімі спакой і вайна —
адным словам, жыццё.

## ГАДЗІННІК

Час няўмольна ідзе —
ён чацвёртае вымярэнне.
Вось насценны гадзіннік,
працуе ад батарэек.
Хай што хочаш на свеце
робіцца за акном,
але ходзіць гадзіннік,
як ганяе Харон свой паром.
Я жыву пад гадзіннікам,
быццам пад святым Янам —
я цвярозым пад ім пасяджу,
пасяджу пад ім п'яным,
а чацвёртае вымярэнне
мне пакажацца светлым сном...
І тут раптам гадзіннік спыняецца!
Селі яго батарэйкі,
і ў апошнім прыпадку жыцця
рэжуць скрыпкі,
рагочуць батлейкі,
як у кнайпе за польскім за часам:
танцуюць усе!!!
А гадзіннік стаіць —
стойла ж сэрца не грэе.
Час заўсёды працуе ад батарэек.
А мы скачам сабе на спружынах...
Куды нас нясе?!
Тут спыніўся спружынны завод.
Мы стаім — быццам Сцэна Нямая.
Апісаць сцэну гэтую
нават патрэбы не маю:
замярзае зямля,
а на бруку за вокнамі лёд...

## СПАЧУВАННЕ ВЯЛІКАМУ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ

Па дарозе з горада на правінцыю
спачуваю вялікаму князю Вітаўту,
які меў яшчэ што бараніць.

Што дзяліць з Ягайлам і князем Сямёнам.
Што даваць ваярам сваім улюбёным.
І каго праганяць. І каго цаніць...

Спачуваю вялікаму князю Вітаўту
па дарозе з горада на правінцыю:
князь — а колькі работы меў!

А цяпер у мяне і ў начальства напага,
хоць і хамы мы, а нічога страшнага.
Вось адбыў сваю службу. Прыйшоў. Паеў...

## МАРЫЯ БАГДАНОВІЧ

Маці Марыя на гродзенскіх могілках спіць.
Камень паставіў па ёй Панцялееў Валодзя.
Надпіс і крыж — і ніякае медзі. І годзе.
Медзь абламалі б.
Наш гандаль на гэтым стаіць.
Камень стаіць каля сцежкі да белай царквы.
Злева — Ісус, а направа —
спіць маці Марыя.
Праз два імёны Гасподзь нас ратуе і крые.
Каб мы не трапілі ў новыя ямы й равы.

Трэцім у Тройцы Святой
сын Марыі Максім.
Ён пахаваны далёка. На неба узняты.
На пілігрымку выводзіць дарога
да Ялты —
праўду казалі, праходзіць Паэт
Крым і Рым.

## АДАМ БАГДАНОВІЧ

Кухараў сын. Самавук.
Бухгалтар і сацыяліст.
Меў трох жонак і дзесяць дзяцей —
перажыў трох жонак і восем дзяцей.
Збіраў кнігі.
Пісаў мемуары.
Мяняў кватэры.
Несла яго па свету...
Сын Максім быў першым паэтам
апошніх беларусаў.
Памёр у Ялце. Адзін.
Згарэла ў агні грамадзянскай вайны ўсё,
што нажыў практычны бацька.
І няма Беларусі,
пра якую пісаў яго непрактычны сын.
Марнасць марнасцяў...

...у доме каля старога парку ў Гродна
побач з абласным ваенкаматам
цені ходзяць.
Бацькі і сына.
Кроў стыне ў жылах.
Холад кругом...

## ГРОДЗЕНСКІЯ КАСЦЁЛЫ

Перастаялі. Перажылі.
Кожную сволач перамалолі.
Крыжы мае! Дайце мне дапамогі!
Як мне пражыць на гэтай зямлі?!

І падрывалі, і ганілі вас,
і паўдуркамі час агрызаўся,
але барока краса не здалася...
Божа Праміласцівы! Злітуйся з нас!
Божа! Прыдумалі мы Цябе,
каб аніколі Цябе не забілі.
Вось цэлы сэнс кожнай брацкай магілы.
Божа! Прыходзяць браты да Цябе...

Божа Ісусе, Цябе я пішу з літары той,
як усіх нас пісалі —
Ты ўжо не злуй! Мы тут справімся самі.
Ты ў нас адзін. І Цябе я прашу...

## ВОСЕНЬ

Грыбоў у лесе — як перад вайной.
Дажджы пайшлі. Палезла вёска ў боты.
Цяпер калгасы поўныя банкроты,
дык люд работай корміцца адной —
лісічкі за даляры прадаваць
літоўцам, рускім, немцам і палякам.
Што ж, трэба жыць пры ўладзе
пры ўсялякай —
касіць, даіць і малако здаваць.

Край гэты прадалі ужо даўно.
Адны лісічкі ў лесе засталіся,
ды вера, што паможа Бог калісьці,
ды дзень за днём размовы пра адно.

## СТАНЦЫЯ РЫБНІЦА

Цягнік спыняецца. Лес.
Сотні людзей у гумовых ботах
з поліэтыленавымі вёдрамі ў руках
высыпаюць з вагонаў.
Нарыхтоўка грыбоў.
Жабрацкае паляванне.

Канец верасня.
Беларускае радыё
і тэлебачанне ніхто не слухае.
Даўно вядома, што выжываць мусіш сам.
Нічога новага.
Спыняецца наш цягнік.
Дарога нікуды.

## ЧОРНАГАЛОВІКІ

У гэтым годзе іх высыпала безліч.
Папрабівалі асфальт.
Камуфляж. Берэты. Чаравікі. Зброя.
Пільнуюць.
Ходзяць тройкамі — на ўвесь ходнік.
Крычаць у вершалінах вароны.
На днях выйшаў апошні нумар
апошняй газеты.
З апошнімі вершамі.
Весела спяваюць па радыё
самадзейныя калгасныя бабы.
"Бывайце здаровы..."

## САМ

Не з бедных ён выйшаў,
хаця і не быў з заможных.
Народ яго любіць і любіць —
і ўсё яму можна.
Ён плечы расправіў, глядзіць і туды,
і сюды.
Як сонца, над Краем падняўся арол малады.
Ляціць наш арол і заўсёды кругом паспявае.
За ўсім даглядзіць —
вышыня ж пад скрыдламі якая!
І нашыя людзі шчаслівыя жыць
пад арлом,
даіць і касіць, і цягацца па полі з ралом.

Няпраўда, што нашыя людзі такія дурныя,
а нават калі часам троху —
ім гэта не ные.
Не трэба ламаць галаву —
лепей мордай аб стол.
Каб думаць,
то дзве галавы мае дужы арол.

## ХАМ

Ах, просты чалавек, як цяжка стала жыць!
А што ўсяго цяжэй,
то стала жыць не проста,
як абяцалі нам. Ні развіцця, ні росту,
але наадварот — свет валіцца, дрыжыць...

Ах, просты чалавек, як цяжка ты рабіў!
Але шчаслівы быў і ні пра што не думаў,
а потым на Крамлі сеў гэты лысы дурань —
і нам піць не даваў, і сам Саюз прапіў...

Ах, просты чалавек, як цяжка зразумець!
Ну што яны крычаць аб нейкай Беларусі?!
Лепш дайце камбікорм —
бо свінні, куры, гусі,
а ваша Беларусь магла б і пацярпець...

## МЯСТЭЧКА

Плошча з райкомам і кінатэатрам.
Рэстаран забіты на сорак дошак.
З навіны — толькі два кіёскі прыватных.
Іх палілі, ламалі, шукалі грошы.

А над шыферам хатаў сярэдняя школа
ўсіх вышэй тырчыць аж на тры паверхі.
Царква не выйдзе з рамонту.
Справы лепш у касцёла.
Але гэта — ўспаміны ды сантыменты.

Лепш не можа тут быць.
Тут людзей разагналі.
Мястэчкоўцы адны паміраць засталіся.
Шафярня вясковая свае тралі-валі
рассыпае кругом,
як кляны ў старым парку лісце.

## МУТАНТЫ

Апахмяляемся мутным гурковым расолам.
Потым завод.
Прахадная з плакатам вясёлым.
Потым жалезная жоўтая бочка
і купка сяброў.

Потым дыскусія.
Складчына пад "Гастраномам".
Кожны сустрэчны з рублём
будзе лепшым знаёмым,
а тут усё ж трыста тысяч жыве жыхароў.

Родны ваенны завод
у сярэдзіне васьмідзесятых.
Тысячы простых рабочых у чорных
і белых халатах.
Не пераводзіцца дачны гурковы расол.

Правадыры паміраюць.
Штогод на заводзе жалоба.
Мутныя дні настаюць.
І здаецца, на шыі народа
чорцік сядзіць і стругае асінавы кол...

## ШЭСЦЬ СОТАК

Шэсць сотак гуркоў і бульбы.
Домік. Бочка з вадой.
Так выжываем пакуль мы.
Няма дарогі другой.

Няма яе і не трэба.
Толькі б горш не было.
Здурэла і так планета.
Навокал падман і зло.
Не маюць наіўных мараў.
Жывуць у гэтым жыцці
ўнукі лагерных нараў,
дзеці сотак шасці...

## КРЭСЫ

Гэта нашыя Крэсы.
Мы жывём над абрывам.
Тут ва ўсіх інтарэсы.
Мы пад кожным уплывам.

Спадзяёмся на заўтра
каторы ўжо год.
Але Захад ёсць Захад.
Але Ўсход ёсць Усход.

Звычаёвае права —
і нічога не зробіш.
Тут што злева, што справа.
Толькі слёзы і рогат.

Танкі выпаўзлі з лесу.
Паляцелі вароны.
Гэта розуму крэсы.
Гэта крэсы народа.

# КРЫЎДА

Уладзімір СЦЯПАН



ВЯДОМА, што людзі ў гадах любяць хадзіць на пахаванні, каб потым паразважаць пра тое, у што, ды як быў апрануты нябожчык, хто нёс труну, хто ішоў следам, а каго не было і чаму. І па могілках старыя ходзяць, у адрозненне ад маладых, з іншымі мэтамі: прыглядаюцца, нібыта прыкідваюць і прымерваюцца, дзе лепшая зямля, жаўцейшы жвір, каб потым наказаць сваякам ды дзецям, што менавіта вось тут, вось на гэтым месцы трэба капаць дол...

Хавалі Язэпа Самусенку. Два гады не дажыў стары да васьмідзесяцігоддзя. Ні на што не скардзіўся — заснуў і не прачнуўся. Яго лёгкая смерць выклікала зайздрасць і захапленне, многія марылі пра такі сыход з жыцця. Можа, таму, што Язэп Самусенка адышоў так лёгка і бесклапотна для сваякоў і дзяцей, пахаванне было не надта ладным. Сабраліся блізкія і колькі старых.

Вось на тым пахаванні, прагульваючыся па старых неабсяжных могілках, Сцяпан Карлавіч Глод і сказаў свайму лепшаму сябру Максіму Антонавічу Радзюку пра запаветную мару. Сказаў шчыра, з сумам у голасе і слязой на вачах. "А ведаеш, Максім, калі памру, няхай мяне пахаваюць вось тут, пад гэтай акацыяй, у цяньку, пры ўваходзе..." Сказаў і патупаў правай нагой па дзірване, прайшоўся ад адной нябесна-блакітнай агароджы да другой, пакратаў шурпаты камень акацыі, адшчыкнуў галінку з белымі кветачкамі і паднёс да кірпатага носа. Максіма Радзюка ад тых слоў кінула ў пот, рукі непаслухмяна прайшліся па гузіках кашулі, закалаціліся. "Не лепшае месца ты знайшоў, жонку побач не пакладзеш, ды і няўтульна тут пры ўваходзе..." "Толькі тут і больш нідзе. Я вырашыў раз і назаўсёды. А жонка сабе месца знойдзе, можа, яна яшчэ замуж выйдзе, яна ж на дванаццаць гадоў маладзейшая...", — сказаў, як адрэзаў, Сцяпан Глод і падаўся да чырвонай брамкі, а за ім пацягнуўся пакрыўджаны Максім Радзюк. Не мог тады ведаць Сцяпан Карлавіч Глод, паважаны ў гарадку чалавек, што гэтае ж месца ўжо даўно нагледзеў сабе яго сябра і аднагодка Максім Антонавіч Радзюк. І абодва яны, зразумела, не ведалі, што будзе далей і як складзецца іхняе жыццё. А тады яны паціху ішлі да аўтобусіка і нічога ім не хацелася так моцна, як ляжаць менавіта там, за дзесяць крокаў ад уваходу, пад старой разгалістай акацыяй, духмянай і цяністай. І там ім падабалася месца, што хоць зараз кожны з іх гатовы быў памерці і пад гукі жалобнага маршу духавога аркестра выправіцца ў апошні шлях, пад цяністую акацыю...

Спрэчка і сварка пачалася не на памінках па Язэпу Самусенку, а праз два дні, у спякотны поўдзень.

Максім Радзюк і Сцяпан Глод адстаялі даўжэзную, як вечаровы цень заводскага коміна, чаргу каля сталоўкі і наперажываліся. Прадаўшчыца праз кожную хвіліну крычала гучна і настойліва: "Без чаргі не лезце, у чаргу не станавіцеся — піва нямашка!" "Па адным давай, па адным, Рая, тады ўсім хопіць!" — прасіў, прапаноўваў Сцяпан Глод і каўтаў вязкую сліну. Але мужчыны бралі па два куфлі, а многія ставілі перад чырванатварай Раяй вялікія бітончыкі ды пукатыя слоікі.

Зразумела, крыўдна адстаяць чаргу, каб перад самым носам упала з меднага крана колькі кропляў і ўсё. Вось таму і расхваляваліся Радзюк з Глодам, вось таму і пачалі абурацца...

Магчыма, каб не музыкі з духавога аркестра, то ! Глод, і Радзюк, ды і іншыя выпілі б халоднага, бурштынавага напою, спатолілі б смагу, а потым пакінулі пыльны гарачы пляц. Але музыкі спяшаліся. Яны былі нападпітку, і піва ім хацелася нясцерпна — як некаторым цяжарным салёнага агурка. Яны толькі што вярнуліся з аднаго пахавання і мусілі неадкладна выпраўляцца на другое. Карацей, людзі былі пры справе, а таму і рванулі без чаргі. Мажная Рая пайшла насустрач людзям мастацтва і, не чакаючы, пакуль піва адстаіцца, пачала цадзіць куфаль за куфлем. У чарзе пачалі абурацца. "Што ты, дзед, раўеш, што ты стогнеш? У нас кліент чакае, а ты лямантуеш!" — "Я ж, дзед, дзьмуць не змагу, сліна мундштук заб'е!.." "Ваш кліент чакаць можа, колькі заўгодна, хоць тыдзень..." — заўважыў Максім Радзюк і выцер сухія губы. "Смярдзець пачне, і так два дні ляжыць. Спёка ж на вуліцы, як у лазні", — заступілася за музыкаў прадаўшчыца. "Няма парадку". — "Так, няма!" — "А яго і не былоо!" — "Так, не было". — "Раней быў". — "Быў, да сплыў".

Музыкі папілі піва і пачалі грузіцца ў аўтобусік з чорнай паласой. Але іх добры настрой не перадаўся тым, хто застаўся на пыльным, залітым пякельным сонцам пляцы. "А каго хоць хаваць будзеце?" — пацікавіўся мужчына з татуіраванай спінаю па мянушцы Гузак. "А хрэн яго ведае", — адказаў маладзенькі трубач і выцер рукавом прышчаты твар і мокры бязвусы рот. "Ці не цесця Міхнюка?" — "Яго, яго, памёр нарэшце..."

Струмень піва з крана рабіўся ўсё больш слабым і тонкім, а калі чарга нарэшце дайшла да Радзюка з Глодам, Рая ўжо хацела спыніць працу. "Ну хоць куфаль нацадзі, хоць адзін..." — пачаў упрошваць маладзіцу Сцяпан Глод. Рая скрывілася, выцерла рукі аб замызганы, як дзіцячая пялюшка, фартух і доўга, па кроплі, цадзіла каламутную вадкасць у куфаль. Піва тое было без пульхнай апетытнай пены, непрывабнае, а таму яшчэ больш жаданае. Сцяпан Глод разлічыўся і зрабіў першы глыток. "Ты ж, Сцяпан, хоць мне пакінь каўтануць!" — "Пакіну".

Калі Глод перадаваў куфаль свайму сябру, непаслухмяныя пальцы Максіма расціснуліся, куфаль упаў, разбіўся. З гэтага і пачалася сварка.



Спёка.

Неспатоленая смага.

Злосць.

"Хрэн ты няўклюдны, кропля была і тую перавёў!" — абурыўся Глод і ўзяўся выціраць заплёханыя пантофлі кавалкам газеты. "Сам ты хрэн, падаць не можаш, пашкадаваў сябру!" І пайшло-паехала. Згадаліся ўсе крыўды, назапашаныя за пяцьдзесят гадоў знаёмства, не ў час вернутыя пазыкі, згубленыя ключы, цвікі і малаткі, ключ на дваццаць два, абцугі і іншае. Мужчыны, якія дапівалі піва, павесяліліся і шмат пра што пачулі. А Глод з Радзюком размахвалі рукамі, пырскалі слінай, лаяліся. "Ды куплю я табе піва!" — "Не хачу я твайго піва, сам куплю!" "Купляй, казёл лысы!" — "Хахол ты недарэзаны, усю вайну пры кухні сядзеў, салдатаў аб'ядаў!" — крычаў Радзюк на Глода.

Мужчыны дапілі піва. Рая сабрала куфлі і павесіла на бочку з апетытнай назвай вялікі ржавы замок, а Радзюк з Глодам усё сварыліся. Ніхто з прысутных сыходзіць не збіраўся, усіх ахапіла цікаўнасць, усе чакалі выніку. "Не ляжаць табе пад акацыяй, не ляжаць, гэта маё месца!" — крычаў Радзюк. "Ах ты сабака беспародны, скаціна бязрогая, гэта маё месца!" — "Я, можа, і бязрогая, а ты рагаты, рагаты!.."

Па розных нагодах, а часам і без прычын сварыліся і біліся ў гарадку. Але каб за месца на могілках — такога не было ніколі. Дзіўная прычына, незвычайная. Не за пляшку гарэлкі, не за дзяцей ці ўнукаў, не за жменю цвікоў, а за месца на неабсяжных могілках. Здавалася б, якая розніца, дзе ляжаць і якое дрэва побач, але — не. Для Глода і Радзюка розніца была вялікая, яна імгненна на пыльным пляцы ператварылася ў сэнс жыцця.

Зразумела, што вырашыць спрэчку можна было лёгка, варта толькі дамовіцца, што той, хто памрэ першым, і будзе пахаваны пад старой акацыяй. Але дамаўляцца ні Глод, ні Радзюк не жадалі. Можна было зрабіць па-іншаму, пахаваць якую старую на тым месцы і гэтым спыніць спрэчку, знішчыць прычыну. Але начальнік камунальнай службы Аляксей Патапавіч Капоша загадаў нікога пад акацыяй не закопваць, і яго слухаліся і вартаўнік могілак, і два далакопы з кацельні.

У гарадку з месяц толькі і было размоў, што пра сварку двух старых. А яны не сядзелі склаўшы рукі. Радзюк напісаў куды трэба паперу, якой пераканаўча даводзіў, што пенсіянер Сцяпан Карлавіч Глод падмануў заводскае начальства, а таксама "сабес" і выйшаў на пенсію на паўгода раней, чым трэба. Яму паверылі, бо факты былі дакладныя, і пенсію Сцяпану Глоду перагледзелі. У адказ Сцяпан Глод таксама напісаў данос, у якім даводзіў, што Максім Радзюк падманам атрымаў кватэру, але на яго ліст не адгукнуліся, а адно пасмяяліся.

Калі ім даводзілася сустракацца на вуліцы, яны адварочваліся і плявалі ўслед адзін аднаму, але лаяцца баяліся, бо ведалі, што кожны толькі гэтага і чакае, каб падаць заяву ў міліцыю.

Сцяпан Глод бліжэй пад восень змог адпомсціць Радзюку. Ён пазваніў ноччу ў міліцыю і сказаў, што ў кватэры Радзюка гоняць самагонку. Сяржант і двое панятых змаглі прыхапіць гаспадара за справай... Глод радаваўся, як малое дзіця...

Цікаўнасць да сваркі была неверагоднай. Калі нехта з'язджаў з гарадка, а потым вяртаўся, то адразу пытаў, як там Глод з Радзюком, і яму пераказвалі апошнія падзеі. Складаліся версіі пра тое, як усё павернецца і чаго варта чакаць. А самае галоўнае, што ні Радзюк, ні Глод ужо і думаць забыліся пра ўласную смерць. Яны жылі так актыўна, як ніколі, яны сачылі адзін за адным, распытвалі пра тое, што сказаў вораг, што задумаў, што робіць зараз.

На свята вызвалення гарадка і Радзюк, і Глод апранулі летнікі з луской узнагародаў, нібыта кожны з іх хацеў давесці праз гэта сваю ягамосць, пераканаць у тым, што праўда на яго баку і ён будзе за яе змагацца, не шкадуючы жыцця...

Першым не вытрымаў барацьбы і вырашыў назапасіць сіл Сцяпан Глод. Ён з'ехаў на Чарнігаўшчыну да роднай сястры, з'ехаў на Радзіму: туды, дзе былі пахаваныя яго бацькі і брат. А праз два тыдні ў гарадку даведаліся, што Сцяпан Глод памёр ад інсульту. Радзюк узрадаваўся і заперажываў, бо меркаваў, што яго ворага прывязуць хаваць у гарадок. Дзеці і жонка вырашылі па-іншаму. Пахавалі Сцяпана Карлавіча Глода на Чарнігаўшчыне, побач з бацькамі.

"Бог — ён усё бачыць. Мая праўда, маё месца пад акацыяй пры ўваходзе, але паміраць я пакуль і не думаю, яшчэ пажыву, пагуляю", — казаў знаёмым семідзесяцігадовы Максім Радзюк і падміргваў, а можа, гэта толькі здавалася, што ён міргае, бо ў яго пачала сутаргава торгацца шчака.

У канцы верасня, калі ўнукі ўжо хадзілі ў школу, Максім Антонавіч вырашыў легчы на пару тыдняў у бальніцу "на прафілактыку" і крышку падлячыцца. Там, у бальнічнай палаце, яго і заспела навіна, што раптоўна памёр яшчэ не стары дырэктар сталоўкі. Хворыя, як вядзецца, абмеркавалі прычыны, згадалі добрымі і нядобрымі словамі нябожчыка, паспачувалі сваякам. А праз два дні Максім Радзюк даведаўся, што дырэктара сталоўкі, па распараджэнні самога Капошы, пахавалі пад старой акацыяй. Ад гэтай навіны Максіма Антонавіча Радзюка пачало калаціць, ён кінуўся спачатку да рукамыйніка, дзе яго званітавала маннай кашай і кампотам з чарнасліву. Суседзі па палаце не на жарт спалохаліся, выклікалі дзяжурную сястру, але было позна.

Максім Радзюк у шэрай піжаме і пантофлях на босую нагу бег па гарадку да могілак. Яго сустрэў свежы груд жвіру і драўляны помнічак, які вытыркаўся з вянкоў і кветак.

А потым пайшоў дождж. Стары вымак так, што нават у кішэнях было мокра. Увечары паднялася тэмпература, падскочыў ціск. Рабілі ўколы, ставілі кропельніцу. У палату для ветэранаў Максім Антонавіч не вярнуўся. Перад смерцю ён прыйшоў у прытомнасць і пракляў загадчыка камунальнай службы.

Пахавалі яго пры канцы могілак побач з кукурузным полем далёка-далёка ад уваходу.

А праз які месяц магіла пад старой акацыяй была зруйнавана. На вільготнай ад восеньскіх дажджоў зямлі было шмат слядоў босых мужчынскіх ног. Відаць, світанак не дазволіў рабаўнікам выцягнуць труну дырэктара сталоўкі. У гарадку колькі дзён толькі і было размоў, што пра могілкі і рабаўнікоў. Меркавалі, хто ж гэта мог быць. Сваякі нябожчыка нанялі рабочых і тыя паправілі магілу, паставілі апалубку і залілі бетон, а зверху паклалі мармуровую пліту, на якой было прозвішча і словы вечнай памяці ад дзяцей, жонкі і сваякоў.

Прайшоў яшчэ тыдзень, мармуровую пліту раскалолі і скінулі. Міліцыя пачала шукаць злачынцаў, бо з'явілася версія, па якой атрымлівалася, што рабаўнікі пакваліліся на залатыя зубы нябожчыка, а іх, на зайздрасць многім, ён меў поўны рот.

Знайшлі вартаўніка, п'янага і напалоханага. Пачалі распытваць. Вось тады ён і прызнаўся. "Я ведаю, хто раскопвае магілу, ведаю, сам бачыў іх неаднойчы. Калі свеціць месяц, па могілках ходзяць і сварацца два няголеныя дзяды, адзін з рыдлёўкай на плячы, а другі з мехам. Яны раскопваюць магілу пад акацыяй, а потым кладуцца ў яміну і задаволена рагочуць..."

"Ён п'яны, ты што, не бачыш? — казаў сяржант следчаму, — і вярзе абы-што..."

Следчы схапіў вартаўніка за худыя плечы і пачаў калаціць, як прычыненыя дзверы: "Хто гэта? Хто?"

Вартаўнік набраў поўныя грудзі паветра і разам са смуродам выдыхнуў: "Глод і Радзюк, век мне пляшкі не бачыць!"

Самае дзіўнае, што ў гарадку ўсе паверылі лядашчаму вартаўніку, бо надта гэта было падобна да праўды.

## І НЕ ТОЛЬКІ ПОЛЬСКАЕ РАДЫЁ

**прамаўляе па-беларуску, у праграмах якога для замежжа, як вядома, ёсць і беларуская рэдакцыя. Беларуская мова загучала і на польскім тэлебачанні. Там з'явілася спецыяльная праграма, што займае дваццаць хвілін і выходзіць у эфір раз у месяц кожную першую суботу. "Беларускаму выпуску" (такую назву яна мае) на экране надаецца і паралельна пераклад для польскага гледача.**

**Пра гэта паведаміў у адным з апошніх нумароў штотыднёвіка "Ніва" Аляксандр Максімюк. У нататцы "Беларускі выпуск" ён выказвае і шэраг пажаданняў. Сярод іх: "У сувязі з уваходам беларускіх перадач у праграму польскага тэлебачання хочацца ...выказаць пажаданне, каб не пайшлі яны па схеме беларускіх радыёперадач, якія часта калоцяцца ў зачараваным трыкутніку Беласток—Гайнаўка—Бельск".**

## ПРА ГЕОГРАФАЎ І ГЕОЛАГАЎ

**"Географы і геолагі — ураджэнцы Магілёўскай вобласці" — кароткі біябібліяграфічны паказальнік пад такой назвай пабачыў свет у Магілёве. Ён складзены выкладчыкамі мясцовага педагагічнага інстытута, сябрамі Магілёўскага аддзела Геаграфічнага таварыства, супрацоўнікамі аддзела краязнаўчай літаратуры абласной бібліятэкі і прысвечаны 150-й гадавіне ўтварэння Рускага геаграфічнага таварыства, у рабоце якога прымалі ўдзел і шматлікія ўраджэнцы Магілёўшчыны.**

**Паказальнік складаецца з 34 артыкулаў. У ім можна знайсці звесткі аб такіх славутасцях, як першы прафесар геаграфіі А. Смоліч, акадэмікі Г. Гарэцкі, К. Лукашоў, О. Шмідт, выдатныя географы і педагогі П. Лярскі, М. Ратабыльскі, актыўныя ўдзельнікі РГТ І. Насовіч, П. Шэйн і іншыя.**

**Другое, дапоўненае і перапрацаванае выданне паказальніка плануецца падрыхтаваць праз пяць год. У ім мяркуецца змясціць таксама здымкі, карты і схемы падарожжаў.**

**ІГАР ШАРУХА,**
**вучоны сакратар Магілёўскага аддзела Геаграфічнага таварыства.**

## ПРАБЛЕМА ПЕРШАЯ: ДАБРО

**Ці не з'яўляецца XX стагоддзе сапраўды стагоддзем кіно? Кінематограф прайшоў вялікі шлях, зрабіўшыся неад'емнай часткай культурнага жыцця эпохі. Калі 28 снежня 1895 года ў Парыжы на першым кінасеансе прысутнічала ўсяго 33 гледачы, дык цяпер штогод выпускаецца 2500 карцін, якія глядзяць мільёны.**

**Кіно аб'ядноўвае 103 розныя прафесіі, прадстаўнікі якіх сабраліся 15 снежня ў мінскім кінатэатры "Перамога" на святкаванне стагоддзя сусветнага і семдзесят першай гадавіны беларускага кіно. Прысутнічалі вядомыя рэжысёры, акцёры, сцэнарысты, з імёнамі якіх звязаны дасягненні айчыннага кінамастацтва. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што беларускія кінематаграфісты зрабілі варты ўнёсак у скарбніцу сусветнага кіно.**

**Работа ў кінематографе — гэта лёс, і напэўна шчаслівы, бо людзей, больш адданых сваёй прафесіі, чым кіношнікі, бадай, няма. "Кіно зрабіла з мяне чалавека", "кіно — маё каханне назаўсёды" — такія вось словы гучалі з вуснаў мэтраў айчыннага кіно.**

**Але разам з тым была і заклапочанасць будучыняй. Як адзначыў рэжысёр Віктар Тураў (ён удзельнічаў у святкаванні стагоддзя кінематографа ў Італіі), "на Захадзе вельмі занепакоены тым, што цяпер існуе неабходнасць вяртаць тое кіно, што нясе дабро, і не пускаць у свет "чарнуху", якая сее злобу і гвалт".**

**І гэта — праблема нумар адзін у год першага стагоддзя кінематографа. Трэба вяртаць на экраны добрыя фільмы, бо сённяшняя культура складаецца і з кіно таксама.**

**НАТАЛЛЯ ЕЎДАКІМАВА**

# ЖЫЦЦЁ І РОЛІ

## ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МІКАЛАЯ СЯРДОБАВА

***Дом артыстаў опернага тэатра на Старавіленскай вуліцы ў Мінску знеслі. І ўсё ж у памяці засталіся імёны тых, хто там жыў, — вядомых спевакоў, артыстаў балета, музыкантаў: Арсен Арсенка, Навум Балазоўскі, Ілля Мурамцаў, Зінаіда Васільева, Мікалай Сярдобаў...***

Памятаю, як пасялілася ў тым доме прыемная, прыгожая сямейная пара — вядучая прымабалерына Тамара Караваева і ўладальнік цудоўнага барытона Мікалай Сярдобаў. Мы, дзеці, не маглі налюбавацца імі. Яны ж заўсёды пяшчотна, ласкава, замілавана глядзелі адно на аднаго, амаль нікога не заўважалі.

У Мінск Мікалай Мікалаевіч Сярдобаў прыехаў сталым, вядомым артыстам. Пачалася ж яго пеўчая кар'ера вельмі рана — у дванаццацігадовым узросце. Ён тады жыў у Самары, вучыўся ў чацвёртым класе гімназіі.

"Што здарылася? Чаму настаўнікі не прыйшлі на заняткі?" — здзіўляліся ён і яго аднакласнікі, глядзелі ў акно і бачылі, як у бок вакзала рухаліся вайскоўцы ды абоз з параненымі салдатамі.

Менавіта тады, у 1917-м, яго жыццё пайшло ў іншым кірунку. Маці Мікалая, настаўніца, вырашыла, што хлопец пойдзе па шляху дачкі Таццяны, стане, як яна, піяністам, а, можа, і спеваком: ён жа прыгожа спяваў. Маці ўладкавала Мікалая ў хор царквы. Рэгенту вельмі спадабаўся альт новенькага. Харысты ж дружна адзначылі, што голас Мікалая — з яркім тэмбрам і нават лепшы, чым у іншых. Урэшце, ён стаў салістам.

У дзённіку Сярдобаў напіша, што ў той час хор выконваў Літургію С.Рахманінава, творы П.Чайкоўскага. Зусім іншы рэпертуар — народныя, рэвалюцыйныя песні — быў у капэле палітаддзела Туркестанскага фронту, дзе Мікалай спяваў альтовыя партыі. "Мы абслугоўвалі ваенных. Атрымлівалі паёк, абмундзіраванне", — адзначаў ён у сваіх успамінах.

Потым юны спявак быў пераведзены ў оперны перасоўны тэатр, якім кіраваў Д.Южын. Яны ставілі творы кампазітараў-класікаў: "Руслан і Людміла" М. Глінкі, "Барыс Гадуноў" М.Мусаргскага, "Князь Ігар" А. Барадзіна, "Фаўст" Ш. Гуно (у гэтай оперы ён выконваў партыю Валянціна).

"Мяне як маладога спевака публіка прымала цудоўна: крычалі "біс", кідалі кветкі", — пісаў М. Сярдобаў пра той перыяд свайго жыцця.

Пазней Мікалай не мог не напісаць у дзённіку: "Адчуваю, што мой голас ліецца свабодна, гук моцны".

І ўжо тады праявіўся яго драматычны талент. Малады артыст ствараў вобразы яркіх моцных асоб, людзей эмацыянальных, тэмпераментных. Уявіць іх дапамагаюць шматлікія фотаздымкі з хатняга архіва М. М. Сярдобава. Вось выгнаннік Дэман з аднайменнай оперы А.Рубінштэйна. Здаецца, такім і ўяўляў яго М.Лермантаў. Зусім іншы вобраз — Жэрмон у оперы Д. Вердзі "Травіята": пажылы чалавек са сваім жыццёвым вопытам, з акрэсленымі поглядамі. Не падобны да іншых роляў Бес — казачны персанаж з "Чаравічкаў" П. Чайкоўскага. Адухоўлены натхнёны погляд у аднаго з улюбёных яго герояў — Скарпіа з оперы Д. Пучыні "Тоска"...

Над кожным музычна-сцэнічным вобразам ён сур'ёзна, карпатліва працаваў. Дапамагала літаратура і, вядома ж, вывучэнне асноўнага тэксту. Сакрэты вакальнага мастацтва спявак настойліва асвойваў са сваім любімым педагогам Пятром Паўлавічам Расалімам, якога з удзячнасцю помніў усё жыццё, а таксама на занятках Самарскага музычнага тэхнікума, на



*Дэман.*

рэпетыцыях, непасрэдна на спектаклях, у працы з калегамі.

З асаблівай цеплынёй успамінаў час, калі жыў у свайго сябра ў Маскве і вельмі часта хадзіў на спектаклі Вялікага тэатра. З асалодай, захапленнем слухаў такіх цудоўных спевакоў, як Іван Казлоўскі, Алена Катульская, Надзея Абухава, Ксенія Дзяржынская, Аляксандр Пірагоў. "Малады Сяргей Лемешаў уразіў мяне сваёй знешняй прыгажосцю, цудоўным тэмбрам голасу", — пісаў М. Сярдобаў.



*У ролі Кастуся Каліноўскага.*



*Жэрмон("Травіята").*

Яго творчае жыццё — гэта не толькі поспех, кветкі, але і бясконцыя хваляванні ў працы над вобразам, у барацьбе з тэатральнымі інтрыгамі.

Паспяхова склаўся творчы лёс Мікалая Сярдобава падчас яго працы ў Дзяржаўным Армянскім тэатры оперы і балета імя А.Спендзіярава. У хатнім архіве артыста захаваліся публікацыі пра яго ўдзел у спектаклях Ерэванскага опернага. Вось некалькі цытат: "Сярдобаў — уладальнік драматычнага барытона прыемнага тэмбру. У яго адчуваецца ўменне спяваць, валодаць музычнай фразай... Армянскі тэкст гучыць у яго натуральна". Пра гэты феномен артыст пазней пісаў у дзённіку: "Я сам сабе здзіўляюся, як гэта атрымалася ў мяне, простага рускага спевака з Волгі, выразна па-армянску". А наконт таго, чаму яго палюбілі ў Арменіі, спявак разважаў так: таму, што ў рэспубліцы не было тады спевакоў-барытонаў, Павел Лісіцыян завітаў ненадоўга, бо марыў пра Вялікі тэатр. У Ерэване М. Сярдобаву даводзілася спяваць на армянскай мове і класіку.

На дэкадзе армянскага мастацтва ў Маскве была паказана опера А. Ціграняна "Ануш". Тады перад спектаклем М. Сярдобаў думаў пра тое, якое шчасце яму выпала — выступаць на сцэне, дзе калісьці спявалі Фёдар Шаляпін, Антаніна Нягданава, Леанід Собінаў! Ад хвалявання ў Мікалая Мікалаевіча нават жывот забалеў. Але калі загрыміраваўся і выйшаў на сцэну — убачыў у зале шмат знаёмых, і хваляванне як рукой зняло. У сваіх дзённікавых запісах ён адзначаў, што ўдзельнікі дэкады, ганараваныя ў Крамлі ўрадавымі ўзнагародамі, у тым ліку і Сярдобаў, былі запрошаны на ўрачыстую вячэру, на якой прысутнічалі Сталін, Молатаў, Варашылаў, іншыя члены палітбюро.

На тым вечары Мікалай Мікалаевіч пазнаёміўся з рускім пісьменнікам Аляксеем Талстым, якога падвёў да спевака Рубэн Сіманаў. Пісьменнік пацiснуў руку Сярдобаву, пахваліў яго як спевака, артыста. "У мяне аж галава закружылася ад таго, што мне паціснуў руку Аляксей Талстой!" — з'явіўся ў дзённіку такі запіс.

У час Вялікай Айчыннай вайны, калі Радзіма апынулася ў небяспецы, Мікалай Мікалаевіч з жонкай сабралі ўсе свае зберажэнні і адаслалі ў Маскву.

Уражанне ад пасляваеннага Мінска было засмучальнае: адны руіны. А ў Беларускім оперным тэатры адчуў М. Сярдобаў своеасаблівую абстаноўку. Як пісаў ён у дзённіку, Л.Александроўская была ў той час "гаспадыняй" тэатра. "Падхалюзнічаць не люблю, але трэба было трапіць у склад ейных любімчыкаў. Былі ж і даносы, і яе своеасаблівы культ..."

Першае выступленне М. Сярдобава ў Мінску адбылося ў "Травіяце" Д. Вердзі ў партыі Жэрмона. Публіка яго сустрэла апладысментамі. Тым часам пачалася падрыхтоўка прэм'еры оперы Д. Лукаса "Кастусь Каліноўскі". Мікалаю Мікалаевічу даручылі галоўную ролю. І зноў яму трэба было вывучаць незнаёмую мову — на гэты раз беларускую. Аўтар музыкі прайграў яму ўвесь клавір. Спеваку спадабалася опера, яе змест, яе меладызм, рэчытатывы, багацце народных тэм. "Опера павінна мець поспех", — заключыў ён у сваім дзённіку. І не памыліўся. Тым больш, што пастараўся і сам, стварыўшы цудоўны вобраз Кастуся Каліноўскага.

Акрамя таго, М. Сярдобаў быў заняты ў операх "Страшны двор" С. Манюшкі, "Надзежда Дурава" А. Багатырова, "Дзяўчына з Палесся" Я. Цікоцкага. Сярод любімых оперных роляў ён згадваў Анегіна, Траякурава, Скарпіа, Жэрмона, Фігара з опер "Яўгеній Анегін" П.Чайкоўскага, "Дуброўскі" Э. Напраўніка, "Тоска" Д. Пучыні, "Травіята" Д. Вердзі, "Вяселле Фігара" В. Моцарта.

У дзённіку Мікалая Мікалаевіча я знайшла старонкі, прысвечаныя падрыхтоўцы да дэкады беларускага мастацтва ў Маскве (1954 год). У оперы "Страшны двор" ён выконваў партыю Мацея. Што датычыць "Дзяўчыны з Палесся" Я. Цікоцкага, дык у гэтай пастаноўцы М.Сярдобаў меў ролю нямецкага маёра фон Шолена. Але раптам даведаўся, што замест яго партыю будзе выконваць артыст Глазаў, якога падтрымлівала Александроўская. "Барацьба" разгарэлася перад дэкадай і нават падчас яе. Але ўсё ж такі выступіў у Маскве ў оперы Цікоцкага М.Сярдобаў...

Мікалая Мікалаевіча лічылі чалавекам нервовым, вельмі эмацыянальным. Мне пра гэта гаварыў яго сын. Ды я і сама бачыла, што часам нагадваў ён камяк нерваў, асабліва на рэпетыцыях сваго "дзіцяці" — народнай опернай студыі Палаца культуры Беласўпрофа, мастацкім кіраўніком, рэжысёрам якой быў без малога трыццаць гадоў. Але як жа ён мог быць абыякавым да таго, чаму аддаваў душу і сэрца! Да таго ж, ён быў не толькі цудоўным спеваком, але і таленавітым драматычным артыстам, у якога эмоцыі ліліся праз край. Студыйцы яго разумелі з паўслова, паважалі, любілі. Сярод іх людзі самых розных прафесій: таваразнаўца, доктар, педагог, студэнты. Некаторыя творы ў выкананні артыстаў народнай опернай студыі прагучалі ў Мінску ўпершыню. Сярод іх "Джані Скікі" Д. Пучыні, "Царцысляр" Г. Лортцынга, "Казначэйка" Б. Асаф'ева. А "Травіята" Д. Вердзі і "Кастусь Каліноўскі" Д. Лукаса, пастаўленыя студыйцамі, былі паказаны ў Маскве.

Сын Мікалая Мікалаевіча — круглы цёзка бацькі. Яго ведаюць сёння як таленавітага канцэртмайстра. Першыя ж урокі сур'ёзных, уважлівых, беражлівых адносін акампаніятара да вакаліста ён атрымаў у бацькі — шмат гадоў працаваў канцэртмайстрам опернай студыі. Нездарма ў Сярдобава-малодшага заўсёды поўнае разуменне з вакалістамі, узаемная вучоба і як вынік — добры ансамбль. На адным з вакальных конкурсаў імя М. Глінкі канцэртмайстар Мікалай Сярдобаў быў адзначаны высокім званнем лаўрэата.

У гэтай сям'і часта ўспамінаюць, якім творчым і актыўным чалавекам быў старэйшы Сярдобаў. Не мог жыць без справы. Нават невялічкі ўтульны дамок на дачным участку ў Ждановічах ён пабудаваў сваімі рукамі. Вельмі любіў рыбачыць у гэтых мясцінах. Амаль усё жыццё захапляўся фатаграфаваннем. Дома захавалася шмат здымкаў, зробленых ім. З асаблівай любоўю фатаграфаваў ён сабак. Якіх толькі парод нашых меншых братоў ні было ў яго на працягу жыцця! А яшчэ Мікалай Мікалаевіч вельмі любіў маляваць. Сын памятае, што асабліва ён захапляўся акварэллю. На жаль, малюнкі не захаваліся...

Народны артыст Беларусі Мікалай Сярдобаў памёр у 1990-м. Але ў яго кватэры гаспадар нібы па-ранейшаму прысутнічае. Здаецца, ён толькі на хвіліначку выйшаў.

**Вера КРОЗ**

*Фота з архіва сям'і М. Сярдобава.*

# МУЗЫКА БЯРОСТЫ



Пра гравюру на бяросце я ўпершыню даведалася падчас наведвання выстаўкі работ Вікенція Алякрыцкага, якая адбывалася ў выставачным цэнтры Белая Дача Беларускага інстытута праблем культуры ў кастрычніку.

Што бяроста — гэта верхні слой кары бярозы, ведаюць усе. Чалавек здаўна цікавіўся яе незвычайнымі якасцямі, такімі, як трываласць, вільгацеўстойлівасць. Берасцяныя граматы — пісьмы, дакументы, напісаныя на бяросце, з II-IV стагоддзяў данеслі да нас карысную інфармацыю. Змайстраваныя з бяросты ёмістасці для захавання сыпучых прадуктаў, нават вадкасці дзе-нідзе яшчэ можна сустрэць у карыстанні. Кажуць, што малако ў іх доўга не скісае, а вада застаецца халоднай і свежай. У муцэ, крупах, калі іх захоўваць у берасцяных кублах, амаль не заводзяцца шкодныя насякомыя, прадукты ў іх ахаваны ад сырасці і староннiх пахаў.

Сам бярозавы лес — прытулак закаханых і паэтаў. Выдатна пра гэта сказаў У. Караткевіч у аповесці "Кніганоша": "У сасновым лесе — маліцца, у бярозавым — любіцца, у дубовым — волю каваць, у яловым — д'яблу душу аддаваць". Бярозавае дрэва — сімвал чысціні і цнатлівасці. Яно і напоіць, і абагрэе, і ад хваробы вылечыць.

Думка выкарыстаць бяросту як палатно для мастацкага твора ўзнікла ў Вікенція Алякрыцкага даўно, яшчэ падчас турысцкіх вандровак. У лесе ён адшуквае матэрыял. Найбольш прыдатнымі для работы якасцямі валодаюць дрэвы, "загартаваныя" ў суровых кліматычных умовах. Асаблівай удачай ён лічыць знаходку паваленага дзе-нібудзь у балоцістай мясціне дрэва. Кара яго набывае неабходную трываласць, а таксама адпадае неабходнасць зразаць дрэва жывое.

Асаблівы клопат, можна сказаць, звышзадача, якой падпарадкавана праца мастака — тактоўна, без гвалту раскрыць і прадэманстраваць прыродныя якасці матэрыялу, яго натуральны каларыт, структуру.

Майстра сцвярджае, што тэхналогія апрацоўкі матэрыялу ў яго цалкам арыгінальная і не мае аналагаў. Яна заключаецца ў нанясенні малюнка на паверхню бяросты з дапамогай іголкі і спецыяльных насадак на яе шляхам награвання іх да пэўнай тэмпературы. Пад уздзеяннем цяпла бяроста мяняе афарбоўку ў светла-карычневай колеравай гаме. А ад націскання вострым прадметам контур малюнка набывае рэльефнасць. У працэсе работы памылкі павінны быць выключаны, бо выправіць іх амаль немагчыма.

Плошча рабочага палатна карціны не перавышае папяровага аркуша, а часцей за ўсё прыкладна 10 на 20 сантыметраў. Калі ўлічыць, што тут могуць быць змешчаны цэлыя архітэктурныя комплексы, то праца над творам можа быць параўнана з ювелірнай.

Па тэматыцы гэта часцей за ўсё старонкі мінуўшчыны — помнікі старажытнай архітэктуры (відаць, таму, што сам мастак — архітэктар па адукацыі): Маскоўскі Крэмль, манастыры з розных куткоў Расіі, помнікі беларускага дойлідства, якія і сёння захапляюць сучаснікаў сваёй велічнасцю і дасканаласцю формы.

Знешняе афармленне сваім творам В. Алякрыцкі робіць сам. Шляхам падбору патрэбнай пароды дрэва для рамкі ён дамагаецца ўраўнаважанасці колеру, мастацкай завершанасці і гармоніі.

Кожны твор выпраменьвае такую моцную станоўчую энергію, што гэта падобна на вечную музыку — музыку чалавечага таленту, музыку прыроды.

**Люба СІВУРАВА**

# МАСТАК І ВЫКЛАДЧЫК АЛЯКСЕЙ БАГУСТАЎ







Імя Аляксея Багустава вядома аматарам выяўленчага мастацтва. Амаль дваццаць гадоў удзельнічае гэты мастак у выставах, ягоныя карціны экспанаваліся ў Мінску, Гродне, Польшчы, Латвіі, Эстоніі; асобныя работы знаходзяцца ў прыватных калекцыях у ЗША, Канадзе, Італіі, Ізраілі. А. Багустаў закончыў Рыжскую Акадэмію мастацтваў у 1977 г., з'яўляецца членам Саюза мастакоў Беларусі.

Ёсць у мастака і другі бок яго дзейнасці — ён выкладае малюнак і жывапіс у Гродзенскім вучылішчы мастацтваў, аўтар методык выкладання выяўленчага мастацтва. Нядаўна выдадзена яго кніга "Методыка выкладання спецыяльных дысцыплін у дзіцячых мастацкіх школах і вучылішчах". А. Багустаў з роўнай сур'ёзнасцю ставіцца да выкладчыцкай працы і творчасці мастака. Больш таго, толькі адзінства гэтых двух бакоў дазваляе зразумець яго жыццёвую пазіцыю, яго светаўспрыманне.

У Лідскай мастацкай галерэі работы Багустава экспануюцца ўпершыню. Карціны вабяць свежасцю бачання, шчырасцю пачуццяў, артыстычнай лёгкасцю выканання. Цікавая па задуме і па-майстэрску выканана серыя работ, аб'яднаных пад назвай "Сялянскі каляндар". Прыцягваюць увагу блізкія па колеры да абразоў работы цыкла "Першадрукары".

Відаць, не памылюся, калі скажу, што да выяўлення прыроды мастак ставіцца з асаблівай любоўю, віртуозна валодаючы тэхнікай як алейнага жывапісу, так і акварэлі. Пейзажы на выставе асабліва шматлікія, і напісаны яны літаральна за апошнія пару гадоў. Гэта сведчыць пра тое, што мастак шмат працуе, што пастаянная праца — частка ягонай натуры.

У пейзажах, напісаных тэхнікай "а-ля прыма", што вылучаюцца эскізнасцю, прастатой кампазіцыі, мастак захоплены паэзіяй святла і паветра, прыгажосцю і выразнасцю пераходных станаў прыроды.

Нацюрморты Аляксея Багустава вылучаюцца лірычнай тонкасцю і артыстычнай прыгажосцю выканання. У "Нацюрморце з кветкамі" мастак нязмушана групуе маленькія жоўтыя кветкі і высокія зялёныя суквецці. У нацюрморце "Рамонкі" мастак імкнецца перадаць ззянне белых кветак, ахутаных напоўненым святлом паветрам.

Вытанчанае спалучэнне халаднаватых фарбаў, перададзены на палатне альбо паперы прамень святла ці раптоўны цень, робяць разнастайнымі такія сюжэты, як некалькі дрэў з пушыстай вяршалінай, лужкі, копы сена, воблакі або кветкі ў вазах.

Гарманічны, гучны, "свежы" каларыт карцін Аляксея Багустава, адценні зялёнага і сіняга колераў, што гучаць у разнастайных акордах, падобна цудоўнай музыцы, пакідаюць у гледача пачуцці прыгажосці, дабра, абнаўлення.

**Ларыса ДРАКО**

*г. Ліда*

*На здымках: "Хутар", "Кветкі", з цыкла "Сялянскі каляндар".*

*Фотарэпрадукцыі А. СЕРАБРАКОВА*

# АЛЬТУЦІ З СЯМ'І ПОЛАЦКАГА РАМЕСНІКА

Перм... 80-ыя гады мінулага стагоддзя. У горадзе працуе музычна-драматычны гурток. Канцэрты з гурткоўцамі ладзіць і С. Дзягілеў. Ён — сціплы акампаніятар юных спевакоў. Пройдуць гады — і Дзягілеў стане выдатным расійскім тэатральным дзеячам. А што ж гурткоўцы?.. Адзін з іх — Саша Альтшулер — выйдзе ў оперныя артысты, будзе займацца рэжысурай, педагагічнай дзейнасцю. Колішняе хлапчанё з сям'і простага рамесніка аб'ездзіць усю Расію. У гонар гаспадара выключнага бас-барытону будуць гучаць самыя праніклівыя і шчодрыя авацыі ў залах Казані, Астрахані, Екацярынбурга, Варонежа, Іркуцка, Саратава, Адэсы, Баку, Растова, Харкава...

Ды гэта ўсё яшчэ наперадзе. Пакуль жа падлетак вяртаецца з заняткаў. Сам сабе напявае любімыя арыі, у думках пераўвасабляецца ў музычныя вобразы. Ужо хлапчанём ён — будучы майстар сцэны, які часам выступаў пад псеўданімам Альтуці, — ведаў характары, шматаблічнае, шматфарбнае дзеянне опер "Цар і цясляр", "Кармэн", "Севільскі цырульнік", іншых твораў, што выхоўвалі і фарміравалі густы, сімпатыі слухачоў.

А што ж Беларусь, ці памятаў пра яе юны спявак?.. Саша ж Альтшулер нарадзіўся ў Полацку Віцебскай губерні. У сакавіку 1870 года. І да пяці гадоў жыў на беларускай зямлі. Маючы ад прыроды выключны музычны слых, будучы спявак вызначаўся тонкай, успрымальнай натурай. Пазней, праз многія гады, музыказнаўца А. Пружанскі сфармулюе такую лаканічную характарыстыку творчых здольнасцей Аляксандра Альтшулера: "Валодаў добрым голасам прыемнага тэмбра, прыроднай музыкальнасцю. Свабодна трымаўся на сцэне і быў выдатным характарным акцёрам". Вядома ж, настраёвасць, характар, пачуццёвасць голасу дапамагла сфарміраваць і полацкая духоўная аўра.

У Пермі Аляксандр браў першыя ўрокі спеваў у вядомага педагога Кабелы. Па тым часе (а жыў Альтшулер на другой сваёй радзіме да 1888 года) і Перм уяўляла сабою багаты на культурнае жыццё горад. Фактычна — сталіца Перадуралля. Праўда, дзіўны па тым часе герб займеў горад на Каме. Вось апісанне сімвала ці, хутчэй, партрэта сімвала Пермі: "У чырвоным полі сярэбраны мядзведзь, на якім пастаўлена ў залатым акладзе Евангелле, над ім сярэбраны крыж, што азначаюць: першае — дзікія норавы мясцовых жыхароў, а другое — асвету праз прыняцце Хрысціянскага закона".

Калі падлеткам (у 10—11 гадоў) Саша Альтшулер бегаў на бераг Камы, ён мог сустрэцца тут і з пісьменнікам Караленкам. Уладзімір Галакціёнавіч знаходзіўся ў Пермі ў высылцы. У пачатку 80-ых гадоў у духоўнай семінарыі вучыўся і вядомы празаік Дз. Мамін-Сібірак.

У 1888 годзе Альтшулер пры матэрыяльнай падтрымцы пермскай грамадскасці ад'язджае ў Маскву. Пачынаецца прафесійнае навучэнне спевам у Музычна-драматычным вучылішчы (класы Франкеці, А. Барцала, Ю. Махінай). Што датычыць Антона Іванавіча Барцалы, чэха па нацыянальнасці, то юнаму спеваку з настаўнікам проста пашчасціла. За плячыма ў Барцалы мелася багацейшая практыка. Выступаць чэшскі спявак пачаў у Вене ў 1867 годзе. У 1870 дэбютаваў на расійскай сцэне. У кастрычніку 1874 года выступаў у оперы "Фаўст" на сцэне пецярбургскага Марыінскага тэатра. У 1903 Барцал атрымаў ганаровае званне "заслужаны артыст імператарскіх тэатраў". На сцэне Вялікага тэатра Антон Іванавіч у якасці галоўнага рэжысёра паставіў 48 опер. Сваё бачанне, асэнсаванне вобразаў Барцал імкнуўся перадаць і вучням.

Закончыўшы вучылішча, Саша Альтшулер, 23-гадовы спявак, дэбютуе пад прозвішчам Альтуці ў маскоўскай Італьянскай оперы. Працуе поплеч з Л. Собінавым. У 1894—1912 гадах спявае на оперных сцэнах Казані, Астрахані, Екацярынбурга, іншых гарадоў. Спрабуе свае сілы і ў іншых сферах музычнай дзейнасці. У 1909—1910 гадах утрымлівае антрэпрызу ў Екацярынбурзе. З 1898 года займаецца і рэжысурай (у 1906 — у Казані, з 1912 — у Екацярынбурзе, Пермі, Саратаве). Пасля Кастрычніка ў 1920—1924 гадах — галоўны рэжысёр Харкаўскага опернага тэатра. Пасля працуе ў Свярдлоўску і Пермі. Сярод пастановак Альтшулера — "Царская нявеста", "Князь Сярэбраны", "Серп і молат", "Аіда", "Жыдоўка", "Даліна", "Кармэн". Апошняя з опер упершыню ў Екацярынбурзе стала вядомай якраз дзякуючы пастаноўцы Альтшулера.

Займаўся Аляксандр Якаўлевіч і выкладчыцкай дзейнасцю. У 1926—1928 гадах — у Харкаўскім інстытуце музычнай культуры, прафесар, кіраўнік опернага класа. А пасля — у Маскоўскім музычным тэхнікуме імя М. Мусаргскага (1928—1930). А было Альтшулеру па тым часе 60 гадоў. Век ужо сталы. Савецкі ўрад адзначыў працу Аляксандра Якаўлевіча ордэнамі: у 1923 — "Герой працы", у 1937 — "Знак Пашаны".

А з 1930 года заслужаны артыст Украінскай ССР і РСФСР працаваў суфлёрам Вялікага тэатра ў Маскве. Памёр там жа, у белакаменнай, у 1950 годзе.

Шкада, што наш зямляк не пакінуў аб сабе ніякіх успамінаў. Толькі невялічкі матэрыял — найболей пра іншых — быў надрукаваны ў "Советском артисте" ў 1938 годзе — "Як мы жылі раней". І ўсё. У нас жа, на Беларусі, знакамітага суродзіча з Полацка нават не згадваюць у "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі".

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Віншуем!

# Аляксандру МЕЛЬНІКАВУ — 60



Паэт Аляксандр Мельнікаў родам з вёскі Васількі Бялыніцкага раёна. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і, скончыў Ленінградскі санітарна-гігіенічны медыцынскі інстытут у 1961 годзе. Працуе ўрачом радыялагічнай групы Магілёўскай абласной санітарна-эпідэміялагічнай станцыі.

З першымі вершамі выступіў у друку ў 1966 годзе. Друкаваўся ў розных перыядычных выданнях, выдаў кнігі "Спасибо, жизнь", "Три слова"... Для твораў А. Мельнікава характэрны шчырасць, задушэўнасць, мілагучнасць. У сваіх вершах ён закранае самыя розныя тэмы, а лірычны герой паўстае чалавекам, які любіць сваю зямлю, людзей.

З днём нараджэння, дарагі Аляксандр Пятровіч! Моцнага здароўя вам і творчага плёну!

## ЗА ПРАЦУ, ШКОЛЬНЫЯ... РЭЖЫСЁРЫ

**Пад эгідай Міністэрстваў культуры і друку, адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь. Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей, рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі па народнай творчасці ў выдавецтве "Навука і тэхніка" выйшаў зборнік аднаактовых п'ес "Сінязорка". Гэтае выданне, выпуск якога ажыццёўлены на сродкі Міністэрства культуры і друку, у першую чаргу адрасавана школьным самадзейным артыстам.**

**Зборнік скалалі творы дзевяці аўтараў. У асноўным гэта так званыя літаратурныя, альбо аўтарскія казкі, у аснову якіх пакладзены ўжо знаёмыя фальклорныя сюжэты і матывы. Гэта п'есы "Як Лютасць стала Літасцю" Галіны Васілеўскай, "Янук, рыцар Мятлушкі" Людмілы Рублеўскай, "Сінязорка" Зінаіды Дудзюк, "Зімовая песня Жаўрука" Георгія Марчука, "Чарадзейныя суніцы" Аляксея Якімовіча і іншыя.**

**Сярод іх вылучаецца аднаактоўка Андрэя Федарэнкі "Рэпетыцыя", што завяршае зборнік. Вылучаецца і сваёй рэалістычнай напоўненасцю, і тым, што гэта, па сутнасці, чатыры п'есы ў ...адной, у якой гаворыцца аб тым, як жаданне прыстасавацца да новых рэалій прыводзіць да аглядкавасці, двурушнасці.**

**Укладальнік зборніка "Сінязорка" — Ніна Загорская, прадмову "Урокі дабрыні і сумленнасці" напісаў Эдуард Садаўнічы.**

## ПАД НОВАЙ НАЗВАЙ "ТЭАТРАЛЬНАЯ ТВОРЧАСЦЬ"

**прыйшоў да чытача шосты нумар часопіса "Тэатральная Беларусь". Адкрываецца ён драмай Г. Аўласенкі "Вяртанне", у якой расказваецца пра кампазітара М. Равенскага. Змешчаны публіцыстычныя развагі Я. Міклашэўскага "Алмазная грань эстэтыкі", нататкі Р. Смольскага "Вольнае жыццё: святло і цені" пра тэатральны фестываль "Маладзечанская сакавіца-95", згадкі Б. Бур'яна з тэатральнага і літаратурнага жыцця "То голены, то стрыжаны, але жывы...", "Тэатралізаванае ўваскрашэнне мінуўшчыны" Я. Адамовіча — вяртанне ў дні, калі адзначалася 500-годзе Мірскага замка. Увазе чытача прапануюцца заканчэнне артыкула М. Козенкі "Беларускі народны танцавальны этыкет", матэрыялы М. Макарцова "Сустрэча з мірскай батлейкай", З. Лашчынінай "Жыццё — гэта каханне...", Т. Гаробчанкі "Як сыграць Варону?".**

**Пачынаючы з пятага нумара адным з заснавальнікаў часопіса стаў Беларускі універсітэт культуры. Таму ў "Тэатральнай творчасці" ўводзіцца спецыяльная рубрыка "У Беларускім універсітэце культуры". Гэтым разам у ёй змешчаны матэрыялы "Пад ветразем духоўнасці", "Дзеля беларускасці, дзеля Адраджэння" і "Першы выпуск". У іх расказваецца адпаведна пра свята Першага званка ва універсітэце, пра святкаванне 20-годдзя гэтай вышэйшай навучальнай установы і пра першы выпуск беларускіх кінасцэнарыстаў, падрыхтоўку якіх узяў пад сваё крыло БУК.**

## НАДРУКАВАНА Ў ЯКУЦКУ

**Напрыканцы 1994 г. у Якуцку пабачыў свет зборнік "Загадкавае і надзвычайнае мінулае Якуціі ды якутаў" на якуцкай мове. Выпусціла яго якуцкае таварыства "Кніга", а склаў яе ды пераклаў артыкулы Фёдар Пятровіч Яфімаў. Разам з іншымі разнастайнымі матэрыяламі туды ўвайшлі: артыкул супрацоўніка Жлобінскай раённай газеты Міколы Шуканава "Слова аб далёкай Якуціі", пра творчасць Сяргея Палуяна (раней гэта артыкул друкаваўся ў часопісе "Полярная звезда", N 2 за 1982 г), урывак з успамінаў "У кіпцюрах ГПУ" Ф. Аляхновіча (раней друкаваўся ў газеце "Молодежь Якутии" за 23 чэрвеня 1992 г. пад назвай "Соловки — не Капри"), даследаванне Е. Аканешнікава аб Э. Пякарскім, А. Паўлава аб Прончашчавых ды разважанні С. Нікалаева над артыкулам І. Ласкова "Анамастычны дэтэктыў" ("Полярная звезда", 1989 г., NN 5—6). Кніга гэта разлічана на шырокае кола чытачоў, у асноўным — на моладзь.**

**Алесь БАРКОЎСКІ**

# ЯГО СВЕТЛЫ ВОБРАЗ

## ПЯЦЬ ЛІСТОЎ АД МАКСІМА ТАНКА

Праводзячы Песняра ў апошнюю дарогу, Ніл Гілевіч сказаў: "Максім Танк пакінуў не толькі вялікую неацэнную літаратурную спадчыну, але і свае жыццёвыя ўрокі. Урокі мудрасці і дабрыні, прастаты і сціпласці". Пра Максіма Танка напісана шмат добрых і таленавітых кніг. Але самая добрая, праўдзівая і глыбокая кніга, як зазначыў далей Ніл Сымонавіч, яшчэ наперадзе. Хай і мае ўспаміны пра славутага земляка дапамогуць у стварэнні светлага і праўдзівага вобраза вялікага сына нашай зямлі.

Упершыню "жывога" Максіма Танка я ўбачыў падчас маёй вучобы ў Белдзяржуніверсітэце. Пасля выступлення ён даваў аўтографы студэнтам. З-за адсутнасці кнігі паэта я купіў у кіёску зборнік вершаў Паўлюка Труса, і Яўген Іванавіч пакінуў мне свой аўтограф.

Праляцела чвэрць стагоддзя. І я зноў, ужо другі раз, убачыў М. Танка. На Нарачы, у вёсцы Купа. Ліпеньскім днём 1992 года. Яўген Іванавіч па прыступках лесвіцы падымаўся ў прадуктовы магазін. Я неўпрыкмет пайшоў за ім у краму, хацеў падысці, загаварыць, але — не хапала смеласці. Толькі праз колькі часу адважыўся напісаць яму ліст. Надарылася і прычына — 17 верасня 1992 года, паэту — 80 гадоў. Прысвяціў яму і верш. А ў лісце нагадаў, што хацеў "зачапіць" яго ў Купе, ды не адважыўся.

І вось першы ліст, які ён мне напісаў 27 кастрычніка 1992 года:

"Дарагі Аркадзь Іосіфавіч! Ад усяго сэрца дзякую Вам за пісьмо, якое ў маё сумнае 80-годдзе крыху распагодзіла мой настрой. Вельмі цяжкім для мяне выдаўся гэты год: страціў блізкіх сваіх, многіх сяброў, а зараз з жонкай не можам адкараскацца ад розных недамаганняў. А калі да гэтага дадаць і непаладкі і пакуты, выкліканыя т.з. перабудовай, дык на гэтым фоне ўсе нашы асабістыя юбілеі здаюцца нейкім анахранізмам.

А вёску Вашу я ведаю. Бадзяючыся па Мядзельшчыне, не раз праганяў смагу ля вашых студняў. А вось у Купе Вы **дарма мяне не зачапілі,** бо зараз не ведаю, ці ўдасца мне зноў пабаваць на сваёй Нарачы. З любоўю і моцным поціскам далоні — Максім Танк".

Я быў на сёмым небе: сам Максім Танк прыслаў мне ліст — чалавеку, які трохі грашыў вершамі.

Тады ўжо наша Пастаўскае літаб'яднанне выдала два альманахі паэзіі — "Рунь-91" і "Рунь-92". Я іх паслаў Максіму Танку, разам з лістом, дзе трохі паразважаў над яго паэзіяй. І вось атрымліваю другі ліст. Пачынаўся ён так: "Апошнімі праднавагоднімі днямі атрымаў я Ваша пісьмо **з завышанай, лічу, ацэнкай маіх сціплых вершаў** і вельмі цікавай інфармацыяй аб Вашым творчым жыцці, клопатах і справах на Пастаўскім Парнасе".

Далей Яўген Іванавіч пісаў: "Работа пісьменніка надзвычай клапатлівая і патрабуе няспыннай вучобы, бо кожны новы твор павінен быць нейкай з'явай непаўторнай, адкрытай самім мастаком. Таму я ніколі не лічыў і не лічу сябе нейкім настаўнікам. У нашай рабоце ўжо лічы дасягненнем, калі ведаеш, або здагадваешся, як не трэба пісаць".

Разважаючы аб няпростым нашым часе, паэт з вялікім болем даводзіў, што "...на вялікі жаль, на змену былым чыноўнікам і сатрапам прыйшлі новыя — плоймы хабарнікаў, спекулянтаў, гандляроў, дэмагогаў. І гэтая праклятая іх эстафета цягнецца з даўніх часоў".

Пра нашы альманахі паэзіі "Рунь" ён напісаў вось што: "З задавальненнем прачытаў нумары вашай "Руні". Мне здаецца, што гэта за апошнія гады адзін з цікавейшых альманахаў па падбору матэрыялаў і па іх мастацкім ўзроўні і па колькасці харошых паэтаў, творы якіх — не зважаючы на некаторыя недахопы — заслугоўваюць на ўвагу самых патрабавальных чытачоў і ўжо сёння маглі б заняць пачэснае месца ў любым з нашых старэйшых часопісаў і літаратурных гадавіках. А гэта ўжо гаворыць аб плённай вучобе, культуры, шырыні тэматычнага дыяпазона, іх твораў, аб пошуках свайго месца ў гісторыі. І я ўпэўнены, што ад такой маладой руні на беларускай літаратурнай ніве можна чакаць добрых плёнаў. Хацелася б толькі, каб наша крытыка і літаратуразнаўства — зараз занятыя то нігілістычнымі, то апалагетычнымі ацэнкамі літаратунай далёкай і блізкай спадчыны — удзялялі належную ўвагу маладой змене і не групавому, а агульнаму нашаму літаратурнаму жыццю".

Калі Максім Танк атрымаў ад мяне чарговы альманах "Рунь-93", то шчыра парадаваўся нашым поспехам: "Радуе, што Ваша "Рунь" працягвае сваю эстафету маладой паэзіі, не зважаючы на ўсе перашкоды. Звяртаюць на сябе ўвагу многія ўдалыя вершы, пераклады".

На паведамленне аб тым, што наша паэтэса Ганна Жук, якая раней пісала па-руску, стала пісаць на роднай, беларускай мове, М.Танк адгукнуўся гэтак: "Сам гэты факт знамянальны і неадназначны. Рэдка каму ўдаецца, адарваўшыся ад нацыянальных вытокаў свайго народа, стаць выказнікам яго дум і спадзяванняў".

Цікавіўся я ў пісьме, над чым працуе паэт. І ён шчыра прызнаўся: "Сам зараз мала пішу. Перашкаджаюць бясконцыя клопаты са здароўем. Сяк-так неяк наскроб падборку для "Полымя" (N 9). Ды, прызнацца, і часы не вельмі спрыяльныя для паэзіі".

Летам 1994 года, будучы ў Мінску, я пазваніў Яўгену Іванавічу дамой, спытаўся, як здароўе, якое самаадчуванне, і пачуў такі давяральна родны, па-бацькоўску шчыры, пранізаны болем і тугой голас: "Браток ты мой, вельмі дрэнна мне, амаль не ўстаю з ложка. Жонка таксама моцна хворая, прыкаваная да каляскі..." А калі пацікавіўся станам здароўя Пімена Панчанкі, пачуў: "Не лепшыя, браце, справы і ў яго, зусім слабы".

Што можна было сказаць у адказ? Балюча і горка на душы, што нічым не можаш дапамагчы такім слаўным людзям, каб суцішыць хоць трошкі іх боль і пакуты.

У лютым 1995 года я выдаў у Мінску (самавыд) кнігу сваіх вершаў "Мядзельскі мерыдыян". Паслаў яе Максіму Танку. У сакавіку прыходзіць ліст: "Дарагі Аркадзь Іосіфавіч! Атрымаў я Вашу кнігу вершаў "Мядзельскі мерыдыян" у вельмі цяжкі час сваёй хваробы, з якой мне, відаць, не выбрацца". Далей, гаворачы аб маіх вершах, Яўген Іванавіч зазначыў: "А галоўнае — сярод Вашых твораў ёсць шмат, якія заслугоўваюць на ўвагу і чытачаў, і кампазітараў".

Гэтыя словы Генія беларускай літаратуры былі бальзамам на маю душу, іх мне навек не забыць.

Уяўляю, у якой хатняй абстаноўцы, у якім душэўным стане пісаў Максім Танк мне пра маю кніжку — неўзабаве памерла яго жонка Любоў Андрэеўна. І ўсё ж — напісаў. А як часта ад здаровых, нашмат маладзейшых людзей не дачакацца ліста, адказу на свае пытанні.

І вось апошні, пяты ліст ад Паэта: "Дарагі Аркадзь Іосіфавіч! Жыву зараз пасля страты сваіх блізкіх, родных у жудасным настроі. Чакаю сваёй чаргі. Усім сэрцам спачуваю і Вашай страце (у мяне таксама памерла дачка, — **А. Н.**), хоць ведаю, што ніякія спачувальныя словы ніякія страты аблегчыць не могуць. Зараз ляжу хворы. Не магу ні хадзіць, ні працаваць. І няма на што лепшае спадзявацца".

Гэты ліст быў адпраўлены 7 красавіка 1995 года з бальніцы...

Напісаў я пра сваю перапіску з Максімам Танкам для таго, каб дапоўніць яшчэ адным штрышком яго светлы вобраз Паэта і Чалавека. Трэба ўсё збіраць, да крупінкі, пра такіх людзей, каб на прыкладзе іх жыцця вучыліся і выхоўваліся новыя пакаленні творцаў.

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**

*Пастаўскі р-н, в. Камаі*

# СВОЙ ПАДРУЧНІК-ХРЭСТАМАТЫЯ

Падручнік-хрэстаматыя "Родная літаратура", аўтарамі-складальнікамі якога з'яўляюцца Вера Ляшук, Галіна Манец і Уладзімір Сенькавец, зацверджаны Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь у якасці альтэрнатыўнага. Ён адрасаваны восьмаму класу, а пабачыў свет у Навукова-камерцыйнай фірме "Экаперспектыва". У падручніку-хрэстаматыі прадстаўлены Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Сяргей Грахоўскі, Пімен Панчанка, Іван Мележ, Ларыса Геніюш, Янка Брыль, Іван Шамякін, Васіль Быкаў, Аляксей Пысін, Алесь Адамовіч, Уладзімір Калеснік (як аўтары унікальнай кнігі "Я з вогненнай вёскі..."), Аляксей Карпюк, Іван Навуменка, Ніл Гілевіч, а таксама Даніэль Дэфо і Генры Лангфэла, творчасць якіх вывучаецца ў кантэксце сусветнай літаратуры.

Аўтары гэтага выдання, працуючы выкладчыкамі Брэсцкага педагагічнага інстытута, набылі багаты педагагічны вопыт, добра ведаюць запатрабаванні школ і вучняў. Свой падручнік-хрэстаматыю яны і падрыхтавалі згодна праграме па беларускай літаратуры.

Змешчаны партрэт кожнага пісьменніка, далей ідзе невялікі артыкул пра яго жыццёвы і творчы шлях, творы, што прапануюцца для вывучэння і самастойнага чытання, а таксама метадычны апарат. Акрамя таго, дадзена тлумачэнне некаторых незразумелых для вучняў слоў, пытанні і заданні да ўступных, заключных артыкулаў, твораў і тэм.

Кніга атрымалася аб'ёмнай, амаль 31 улікова-выдавецкі аркуш і, як відаць з яе зместу, паспрыяе добраму веданню школьнікамі сучаснай літаратуры ў межах праграмы па ёй для 8 класа.

**А. М.**

***Мы пазнаёміліся з ёй у 1989 годзе, калі ў выдавецтве "Юнацтва" нарэшце пабачыла свет першая аповесць Уладзіміра Караткевіча "У снягах драмае вясна". Цяпер усе ведаюць, што твор гэты праляжаў у рукапісе з 1957 года і пры жыцці пісьменніка не быў надрукаваны. Наталля Сямёнаўна знайшла тыя рукапісныя сшыткі брата ў бацькоўскай хаце разам з яго ранняй п'есай "Млын на сініх вірах".***

***Калі твор выйшаў асобнай кніжкай, я запрасіла Наталлю Сямёнаўну да ўдзелу ў радыёперадачы "Крылы". Помню, прыемна ўразіла мяне не толькі знешняе яе падабенства з Уладзімірам Сямёнавічам, але найперш тая шчырая абаяльнасць і цеплыня, якія былі ўласцівы пісьменніку Караткевічу. Яна расказвала пра маленькага Валодзю, паказвала яго малюнкі, згадвала бацькоў, даваенную Оршу — горад іх дзяцінства.***

***А потым былі іншыя нагоды для сустрэч у радыёэфіры і ў жыцці. І кожны раз гэтыя спатканні пакідалі светлае адчуванне радасці і суму адначас. Шкадаванне незваротнасці падзей і ранніх балючых страт.***

***У сваім эсэ "Наш Караткевіч" Янка Брыль пісаў: "Мы, хто блізка ведаў Валодзю, кожны патроху, кожны па-свойму раскажам пра яго, успамінаючы. Рэшту скажа ён сам, сваімі кнігамі. З усей сваёй раскошнай раскаванасцю, буйствам фантазіі, здольнасцю пранікаць у далёкае ў часе, ажыўляць яго ў людзях. Сплочванне нашых даўгоў перад роднай, так часта трагічнай гісторыяй, перад сапраўднай Літаратурай..."***

***Гутарка з сястрой пісьменніка Наталляй Сямёнаўнай Кучкоўскай — яшчэ адна сустрэча і ўспамін з такім вядомым і невядомым Уладзімірам Караткевічам.***

**Галіна ШАБЛІНСКАЯ**



*Валодзю 1 год.*

# "У ВЕКАВЕЧНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ КЛЁНЫ..."

## ГАЛІНА ШАБЛІНСКАЯ ГУТАРЫЦЬ З СЯСТРОЙ У. КАРАТКЕВІЧА Н. КУЧКОЎСКАЙ

**— Наталля Сямёнаўна, мне здаецца, што звычайна найбольш аголеныя ўспаміны прыходзяць чалавеку менавіта ў дні, звязаныя з датамі нараджэння і адыходу яго блізкіх. У гэтай сувязі дзень 26 лістапада — дзень нараджэння вашага брата, нашага выдатнага пісьменніка Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча — чым для вас бывае? Як вы пачуваеце сябе гэтым восеньскім часам?**

— Гэты восеньскі дзень наколькі быў радасны ў дзяцінстве і ў юнацтве, настолькі ён сумны зараз. Сумны, што не стала такога чалавека, не стала брата, які мог бы яшчэ жыць і жыць. І шмат чаго зрабіць для нашай гісторыі, для нашай культуры. Гэты дзень у нас — дзень сумны. Згадваюцца ўсе нашы родныя, якія адышлі ад нас. Грамадскасць звычайна стараецца адзначыць гэты дзень. І мы рыхтуемся да паездкі ў Оршу, на сустрэчы тут, у Мінску.

**— Сёння, калі пражыта нямала гадоў, жыццё, можна сказаць, як на далоні: усё відаць і ўсё знаёма да дробязей. Але, разам з тым, яно пройдзена і нічога не вернеш з таго, што адбылося ці што магло адбыцца. Што вам згадваецца найбольш абвострана?**

— Такіх момантаў было шмат у жыцці. Папершае, дзяцінства, наша хата, дзе мы мелі столькі цеплыні і любові! Нашы бацькі былі вельмі добрымі і стрыманымі людзьмі. Заўсёды ладзілі між сабою і дома не ўзнікала ніякіх супярэчнасцей.

Добра помню, як у нашай сям'і з'явіўся Валодзя. Неяк вечарам маці дрэнна сябе адчувала. І мяне гэта дужа непакоіла. Яна сядзіць у пакоі, вышывае, а я разумею, што ёй нешта не так. Пытаюся, а яна кажа, што ўсё добра, кладзіся спаць. Я і заснула. Ранкам устала — няма маці ў хаце. Я так перапужалася. А тут прыходзіць бацька і кажа: "У цябе нарадзіўся брацік". Я так узрадавалася! Я ж не ведала яшчэ, што мне прыйдзецца панянькацца з ім. Што давядзецца свой час размяркоўваць, каб і яму ўдзяліць увагі. Хаця, трэба сказаць, маці не злоўжывала маёй дапамогай, дужа не нагружала мяне. Але ўсё ж такі нянькай Валодзя мяне лічыў. Нездарма ж і пісаў: "Нянька мая дарагая, мой абаронца ў бядзе".



*Сям'я Караткевічаў з дзедам Васілём Грынкевічам.*

Востры момант быў, калі ён пасля трэцяга класа прыехаў да мяне ў Маскву, і пачалася вайна. І мы з ім развіталіся, бо прыйшлося яго адправіць разам з маёй цёткай у эвакуацыю. А потым хвалюючы момант доўгачаканай сустрэчы, калі я прыехала па яго ў той інтэрнат ля Кунгура, дзе ён жыў у эвакуацыі. А ўвогуле, хачу сказаць, усе нашы сустрэчы востра перажываліся. Бо яны былі непадобныя адна на адну. І кожны раз мы адчувалі радасць ад сустрэчы, душэўны пад'ём, а развітанне заўсёды аказвалася сумным.

**— Наталля Сямёнаўна, скажыце, калі ласка, маленькі Валодзя і дарослы Уладзімір Сямёнавіч — пісьменнік Караткевіч — гэта адзін і той жа чалавек?**

— Безумоўна, адзін і той жа. Толькі дзяцінства — гэта адно, а сталы ўзрост — іншае. Хлопчыкам Валодзя ўсё меў, як і кожнае дзіця. Аддача была толькі ў добрых адносінах, у любові да нас, родзічаў. А жыццё дарослага чалавека — гэта ўжо зусім другое. Асабліва ў чалавека, які прайшоў цяжкі шлях і да творчасці і ў творчасці... Але ж тыя рысы Валодзевага характару, якія былі закладзены ў дзяцінстве, у яго засталіся. Хаця знешне часта здавалася, што не. І тым не менш, унутрана гэта быў адзін і той жа чалавек. Вось я бяру ў адносінах да мяне. Ён заўсёды пяшчотна адносіўся да мяне і стараўся, каб мне было неяк і лягчэй, і трошкі весялей (калі мы ўжо з ім жылі ў яго хаце). Трэба сказаць, мы з ім заўсёды знаходзілі агульную мову.



*Злева направа: у першым радзе: маці У. Караткевіча Надзея Васільеўна, Надзея Кучкоўская (пляменніца), бацька пісьменніка Сямён Цімафеевіч, Рая Караткевіч (пляменніца); у другім радзе: Наталля Сямёнаўна (сястра) і У. Караткевіч. Орша, 1953 г.*

**— Атмасфера вашай сям'і, вашага дома ў дзяцінстве, пазней, калі вы ўжо пайшлі вучыцца, і характар Уладзіміра Сямёнавіча — як гэта звязана між сабой? Што паўплывала на тое, чаму якраз такім склаўся характар пісьменніка Караткевіча, якога ўсе ўспамінаюць сёння менавіта як вельмі шчырага, абаяльнага і добрага чалавека найперш?**

— Усе гэтыя яго якасці, я лічу, з сям'і. Гены таксама таму паспрыялі. Я ўжо казала, што бацькі нашы былі вельмі добрыя і чулыя людзі. Яны з разуменнем ставіліся да нашых дзіцячых запытанняў. Пры даволі сціплым сямейным бюджэце знаходзілі грошы нам і на цацкі, і на кніжкі (на кніжкі ўвага звярталася асаблівая), і ў кіно мы хадзілі, хоць білет па тым часе каштаваў не танна. І калі на гастролі прыязджаў які тэатр (у Оршы стаяў да вайны драўляны будынак тэатра, праўда, трупы сваёй не было), дык мы і на спектаклі абавязкова хадзілі. А потым наша вучоба — бацькі вельмі хацелі, каб мы атрымалі адукацыю. Трэба сказаць, што бацька заўсёды цікавіўся Валодзевымі справамі, мог параіць яму нешта, падказаць. Нават калі ён ужо хварэў, Валодзя яму ўсё расказваў. Маці вельмі любіла Валодзю. Пасля смерці бацькі яна ўсё жыццё правяла побач з сынам. Ад яе Валодзя ніколі не чуў слова ў павышаным тоне, яна глядзела яго і была яму перш-наперш сябрам. Так што дабрыня Караткевічава зразумела. Як зразумела таксама і яго такая непрымірымасць у сталым узросце, бо жыццё даволі сурова абышлося з яго талентам... Многа яму прыйшлося цяжкасцей пераадолець.

**— Мне тут хочацца згадаць даволі вядомую думку пра тое, што часам менавіта жыццёвыя перашкоды і ствараюць асобу вельмі адметную, складаюць яе лёс. Лёс вашага брата ў гэтым недзе падобны да лёсу многіх вядомых сёння людзей. Як вы думаеце, Наталля Сямёнаўна, калі гэтыя перашкоды пачаліся для Караткевіча?**

— Пачаліся, мне здаецца, яшчэ ў інтэрнаце, дзе ён жыў у эвакуацыі. На хлопчыка, якога толькі песцілі ў дзяцінстве, усё ўплывала там не лепшым чынам. Потым у школе, у старэйшых класах, у яго не складзіся адносіны з настаўніцай матэматыкі. Ён, канечне, ведаў той прадмет не горш за сваіх аднакласнікаў, але больш захапляўся літаратурай, гісторыяй. І не хаваў гэтага. Такія Валодзевы паводзіны выклікалі незадаволенасць у выкладчыцы, раздражнялі яе. У выніку Валодзя застаўся ў дзевятым класе на другі год, а на пачатку дзесятага, пасля першай чвэрці, вымушаны быў перайсці ў 5-ю школу, якая знаходзілася за Дняпром. І скончыў яе, між іншым, з чацвёркай па матэматыцы. На маю думку гісторыя з матэматыкай была першым свядомым сутыкненнем Валодзі з несправядлівасцю. І ён, зрэшты, гэта памятаў...

А потым пачалося іншае. Аднёс свае вершы ў рэдакцыю раённай газеты "Ленінскі прызыў" — як яму іх вярнулі, з якой рэцэнзіяй? А што было з "Каласамі...", з "Леанідамі..."? А фільм "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" колькі ляжаў на паліцах "Беларусьфільма"? Толькі апошнія гады яго жыцця, я б сказала, справы ў яго пайшлі. У нас ужо сталі цікавіцца гісторыяй, нашым мінулым...

Так што несправядлівасцей розных хапала ў яго жыцці. Гэта і зрабіла яго характар больш жорсткім. Але ён вельмі добра ставіўся да моладзі, да творчай моладзі. І хто б да яго ні звярнуўся па дапамогу — ён ніколі нікому не адмаўляў.

**— Наталля Сямёнаўна, у вас розныя перыяды кантактавання з братам. Сумеснае маленства ў Оршы, юнацтва, потым ён вучыўся ў Кіеве, жыў у Мінску, а вы у Чэлябінску, потым вы разам у Мінску. Скажыце, які час, вы лічыце для сябе найбольш важным?**

— Калі не стала жонкі Караткевіча, і мы жылі з Валодзем тут, у яго кватэры. Гэта самы галоўны момант і, я лічу, што гэта самае важнае, што я змагла зрабіць для яго.

А наогул, нашы сустрэчы з ім заўсёды былі цікавыя і непрадказальныя. Мы заўсёды чакалі гэтых сустрэч. Асабліва, калі я з сям'ёй жыла ў Чэлябінску. Валодзя прыязджаў да нас і адзін, і разам з маці. Мы яму вызвалялі асобны пакой, каб было дзе працаваць. А трэба сказаць, што ён у нас у Чэлябінску

*(Працяг на стар. 14-15)*



З жонкай Валянцінай Браніславаўнай.



З арнітолагам Прыпяцкага дзяржаўнага запаведніка В. Клакоцкім у Тураве. 1980 г.

зняць цяжар са сваёй душы. Ён любіў з намі параіцца. Як зараз памятаю, выйшаў яго раман "Чорны замак Альшанскі". Валі ўжо не было. Валодзя кліча мяне ў кабінет, перад ім на стале ляжыць спіс, каму трэба падараваць кніжку. І вось ён пытаецца ў мяне: "Як ты думаеш, таму і таму падпісаць мне кніжку?" Ну што я магу сказаць? Ты ўжо, Валодзечка, сам глядзі, як ты лічыш, ці патрэбна ці не. І так амаль па ўсіх пытаннях. Ён абавязкова парады запытае. А як потым зрабіць — гэта ўжо будзе бачна яму самому.

**— Наталля Сямёнаўна, Уладзімір Сямёнавіч быў вельмі блізкі да вашай сям'і, часта да вас прыязджаў, то, можа быць, колькі ўспамінаў менавіта пра адносіны брата да Вашых дзяцей, да вашай сям'і?**

— Я ўжо казала, што адносіны ў нас з ім былі вельмі добрыя. Яны захаваліся праз усё жыццё. Валодзя вельмі любіў маю старэйшую дачку Надзю — яна яшчэ ў Оршы нарадзілася, калі ён у школе вучыўся. І яму, і бацьку было дужа прыемна, што яе назвалі ў гонар нашай маці Надзеі Васільеўны. Любіў Валодзя і маю малодшую дачку. Але мы ўжо тады жылі ў Чэлябінску, бачыліся рэдка. Аднак, калі ён да нас прыязджаў, для дзяўчынак маіх то было сапраўднае свята. Яго вельмі захапляла дзіцячая непасрэднасць маёй Лены, яе мова і розныя ўчынкі. І вось апавяданне "Як звяргаюцца ідалы" прысвечана менавіта маёй Алёне. І ёсць малюнак да яго вельмі цікавы. Добрыя адносіны былі ў Валодзі і з маім мужам. Яны заўсёды з Іванам Мікалаевічам знаходзілі агульную мову. А як мае дочкі яго любілі! Яны і зараз свята шануюць яго памяць і прывіваюць гэта сваім дзецям. Ёсць у нас унучак, які названы ў гонар Уладзіміра Караткевіча, ёсць у нас унучак, які названы ў гонар свайго дзеда Івана. Так што вось такая ў нас пераемнасць...

**— Вы прыязджаеце ў бацькоўскую хату ў Оршу, дзе жыве цяпер ваша пляменніца, дачка вашага брата Валерыя. Гэтае вяртанне ў бацькоўскі дом — што цяпер для вас?**

— Вы ведаеце, я вельмі люблю вяртацца ў гэту хату. Можа, яшчэ і таму, што там жывуць вельмі добрыя людзі: пляменніца Раіса і яе муж Юрый, якія захоўваюць традыцыі нашай хаты. І ўшаноўваюць памяць Валодзі. Даглядаюць магілы нашага бацькі Сямёна Цімафеевіча і яго маці, нашай бабулі Наталлі, якія пахаваны на могілках на Пралетарскай вуліцы ў Оршы. І для мяне гэта заўсёды хвалюючы момант.

Нам жа прапаноўвалі аддаць хату пад музей літаратуры, абяцалі даць кватэру. Але мы не змаглі гэта зрабіць маральна. Не згадзіліся. Там сад — яшчэ шмат чаго пасаджана бацькавымі рукамі, маці колькі здароўя паклала, пакуль з папялішча паднялі гэтую зямлю. І нам усё тут дорага. Мы гэту хату вельмі любім і шануем. І стараемся яе як мага далей захаваць. Вуліца, дзе яна стаіць, да вайны называлася Вайнбэраўскім завулкам, потым стала вуліца імя Варашылава, потым — Касманаўтаў, а зараз яно носіць імя Уладзіміра Караткевіча. На хаце нашай ёсць мемарыяльная драўляная дошка, вельмі добра зробленая, што тут жыў, працаваў Уладзімір Караткевіч.

**— Наталля Сямёнаўна, "Зямля пад белымі крыламі", якую назваў нашу Беларусь ваш брат пісьменнік Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч, — чым пачыналася для яго? Калі прыйшло тое ўсведамленне сваёй нацыянальнай прыналежнасці, адчуванне беларускасці, як вы думаеце?**

— Відаць, цікавасць гэта ўсё ж прыйшла ў дзяцінстве. Можа, не дужа асэнсавана, бо ён жа быў яшчэ зусім малы. Але, як я ўжо казала, ён яшчэ тады захапляўся горадам, яго даўнінай. Ну і, канечне, вельмі моцны ўплыў меў на Валодзю (ён і сам пра гэта заўсёды згадваў) наш дзед Васіль Грынкевіч, матчын бацька, які стаў потым правобразам Вежы Загорскага ў рамане Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім". Чалавек дужа цікавы, які ведаў шмат паданняў, легенд, сам некалі працаваў на раскопках курганоў. І менавіта ад яго Валодзя пачуў легенды пра Вужыную Каралеву і Лебядзіны Скіт, пра звон, які патануў, пра горад на дне возера. Дзед Васіль расказаў Валодзю і легенду "Маці ветру" пра Крычаўскае паўстанне 1743-44 гадоў. Яна скарыстана Караткевічам у п'есе "Маці ўрагану".

Увогуле, мне здаецца, шмат дзедавых пераказаў увайшло ў Валодзеву творчасць. Калі дзед жыў у нас, яму ўжо было пад 80, ён амаль страціў зрок. Валодзя чытаў яму кнігі, газеты — быў яго вачыма. На маю думку, дзед Васіль даў Валодзю ў дзяцінстве ўрок натуральнай беларускасці. Бо маці наша па-беларуску не гаварыла, лічыла, што недастаткова ведае мову. Бацька больш карыстаўся дыялектам. А сустрэчы з дзедам Васілём адкрывалі Валодзю глыбіню беларускай народнай душы. Але ён наўрад ці тады пра гэта думаў. Хутчэй яго дзіцячую фантазію проста захаплялі цікавыя дзедавы расповяды.

А ўжо ў юнацтве, калі вярнуліся з эвакуацыі, адчувалася больш свядомасці ў яго інтарэсах. І, мне здаецца, асабліва Валодзя стаў звяртаць увагу на нашу гісторыю, на нашу беларускасць, на ўсё тое, што мы мелі і не цанілі — гэта калі ён вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. Гледзячы, відаць, на адносіны Украіны да сваёй спадчыны, да сваіх людзей, якія рабілі гісторыю, ён зразумеў, што мы таксама гэта маем. І тут ужо з'явілася асэнсаваная цікавасць і пачалася сур'ёзная праца.

**— Такія размовы вяліся ў вашай сям'і? Ён гаварыў пра гэта з вамі?**

— Гаварыў, канечне. Тлумачыў мне асабліва, што я цёмная і думала толькі, ці нельга збегаць у той Куцеінскі манастыр на танцы, дзе стаяў гарнізон ваенны, а зусім не думала пра тое, што там была друкарня, дзе друкавалі першы лемантар. Ну гэта, канечне, жартам. Бо, канечне ж, размовы, такія ў нашай сям'і вяліся. Праўда, ужо ў сталыя гады мы далекавата жылі адно ад аднаго, але... Усякую навінку Валодзя дасылаў мне ў Чэлябінск. І цікавасць да спадчыны, да беларускай культуры ў маёй сям'і — гэта дзякуючы Валодзю.

**— Наталля Сямёнаўна, вам, як сястры, як жанчыне, што найбольш падабалася ў вашым браце? У яго характары, у яго паводзінах?**

— Перш за ўсё, ён быў сумленны чалавек. Я ганарылася яго адносінамі да жанчыны. Ніхто не можа сказаць, што ён абразіў каго-небудзь. Наогул, у яго было шмат добрых якасцей.

**— Скажыце, калі ласка, вы маглі рабіць яму нейкія заўвагі, калі вам нешта не падабалася? Ён іх прымаў? Як увогуле ён да гэтага ставіўся?**

— Мне здаецца, я была адзіным чалавекам, якая магла рабіць яму заўвагі і рабіла. Нават на нейкім дні нараджэння я яму нешта сказала, і хтосьці з гасцей (ужо не помню) вельмі здзівіўся, што Уладзіміру Сямёнавічу робяць заўвагу! Ставіўся ён да гэтага па-рознаму. Але я магла так сказаць, што ён на мяне не скардзіўся. Так што... былі, былі заўвагі з майго боку...

**— То, мусіць, па праву старэйшай сястры. Пытанне яшчэ: вам побач з ім было цяжка ці лёгка?**

— Ну гэта пытанне, што называецца, на засыпку. Было цяжка і было лёгка. Бо адно другім кампенсавалася.

**— Вы як чытач яго твораў — як сябе адчуваеце? Скажам, успрыманне вамі ўжо не брата Валодзі, а пісьменніка Караткевіча?**

— Тут я вам скажу, што гэтыя пачуцці заўсёды перапляталіся. Па-першае, здзіўленне, што гэта напісаў мой брат і так цікава! І я не таму так кажу зараз, што гэта Валодзева. Проста я, сапраўды, вельмі люблю яго творчасць і, мне думаецца, яна ўсё ж вартая такіх слоў. Я часта звяртаюся і да яго прозы, і да паэзіі. І калі перачытваю, заўсёды думаю, як жа ён усё-такі шмат ведаў. І як умеў гэта падаць чытачу.

**— У вас любімы твор яго ёсць? Які, можа, найчасцей вам згадваецца?**

— Ведаеце, я ўсё люблю. Але, напэўна, у мяне ўсё ж такі любімы твор — раман "Каласы пад сярпом тваім". Я помню, як Валодзя перасылаў мне яшчэ часопісны варыянт у Чэлябінск. І, дарэчы, там таксама ў нас жылі беларусы, і я ім усім давала чытаць, і яны вельмі захапляліся. А вершы... Ой, вершы я ўсе люблю. Але той верш, які ён напісаў мне на 60-годдзе, заўсёды са мной. З памяці маёй не выходзіць ніколі.

**— Сённяшняя Беларусь, сённяшні наш дом без вашага брата, не пісьменніка Караткевіча, таму што пісьменнік Караткевіч застаўся ў сваёй спадчыне, а без брата Валодзі, які быў малодшы за вас і пайшоў з гэтага жыцця — які гэта сёння дзень без яго для вас?**

— Ведаеце, я часта думаю пра тое, чаму так лёс рабіў і робіць, што малодшыя ідуць раней за старэйшых? І як у дачыненні да Валодзі, то лёс тут вельмі несправядлівы, што ён пайшоў у такім узросце ад нас. Мог яшчэ жыць і жыць. Але, мусіць, так проста нічога чалавеку не даецца. Жыццё наша цяпер складанае. Але калі яно было ў нас нескладаным? Усе перыяды па-свойму складаныя. Як бы Валодзя ставіўся да цяперашняга часу? Я ведаю па некаторых пытаннях, пэўна ведаю, што і як бы ён рабіў. Але вось наогул — не знаходжу для сябе адказу.

**— Вы на сённяшні дзень маеце патрэбу ў яго падтрымцы?**

— Ну як вам сказаць? Без яго мне дрэнна... Проста дрэнна і ўсё...

**— Здароўя вам яшчэ на доўгія гады, Наталля Сямёнаўна, і дзякуй вялікі за гутарку.**

*Фота з архіва Наталлі Кучкоўскай.*

# КАЖУЧЫ АПОШНЯЕ "БЫВАЙ!"

*(Працяг. Пачатак на стар.4)*





Тое, што зроблена І. Чыгрынавым у галіне літаратуры, сведчаць яны, гэта без перабольшання сапраўдны подзвіг, асабліва, калі ўлічыць напісанае апошнім часам, калі пісьменнік, ужо цяжкахворы, не развітваўся з пяром, спяшаючыся выказаць тое, што было ў яго на душы, каб усім гэтым падзяліцца з чытачом. Творы І. Чыгрынава, найперш яго раманы — выдатныя старонкі сучаснай беларускай літаратуры, якая, дзякуючы творам менавіта падобнага кшталту, адчувае сябе ўпэўнена, роўнай сярод роўных поруч з самымі высокаразвітымі літаратурамі свету. Глыбокі сэнс набывае назва апошняга, пятага рамана з "верамейкаўскага" цыклу, які І. Чыгрынаў прапанаваў часопісу "Полымя" — "Не ўсе мы згінем". І. Чыгрынаў верыў у свой народ, верыў у яго шчаслівую будучыню і гэтай верай прасякнута ўся яго яркая і непаўторная творчасць.

Пахаванне І. Чыгрынава адбылося на Маскоўскіх могілках.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Фота А. МАЦЮША*

**Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь з глыбокім смуткам паведамляе аб заўчаснай смерці народнага пісьменніка Беларусі, старшыні праўлення Беларускага фонду культуры, члена Калегіі міністэрства Івана Гаўрылавіча ЧЫГРЫНАВА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

Адгалоскі

# ЗЛА ЛЮДЗЯМ НЕ РАБІЎ

За апошнія гады на старонках друку неаднаразова ўзнімалася пытанне аб навуковай дзейнасці, паводзінах і чалавечым вобліку былога дырэктара Інстытута літаратуры імя Я. Купалы акадэміка В. Барысенкі. Адны — некаторыя з іх, можа, яго і ў вочы не бачылі ніколі — чарнілі яго, абвінавачвалі ва ўсіх магчымых і немагчымых грахах, а іншыя — з ліку тых, што дзесяцігоддзямі працавалі з ім побач — абаранялі яго як чалавека спагадлівага і добразычлівага, як кіраўніка, які стварыў зладжаны і працаздольны калектыў ды яшчэ дбаў, каб у гэтым калектыве панавала атмасфера сапраўды творчая, спрыяльная для супрацоўнікаў і для работы.

Досыць крыклівую атаку супраць В. Барысенкі павёў А. Лукашук, літаратар-журналіст. Паўтараючы адны і тыя ж самыя аргументы, ён у сваіх публікацыях абвінавачвае былога дырэктара Інстытута літаратуры амаль што ва ўсіх бедах, якія напаткалі беларускую літаратуру ў 30-я гады.

Хоць ад яго апошняга выступлення ў друку прайшло ўжо больш года, але я не магу ніяк прымірыцца з тым, што на старонках газет можна гэтак ганьбіць чалавека, які ў асяроддзі сваіх калег пакінуў пасля сябе добрую памяць і які ў меру сваіх сіл і магчымасцей аберагаў супрацоўнікаў інстытута ад нападак, а то і ратаваў іх.

Лепш за ўсё я гэта адчуў на ўласным лёсе. У 1971 годзе я паступіў на работу ў Інстытут літаратуры, не паведаміўшы, што па палітычных матывах быў выключаны з партыі і адсядзеў 5 гадоў у астрозе. Хутка В.Барысенку паведамілі пра гэта адпаведныя інстанцыі. І калі б ён звольніў мяне з работы — а гэта ён у адпаведнасці з усёй тагачаснай практыкай абавязаны быў бы зрабіць, — то хто за мяне заступіўся б? Ніхто. Гэта я ведаў абсалютна дакладна. А я пераканаўся, што дырэктар па сваёй ініцыятыве і без катэгарычнага націску зверху мяне работы не пазбавіць. То ці маю я маральнае права забываць пра гэта?

Між тым на рубяжы 60-х і 70-х гадоў для Інстытута літаратуры агульная атмасфера была вельмі неспрыяльнай. У 1968 г. работа інстытута разглядалася на бюро ЦК КПБ, дзе сур'ёзная, гэта значыць, "прынцыповая партыйная" гаворка вялася пра недаравальныя ідэйныя памылкі навуковых супрацоўнікаў — А. Адамовіча, В. Каваленкі, А. Мальдзіса і іншых. Асаблівую трывогу ў партыйных інстанцыях выклікалі паводзіны М. Прашковіча і В. Зайцава. А тут яшчэ і я трапіў у калектыў. У выніку ўсяго гэтага В. Барысенка неўзабаве быў вызвалены ад пасады дырэктара.

А. Лукашук жа не палічыўся з думкамі і аргументамі тых, хто з дня ў дзень сустракаўся з В. Барысенкам і добра бачыў яго моцныя і слабыя бакі — А.Мальдзіса, В. Каваленкі, У.Казберука. Жадаючы канчаткова "выкрыць" В. Барысенку, ён спрабуе ўзяць сабе ў саюзнікі нябожчыка Ф. Янкоўскага. Той быццам бы расказваў пра выпадак, калі нейкі невядомы студэнт-завочнік яшчэ ў даваенны час падаў В. Барысенку запіску з пытаннем пра лёс Кузьмы Чорнага, але ў адказ пачуў нешта незразумелае. А. Лукашук нават думкі не дапускае, што такая запіска можа быць вынікам чарговай правакацыі органаў НКВД, якія шырока практыкавалі такія метады ў 30-я гады. І гэта тым больш верагодна, што аўтара дадзенай запіскі, як зазначае сам А. Лукашук, потым старанна шукалі, але не знайшлі. Хто жыў у 30-я гады і памятае той час, можа з упэўненасцю сказаць: калі б шукалі і хацелі знайсці, дык знайшлі б, прытым не толькі аднаго, але і 10 аўтараў.

А возьмем абвінавачанне В. Барысенкі ў дачыненні яго да арышту і асуджэння акадэміка АН БССР, члена-карэспандэнта АН СССР І. Замоціна. У якасці доказу А. Лукашук спасылаецца на акты Камісіі АН БССР, якая займалася вывучэннем і ацэнкай прац І. Замоціна. Але ж акты — дакумент калектыўны і роля В. Барысенкі ў іх складанні практычна невядомая. А. Лукашук і не цытуе гэтыя дакументы. Ён прыводзіць словы В. Барысенкі аб тым, што ведаў І. Замоціна на працягу 10 гадоў і толькі з дадатнага боку. Дык ці не на карысць В. Барысенкі гэтыя словы, сказаныя ў 1956 годзе?

Яшчэ В. Каваленка звярнуў увагу, як непераканаўча гучыць увесь набор доказаў аб дачыненні В. Барысенкі да асуджэння І. Мазура і М. Калінічэнкі. А. Лукашук звязвае ў адзіны вузел факты, якія аддалены адзін ад аднаго на 5 і больш гадоў (Гл.: "Звязда" ад 31 ліпеня 1988). Здавалася б, усе доказы ў наяўнасці: і рэцэнзія ёсць, і прызнанне рэцэнзента, што яна напісана не аб'ектыўна, і сам факт арышту І. Мазура і М. Калінічэнкі... Але вось што выклікае здзіўленне: напісана рэцэнзія ў 1936 годзе, а І.Мазур быў арыштаваны ў 1941. Што ж датычыцца М. Калінічэнкі, то яна арыштавана значна раней, але не як сааўтар рэцэнзаванай працы, а як жонка "нацдэма". Тут відавочная нестыкоўка ў камбінаванні фактаў. І пры гэтым наіўна думаць, што органы НКВД-КДБ для ажыццяўлення сваіх чорных спраў мелі патрэбу ў чыёй-небудзь рэцэнзіі, у іх былі свае мэты, свае "планы", свае метады расправы з невінаватымі...

Нежаданне лічыцца з гістарычнай эпохай, у якую жыў і працаваў В. Барысенка, калі галаслоўныя абвінавачванні, ходкія палітычныя ярлыкі, тыпу "нацдэм", "буржуазны нацыяналіст", "шавініст" і г. д., былі ў штодзённым ужытку і мы знойдзем іх, на жаль, у пераважнай большасці дзеячоў таго часу (у Ц. Гартнага, Я. Коласа, П. Глебкі, П. Броўкі, А. Александровіча, А. Куляшова, З.Бядулі, К. Чорнага і г. д.), імкненне знайсці ў біяграфіі В. Барысенкі факты, якія ганьбяць яго імя, хоць бы яны і былі вельмі ненадзейнымі, непрыманне сведчанняў тых, хто ведаў былога дырэктара і працаваў з ім многія гады, — гэтым, на жаль, вылучаюцца палемічныя выступленні А. Лукашука.

Сама ж горшае, што абвінавачваецца той, каго ўжо няма ў жывых, хто не можа сказаць у сваю абарону ні аднаго слова. І абвінавачвае малады чалавек, які не ведае таго, мінулага жыцця, не зведаў, дзякуй Богу, на самім сабе цяжкага прыгнёту ВКП (б) КПСС і яе органаў расправы НКВД-КДБ, — абвінавачвае, не прымаючы пад увагу ні духу таго часу, ні аб'ектыўных гістарычных прычын. Ён быццам не ведае, што ў 30-я гады не шукаць і не бачыць вакол сябе ворагаў мог толькі лазутчык імперыялістычных разведак, міжнародны шпіён, закляты трацкіст, бухарынец, зіноўевец, рыкавец. А тады ж нават самыя галоўныя і актыўныя экавэдзісты, выкрывальнікі ўсмоктваліся пякельнай сталінскай машынай у бяздонную чорную дзірку.

У кола яго не надта доказных абвінавачванняў патрапіў і В.Барысенка. Вось чаму аб'ектыўная і як мага больш поўная інфармацыя людзей, якія добра ведалі былога дырэктара і працавалі з ім — дазволіць найбольш аб'ектыўна разабрацца з гэтым пытаннем.

Перш чым трапіць у Інстытут літаратуры АН БССР, я прайшоў фронт, арышт у ліпені 1958 г. разам з трыма сябрамі па універсітэце, суд па арт. 58-10, 58-11 КК РСФСР, лагер і пакуты на працягу некалькі гадоў, пераезд з горада ў горад у становішчы ізгоя. Апынуўшыся у сценах акадэмічнай установы ў 1971 годзе, я вельмі добра адчуў іншую атмасферу жыцця, атмасферу творчага навуковага пошуку, якая панавала ў інстытуцкім калектыве. Аднак жа вельмі хутка я пераканаўся, што гэты настрой творчага пошуку не абыходзіцца кіраўніцтву інстытута дарма. Так, па распараджэнні акадэміка-сакратара Аддзялення грамадскіх навук К. Буслава неўзабаве былі запатрабаваны на праверку ў Аддзяленне планавыя тэмы супрацоўнікаў сектара тэорыі літаратуры (дзе я працаваў), працы яшчэ не закончаныя, "сырыя". Праверку яны прайшлі, але сляды "кантралёраў" выявіліся тут жа. "Мы прадухілілі ідэалагічную дыверсію", — выхваляўся праз некаторы час К. Буслаў. І адгаворвацца ад гэтай "дыверсіі", абараняць свае погляды, канцэпцыі прыходзілася і самім супрацоўнікам, і загадчыку сектара, прафесару Н. Перкіну, і, зразумела, дырэктару інстытута.

Як і ўсе кіраўнікі яго рангу, В. Барысенка і ў сталінскі і ў пасляcталінскі час (а можна ўявіць, што было ў 30-я гады!) падвяргаўся жорсткаму кантролю з боку ідэалагічных службаў. А паколькі ў яго была свая лінія ў падборы кадраў па прафесіянальным прынцыпе, аб чым пісаў У. Казбярук, у стварэнні спрыяльнай атмасферы ў калектыве, абароны права на сапраўдны навуковы пошук, аб чым сведчаць працы шэрагу даследчыкаў тых гадоў, — дык у яго заўсёды адшуквалі "непарадак", заўсёды хтосьці і ў чымсьці не ўкладваўся ў рамкі афіцыйнай ідэалогіі, і яго трэба было адстойваць, абараняць.

"Вярхам", вядома, усё гэта не падыходзіла. І таму невыпадкова неўзабаве прыйшоў дзень, калі В. Барысенку знялі з пасады дырэктара. Быў агульны сход, з адабрэннем яго дзейнасці і выказваннем падзякі за спагадлівыя адносіны выступалі многія супрацоўнікі. А сам В. Барысенка, звяртаючыся да К. Буслава, у сваім заключным слове сказаў: "А вы, Казімір Паўлавіч, былі несправядлівы да нашага інстытута. Колькі разоў на працягу ўсіх мінулых гадоў вы трэціравалі яго супрацоўнікаў. А мы абаранялі гэтых людзей, адстойвалі іх. І ў далейшым выяўлялася, што гэта лепшыя нашы супрацоўнікі". Ён не назваў прозвішчы, але ўсе мы ведалі, пра каго ідзе размова: пра А. Адамовіча, В.Зайцава, А. Мальдзіса, М.Мушынскага, А. Яскевіча і інш.

Сваё дачыненне да гэтай групы "нядобранадзейных" адчуваў у той час і я, таму што, па-першае, не давёў да ведама дырэктара аб сваім палітычным мінулым, калі паступаў у Інстытут, а неўзабаве мне стала вядома, што аб гэтым паінфармаваны не толькі ён, але і супрацоўнікі адпаведных аддзелаў ЦК КПБ, і, па-другое, я ўжо паспеў "вылучыцца" на адным з метадалагічных семінараў, калі ацэньваў творчасць В. Быкава з далёка не афіцыйных пазіцый і абараняў яго ад беспадстаўных нападкаў у савецкім друку.

Але і гэтая падзея не змяніла паводзін былога дырэктара. Працуючы яшчэ каля дзесяці гадоў на пасадзе акадэміка-кансультанта, В. Барысенка працягваў адстойваць лінію свабодамыснасці і творчых адносін да справы, абароны годнасці супрацоўнікаў інстытута і калектыву ў цэлым. Вось чаму не асобныя выпадкі праяўлення дабра, як піша А. Лукашук, а менавіта прынцыповыя і самастойныя паводзіны здабылі яму пашану і павагу супрацоўнікаў інстытута.

Зразумела, што, як і многія яго сучаснікі, ён мог памыляцца. І не трэба капацца ў архівах, каб выявіць гэтыя памылкі. Яны ў яго публікацыях, водзывах на працы іншых вучоных, у артыкулах, даследаваннях і г. д. Але пры ўсім тым, на што я звяртаю асаблівую ўвагу, ён не быў сляпым сродкам у руках вышэйстаячых органаў, не рабіў зла людзям, што акружалі яго. І мы, супрацоўнікі Інстытута літаратуры, гэта адчувалі і разумелі. І разуменне гэта было прычынай высокага аўтарытэту, важкасці яго імя, важкасці яго слова, асновай доўгай і пасапраўднаму ўдзячнай памяці аб ім.

Гэта і хацелася сказаць А. Лукашуку.

**Л. ГАРАНІН.**

**Кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН Беларусі**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Мова! З п'едэстала ля опернага крочыў Максім, са сквера — Купала, з плошчы — Колас, ідуць, размаўляюць уголас, і тысячы людзей размаўляюць з імі. Мова, ты не страціла язык свой і імя, бронзавая і жывая, ты гісторыя нашага краю, прышласць яго і надзея. Торгаюцца пігмеі, правяраюць маршруты: тут волаты, прыкутыя? А волаты з намі, у натоўпе яны, у грамадзе, мова з намі ідзе, у радасці і бядзе мова — наша аснова, мова вядзе!

•

З сялян — у інтэлігенты? Вітаем усіх, хто асядлаў веды. Але калі мовы не ведаюць інтэлігенты, — гэта не іх асабістая трагедыя. Мова — не ніва для эксперыментаў, дзе ж вы былі, настаўнікі прэзідэнта?

•

Прыемная навіна: усё, што не забаронена, дазволена. Непрыемная навіна: усё дазволенае забаронена.

•

Ад нас патрабуюць: ашчаджайце энергію, і мы ашчаджаем — за свой кошт. Але ці маральна гэта, калі ў пад'ездах лямпачкі гараць усю ноч? Месяц выплывае, месяц прападае, можа, і ён нешта ашчаджае, а лямпачкі ўсё гараць — не патухаюць. Дык ці ашчаджаем мы, ці не ашчаджаем?

•

Дзед паміраў, наказваў: лепш не думаць, а падумаўшы, не выказваць. Не стрымаўся і нешта вымавіў, дык навошта след пакідаць, галоўнае — гэта стрыманасць, не варта нічога пісаць. І напісаўшы, можна ўратавацца, калі не падпісацца. Маўчы, не прызнавайся, а падпішашся, не здзіўляйся... Слухаў унук пачціва споведзь пакалення маўклівых.

•

Пеўнік узляцеў на плот. "Першая прамова", — узнялі ў куратніку галовы. "Таптаў я ўсіх!" — пракукарэкаў пеўнік.

•

— Котка чэшацца! — узрадавалася дзіцятка. — Якая грацыя! — з захапленнем сказала маці. — Зноў на маіх паперах, — буркнуў тата. — Лашчыцца, падліза, — ашчэрыўся шчанюк. — Ліст будзе. — паабяцала бабка. А котка ўсё часалася — блохі даймалі...

•

Бачыў пенсіянера, што вывешваў на ганку сцяг са сваімі медалямі. Шчодра разлічылася дзяржава бляшанкамі з генерацыяй, што лягла касцямі. Шуміць на вуліцы дэманстрацыя, ветэраны "печатают шаг", а дзе, скажыце, медаль "За калектывізацыю" і ганаровы знак "За ГУЛАГ"? Мо закралася недзе трывога, што прывілеяваных будзе замнога?

•

У страуса крылы дзябелыя, ну проста як у анёла. А птушка лічыць: галоўнае — хаваць пад іх голаў. Дык ці крылы адны вінаватыя, што не лунае крылатае?

•

Стаяць на сталічным пагорку дамы, у адным — рэзідэнцыя, у другім — фаліянты. У адзін на бяседу запрашаюць тамы, другі ачэплены міліцыянтамі. Я б уладарныя тыя двары не назваў нават канкурэнтамі. У адным часовыя гаспадары, другі незалежны ад рэферэндумаў. Так яно, зрэшты, і мусіць быць: усе мы часовыя, мове — жыць!

•

Не ўкленчваць, калі сагнулі, не згінацца, калі пхнулі. "Адказваю іншым чынам", — сказала спружына.

•

Па Дэйлу Карнегі. Як трымаць у цуглях незадаволеных? Час ад часу пужаць: "Звольню!" А не ўхваляць дзейнасць такую, дык гразіць: "Рэарганізую!"

•

Тэлеграфная мова нешматслоўная, можа, так размаўлялі велікамучанікі. Дык і мы цяпер эканомныя, не ўжываем прыназоўнікі і злучнікі. А ўзмоцніцца тэлефонная дыктатура, пяройдзем на абрэвіятуры.

•

Наша рэклама? Чысты слайд. Прастата. Пустата. Пустатайд.


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:** Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985
літаратурнага жыцця — 332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 332-204
паэзіі і прозы — 332-204
музыкі — 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462
навін — 332-462
мастацкага афармлення — 332-204
фотакарэспандэнт — 332-462
бухгалтэрыя — 268-640

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 6080.
Нумар падпісаны 11.1.1996 г.
Заказ 127/Г

П 123456789101112
М 123456789101112